Міхась Амялішка

# Як жыць, дык жыць для Беларусі

Гутаркі
з Алесем Белакозам

Мінск
«Кнігазбор»
2012

УДК 75.071.1(476)(092)+929 Белакоз
ББК 85.143 (4 Беи)
А61

**Амялішка, М.**
**А61** Як жыць, дык жыць для Беларусі : гутаркі з Алесем Белакозам / Міхась Амялішка. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 120 с.
ISBN 978-985-7057-10-8.

Алесь Белакоз — заслужаны настаўнік Беларусі, заслужаны дзеяч культуры, стваральнік унікальнага Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-гістарычнага музея. Чытач даведаецца пра жыццё А. М. Белакоза, яго педагагічную і грамадскую дзейнасць, а таксама знойдзе рэцэпты нетрадыцыйнай медыцыны, распрацаваныя героем кнігі.

**УДК 75.071.1(476)(092)+929 Белакоз**
**ББК 85.143 (4 Беи)**

**ISBN 978-985-7057-10-8**

© Амялішка М., 2012
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2012



# Як жыць, дык жыць для Беларусі

## Інтэрв'ю з Алесем Мікалаевічам Белакозам

Паходжанне. Вучоба. Змаганне за незалежнасць Беларусі. Служба ў войску і праца ў школе. Стварэнне нацыянальнага музея і пры ім аддзела народнай медыцыны.

**Міхась Амяліўка:** *Алесь Мікалаевіч, распавядзіце пра сваё паходжанне.*

**Алесь Белакоз:** Нарадзіўся я 11 верасня 1928 года тут, у Лятках. Гэта вёска каля самых Гудзевічаў (населены пункт у Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці), нават тая хата была на гудзевіцкай зямлі. Належала да Гудзевіцкага сельсавета Ваўкавыскага раёна. Нарадзіліся мы ўдвох. Старэйшы брат, які на гадзіну раней за мяне з'явіўся, быў моцны, дужы, прыгожы. А я вельмі замораны. Ніхто не думаў, што выжыву, бо, казалі, не мог плакаць, а часам толькі папіскваў, як кацянятка.

Тата быў малазямельны селянін — Мікалай Язэпавіч Белакоз. Нас было тры браты і сястра. Але на ўсю сям'ю было ўсяго чатыры гектары зямлі. Трэба было па гектару дзяліць… Таму наш бацька вымушаны быў у 1926 годзе (калі мы былі пад Польшчай) паехаць працаваць у Бразілію. Чаму ў Бразілію? Таму што палякі стараліся беларусаў не пускаць у Злучаныя Штаты, бо там можна было зарабіць. А ім трэба было, каб беларусы былі парабкамі, каб яны не мелі грошай, зямлі. У Бразіліі бацьку ўдалося сёе-тое зарабіць. Прыехаў. Хацеў купляць зямлю, але яшчэ ў Першую сусветную вайну ён быў моцна па-

ранены — у кавалерыйскай атацы трапіў пад перакрыжаваны агонь... Адна нага была на чатыры сантыметры карацейшай. Моцна кульгаў, рана адкрылася яшчэ там, у Бразіліі. Адным словам, прыйшоў да высновы, што будзе цяжка хадзіць за плугам ці бараною з такой нагой. І вырашыў гандляваць. Адчыніў крамку. Купіў гліняную хатку за 250 пудоў збожжа (гэта 30-я частка сённяшняга кошту аднапакаёвай кватэры). У гэтай хаце я і нарадзіўся.

Маці распавядала, што 1928 год быў з вельмі цяжкай зімою, калі тэмпература даходзіла да мінус 40 градусаў. На гліняных сценах хаты нарастаў лёд. Палілі дзень і ноч печку, лёд зверху раставаў, а ад сцяны нарастаў... Дзяцей трэба купаць, бацька то свінчо нейкае купляў, каб зарэзаць яго і прадаваць у гэтай краме, то корм здабываў карове, каню, то ехаў па тавары ў Гродна. Адным словам, быў у раз'ездах. Маці адна павінна была і гандляваць, і жывёлу даглядаць, і дзяцей гадаваць. Мама гаворыла:

— Купаю і думаю: усё роўна двух я не выгадую — хтосьці з хлопцаў не вытрывае... Ну, не вытрымае слабейшы.

Калі пакупае, то мяне паложыць на ложак, накрые чым крыху, але адзявае хутчэй брата, каб ён выжыў, а я ўжо ўсё роўна ж асуджаны на смерць. Што ж ты зробіш?.. І вось мама так мяне загартавала, што калі ў 1929 годзе нам было па году і мы захварэлі на халярыну (нястраўнасць, ваніты), то брат не вытрымаў, памёр, а я... выжыў.

На жаль, у час Другой сусветнай вайны майго бацьку бандыты забілі. Гэтыя зладзеі былі расейцы і мясцовыя. Але як ужо мела прыйсці савецкая ўлада — яны сталі... партызанамі.

Было так. Ішоў 1943 год. Прыходзіць татава сястра, яна жыла ў Масалянах (сем кіламетраў ад Гудзевіч), і кажа:

— Ці да вас прыходзяць партызаны?

— Ну, а да каго ж яны не прыходзяць, да ўсіх прыходзяць. Папросяць есці, парцянкі, боты якія — як ёсць, то дамо.

— Вы знаёмых пускайце, незнаёмых — не пускайце.

— Чаму?

— Да бацюшкі Бароўскага ў Лашы прыйшлі ноччу партызаны. Ён іх пусціў. Папрасілі ежы — ён даў ім ежы. Кужалю

на анучы даў. Там яшчэ нешта. А раніцай прыходзяць немцы разам з тымі «партызанамі» (бо гэта былі ўласаўцы) і ўсю сям'ю расстралялі: і бацюшку, і матушку, і дзяцей. Так што асцерагайцеся.

І вось летнім вечарам ляглі мы спаць. Толькі заснулі ў тым пакоі — стук у вокны. Гадзін дванаццаць было. Тата пайшоў. Пытае:

— Хто?

— Паліцыя!

— Будзе дзень — прыходзьце, не пушчу вас.

— Мы партызаны.

— А чорт вас ведае — хто: паліцыя ці партызаны… Не пушчу.

— Мы будзем страляць!

— Страляйце.

Пастралялі па вокнах — тата не адчыніў. Мама пад стол схавалася, дык па стале гэтым стралялі, дзверы ўсе ў дзірках ад куль. І па печы, і па столі стралялі, не шкадавалі патронаў. А тады кінулі гранату — і разарвала бацьку гэтай гранатай. А мама мне:

— Бяжы на сальку.

У нас там было два пакойчыкі на гарышчы, там сястра спала. Дык яна пытае:

— А што тут робіцца?

— Бандыты напалі.

А акно адчынена. Адзін партызан загадвае:

— Полезай в окошко.

А гэты:

— Убей — не полезу.

Сястра пытае:

— Што будзем рабіць, як будуць лезці?

— Крэслам па галаве, — адказваю.

Не лезлі, баяліся. Сястра пытае:

— А чаму не адчыняеце?

— Тата сказаў, што не будзем адчыняць.

Але сястра прайшла праз пакоі, адсунула засоўку і пусціла бандытаў. Яны ўварваліся, убачылі, што ляжыць тата забіты:

— Убили человека, убили человека. Почему не открывали?..

Мама ў той дзень прала бялізну і бяліла маткі, прадзеныя з лёну, — трыццаць шэсць маткоў. Гэтыя маткі і развесіла сушыцца на гарышчы. То адзін партызан напамінае свайму бацьку:

— Мама казала, каб ёй льняныя маткі бралі.

І забралі. 36 маткоў — гэта каля васьмі кіламетраў ніткі.

Нашто партызанам столькі ніцей у лесе? Хіба ў лесе яны ткаць будуць? Ясна, што зладзеі.

Мама кажа:

— А каб ты, сынок, тую кашулю, што мама табе пашые з крадзеных маткоў, здаровы знасіў...

— Молчи, б...! Убью!

Пад рускую мову касілі яны — камандавалі імі рускія.

Гэта потым ужо яны сталі партызанамі. А так яны былі зладзеі.

Я чамусьці так думаю, што тады быў у гэтым атрадзе, можа, і Карпюк. Чаму я так думаю? Ён мне аднойчы кажа:

— Ты ведаеш, я, як вучыўся ў Навагрудку, закахаўся ў тваю сястру, яна нічога не ведала пра гэта.

А тут пазабіралі ўсё, што было.

А нейкі падшыванец на яе:

— Снимай платье.

Яна не здымае. Ён да яе, да сукенкі — яна яму плясь па твары. Ён наставіў вінтоўку — будзе страляць. А нейкі высокі партызан яго за каўнер выкінуў з хаты і загадаў:

— Каб ты ў гэтую хату больш не заходзіў ніколі.

Сястра сцвярджала:

— Я пазнала, ён вучыўся ў Навагрудку, у педвучылішчы.

Нас, вядома, пасля вайны вывезлі б бальшавікі ў Сібір. Але ў час нямецкай акупацыі сястра вучыла тут дзетак па савецкіх падручніках, вядома, інакшых не было. Немцы тут школаў не адчынялі, бо яны лічылі гэтую мясцовасць, Беласточчыну, не Беларуссю, а нечым асобным — Усходняй Прусіяй. А ва Усходняй Прусіі беларускіх школ не адкрывалі. То яна, Вера Мікалаеўна, патаемна вучыла гэтых дзетак. Усіх вучняў было дзясяцера, у тым ліку і мая жонка, яе сястра і брат таксама хадзілі вучыцца сюды. Хадзілі вучыцца трое дзяцей расстраляных немцамі бацькоў. Дарэчы, мая жонка і не забараняла мне гэты музей рабіць у Гудзевічах з-за таго, што яе патрыятызму

вучыла Вера Мікалаеўна. Бо іншая жонка не вытрымала б: па дзве-тры партыі гасцей у дзень, экспанаты за свае грошы куплялі. А якая зарплата ў настаўнікаў? Праўда, мелі карову, свіней, гарод, садзілі бульбу. То жылі, есці мелі што. А як тут пасля вайны следчыя з КДБ пайшлі да гэтых мацярок, чыіх мужоў расстралялі немцы, тыя жанчыны на каленях прасілі, каб не чапалі Веру Мікалаеўну, бо іхнія дзеці хадзілі вучыцца, хаваючыся ад немцаў:

— Каб немцы ўбачылі, то яе расстралялі б або ў лагер заслалі. А цяпер вы чапляецеся…

І не чапалі нас.

Тут яшчэ адразу пасля вайны адзін настаўнік параіў мне піць гарэлку. «Бо, — кажа, — надта нкусаўцы любяць тых, хто п’е гарэлку. Хто сістэматычна ўжывае алкаголь, — калі п’е, значыць, іх чалавек». Вядома, настаўніцкая праца складаная — я шмат працаваў. А ўжо ў нядзелю, калі вып’ю сто ці дзвесце грамаў, то прыкідваюся на літр. І нават пайшла такая пагалоска, што Белакоз — алкаголік, з чаго я вельмі цешыўся. То, можа, усё гэта ўлічваючы (сам алкаголік, сястра ў яго такая…), і махнулі рукой — не вывезлі.

А каго бальшавікі падтрымлівалі? Тут быў такі чалавек-злодзей — яго немцы расстралялі, — то сынок гэтага чалавека стаў сакратаром сельсавета. Тое, што прыслалі такую характарыстыку ў інстытут, — яго работа… (Гаворка пра тое, чаму мне не далі паступіць у медыцынскі інстытут.)

Аднойчы еду я на ровары — ён стаіць. Думаю: «Ад яго любой пакасці можна чакаць. А здаровы як бык». І ён мне цап — за руль. А я руль моцна трымаю — вырваўся і паехаў. А потым ён прыходзіць да мяне з прэтэнзіяй:

— Ты мне руку пакалечыў.

А яму лапкай ад званка разваліла ўсю далонь. Кажу:

— Дык хто ж так робіць? Ты ж падняў бы руку — я б спыніўся. А ты хапаеш за руль. Я ж мог упасці, забіцца.

Так што вось такая сволач была. Дзяўчат гвалціў, краў у людзей, потым забіў чалавека — яго ў турму пасадзілі.

Вось такія бандзюгі былі ва ўладзе. Гэта апора савецкай улады была…

**Міхась Амялішка:** *А як вы, Алесь Мікалаевіч, атрымалі сярэднюю адукацыю? Дзе і калі вучыліся далей?*

**Алесь Белакоз:** Яшчэ ў час вайны мы з сястрой паспрачаліся: яна мяне нямецкай мове і лаціне пачынала навучаць, а я на дыбы:

— Як немцаў перамогуць, то хто будзе вывучаць лацінскую мову?

Мама падтрымала:

— І праўда.

— То навошта яе вучыць? Дзе ты чула, каб у якой савецкай установе вывучалі лацінскую мову, можа, толькі ў медыцынскіх: вучылішчы, інстытуце. Не буду вучыць лацінскай мовы.

Сястра зазлавала:

— Як вы такія разумныя, то я яго вучыць не буду.

Тут настаўніца побач жыла — я да яе хадзіў. Геаметрыю вывучыў за дзевяць класаў, а алгебру — ніяк… Бо не было падручніка.

І ўсё ж я адразу пасля пяці класаў у 1944 годзе паступіў у восьмы клас Ваўкавыскай школы. Было так. Настаўніца матэматыкі прыйшла, пытаецца, хто за колькі класаў ведае алгебру.

Кажу:

— Я не вывучаў алгебры ні ў шостым, ні ў сёмым — матэматык хварэў.

— Не бывае так, каб матэматыку два гады не вывучалі ў школе, вы няпраўду кажаце, я буду дабівацца, каб вас перасадзілі ў сёмы клас.

Другі ўрок геаметрыя. Яна прыходзіць. І з парога дае задачу:

— Хто можа рашыць?

Адна мая рука паднялася. Я пайшоў да дошкі, задачу раз-два рашыў.

— Што ж вы мяне падманваеце? Калі б вы не ведалі алгебры, дык гэтую задачу не рашылі б, — сказала настаўніца.

І не дабівалася, каб перасадзіць мяне ў сёмы клас.

Так я застаўся ў 8-м класе. Часта бывала, што настаўніца не можа рашыць задачу, якую пачнём на ўроку. То спачатку спрачаецца са мной, а потым выклікае да дошкі, каб я рашыў…

Я скончыў дзесяць класаў. У той час гэта лічылася велізарнай адукацыяй. На ўвесь Ваўкавыскі раён у 1947 годзе было трынаццаць выпускнікоў, нас з рукамі адрывалі — на працу бралі: у райкам партыі, райвыканкам — ідзі толькі і працуй, бо такая адукацыя. Дзесяць класаў!

У 1947 годзе паступаў у Мінскі медыцынскі інстытут (у Гродне тады медыцынскага не было). Вырашыў, што найбольш памагаць (рабіць беларускую справу) можна, калі буду лекарам. Праўда, відаць, памылковы быў погляд. Магчымасці лекараў таксама вельмі абмежаваныя. Ну, але паступаў. Так здарылася, што атрымаў тры пяцёркі і па фізіцы чацвёрку — дзевятнаццаць балаў набраў: хлопцаў прымалі з васямнаццаццю, а дзяўчынак — з дваццаццю.

Тым часам у спісах, вывешаных прыёмнай камісіяй, мяне не было. Дырэктар медінстытута кажа:

— Мне з ЦК прыйшло ўказанне, што самых маладых — сямнаццаць прынятых чалавек — адлічыць… Бо пайшлі ў ЦК партызаны, члены партыі. Ім ужо хутка па 35, іх далей прымаць не будуць. А вы маладыя, яшчэ паспееце…

Я год у хаце займаўся гаспадаркай: было ў нас тры гектары зямлі, гектар сенажаці. Крышку рыхтаваўся, усё роўна тое-сёе падзабыў. Праз год здаў горш экзамены — па конкурсу не праходжу. Але дырэктар аб’яўляе:

— Адна дзяўчына выпрацавала ў калгасе 221 працадзень, паступае другі раз, моцна хоча быць лекарам — і мы яе прымаем.

Кажу:

— І я такі ж!

— А вы дзе адпрацоўвалі працадні?

— Дык калгасаў у нас няма, я малаціў, рабіў тое ж, што і яна, — баранаваў, сеяў…

— Не, мы не можам. Каб вы мелі працадні, мы вас прынялі б…

Пайшоў забіраць дакументы, а мне сакратар з прыёмнай камісіі, жанчына, кажа:

— Вы ведаеце, вы так падобны да майго сына. Я вам вельмі спачуваю. Вас ніколі не прымуць, бо з сельсавета прыйшла характарыстыка на вас (яна ў вашай асабістай справе), што ваш бацька «амерыканец» і яго забілі партызаны.

**Міхась Амялішка:** *Раскажыце, Алесь Мікалаевіч, як і дзе вы пачыналі сваю працу.*

**Алесь Белакоз:** Зразумеў, што вучыцца мне на лекара няма магчымасці — не дадуць. Паехаў у Ваўкавыск у райана, каб далі месца настаўніка. Бо маміны браты, мае дзядзькі, прысудзілі, што трэба ўжо працаваць. Маці была ў гадах (яна 1895 года нараджэння). Маўляў, будзеш працаваць, зарабляць нешта, дык будзеш жыць. Акрамя таго, сястра была вельмі добрай настаўніцай, ды загадчык райана быў мой класны кіраўнік і дырэктар нашай школы. Ён ведаў, што я добра вучыўся, асабліва матэматыку любіў.

Як ён назначаў мяне матэматыкам у сельскую школу, то я кажу:

— Павел Сямёнавіч, я ж мовавед.

— Ха-ха-ха, да какой же вы мовавед. Вы математик. У вас по белорусскому языку тройка была.

І праўда, у мяне тройка была па беларускай мове. Бо я яе ніколі не вучыў. Пры немцах падручнікаў не было. А без падручніка — якая вучоба?

Так у 1948 годзе стаў я працаваць настаўнікам пачатковых класаў у Гудзевічах. Выкладалі па-беларуску. Колькі мог я вёў патрыятычную выхаваўчую працу, але гэта трэба было рабіць асцярожна, бо дырэктар быў вельмі пільны — ездзіў дакладаць на мяне ў райана.

У 1948 годзе ў канцы траўня памерла мая сястра Верачка (яна на сем гадоў за мяне старэйшая). Якраз экзамены былі па матэматыцы. Прыехаў інспектар па матэматыцы Стольнікаў, а ўваходзяць вучні — плачуць, настаўнікі плачуць. Яе вельмі цанілі, любілі (яна вяла пачатковыя класы, нямецкую і беларускую мовы ў пятым класе). Яна з дзяцінства мела клапан у сэрцы, які кепска адкрываўся, і калі праходзіла метраў сто — станавілася ўся сіняя і задыхалася. Недзе, можа, у якім 1901 годзе зрабілі першую аперацыю на гэта. Я ўжо падумаў, што мы ж мелі тут дзве каровы, мы прадалі б гэтых кароў, бо з настаўніцкай зарплаты нічога не возьмеш, і ўжо дабіліся б у тую Маскву, і лячылі б яе. Але яна не дажыла да таго, як пачалі рабіць такія аперацыі. Ёй прарочылі ў Вільні ў клініцы, што яна пражыве да 18 гадоў, а яна пражыла да 26 з лішнім…

І тады я падумаў, што рабіла добрую справу Верачка — выхоўвала дзяцей у патрыятычным духу, а я вось нічога не зрабіў, трэба нешта рабіць. Знайшоў нейкую польскую кнігу, у канцы якой на апошняй старонцы ў рамцы быў антыбальшавіцкі заклік (я ўжо не памятаю — які). Я яго выразаў акуратна, намазаў клеем. Калі добра так ужо сцямнела, паехаў на мост на ровары, агледзеўся і лістоўку прыклеіў да парэнчы. І паехаў. З'ездзіў у той бок і назад. Тады гэтага ніхто не заўважыў, бо ўжо цямнела.

Назаўтра ўжо прыдумаў нейкую патрэбу і сказаў маме, што мне ў Міткавічы трэба. Паехаў у тыя Міткавічы, убачыў — прыклеенае да парэнчы садранае нажом… Мне спадабалася.

Я знайшоў ад камеры трактара кавалак тоўстай гумы і на ёй выразаў: **«Беларусы, змагайцеся за сваю незалежнасць!»** Заклаў гэта ў прэс-пап'е і наштампаваў лістовак.

Еду ў Мінск здаваць другі раз экзамены ў медыцынскі інстытут. Набраў лістовак, і ў цягніку: праеду некалькі станцый, заходжу ў туалет і штук па дваццаць выкідваю праз акно. Цягнік ідзе — яны паляцелі. Нехта ж знойдзе. Потым праз гадзіну ізноў, ізноў. Заставалася ў мяне штук восемдзесят ці сто, завёз у Мінск.

У Мінску хадзіў па пад'ездах, у скрынкі кідаў. Разбіты быў гэты Мінск. І шапік стаіць. Памятаю, за шапік зайшоў — цаглінкай лістоўку за канец прыціснуў, каб вецер не панёс. Купіў у парку газету і пакінуў яе на лаўцы з лістоўкай.

Ведаеце, я дурны тады быў. Прыходзіў цягнік у Мінск у дзевяць гадзін раніцы летам, гэта ўжо позні ранак — ужо маглі мяне сустрэць у Мінску,ператрус зрабіць ва ўсіх, не толькі ў мяне. Дзякуй Богу, не зрабілі.

У Гродне што б ні нёс, усё перетрасалі чамусьці. Патрабавалі:

— Пакажы, што нясеш.

Перагледзяць — ідзі. Мама везла аднойчы гарэлку, то салдата папрасіла нейкага: салдат пранёс буталь гарэлкі ў мяшку. Калі б яе ўбачылі, то арыштавалі б і судзілі — самагонка (трэба ж было жыць, настаўніцкая зарплата такая, што на яе не пражывеш). Сястра атрымлівала дзвесце пяцьдзясят пяць рублёў. Працавала дзень і ноч. Яна магла за гэтыя грошы ку-

піць або дваццаць тры кілаграмы бульбы, або паўпуда жыта. За месяц яна зарабляла восем кілаграмаў жыта, гэта ўсё. Дык мама ратавалася. Як яна давала рады? Вы ведаеце, у нас заўсёды збіралася моладзь, прыходзілі вясковыя дзяўчаты, сяброўкі Веры — заўсёды пачастункі нейкія. І ўсё гэта было, не ведаю, скуль яно бралася. Цяпер мае дзеці кажуць:

— Каб на кухні шафу выкінуць.

Пярэчу:

— Нельга, гэта шафа вельмі шчаслівая. Яна ў 1928 годзе зроблена, у год майго нараджэння. І яна ўвесь час поўная. Пакуль я буду — хай яна будзе. Як я памру — тады выкідвайце...

Як я ехаў у Мінск, заехаў да святара Жалезняковіча. Яго бальшавікі арыштавалі і далі 25 гадоў, сыну — дзесяць гадоў (яму — пасля 1948-га, сыну — у 1945-м). У мяне яго малодшы сын (жулік, дарэчы, потым спіўся) просіць:

— Ты купі мне пугач. Прадаюцца такія, як наганы з выгляду, толькі на коркі: закладваецца корак і страляе. Дваццаць пяць рублёў каштуе і дваццаць пяць рублёў я дам табе на коркі — дваццаць пяць коркаў купі.

І дахаты трэба ўжо ехаць. Думаю, што ізноў буду пускаць тыя лістоўкі, што засталіся. (А я цягаў іх з сабою ў падручніку хіміі. Гэта ж мог нехта гэты падручнік узяць, пачытаць. Божа ж мой! Я не ведаю, як я выкруціўся з гэтага ўсяго.) Ехаць дахаты, а білетаў ніякіх не купіш нідзе. Усе сядаюць: хто лезе на дах вагона, хто на буферы, хто дзе — аблепяць вагон поўнасцю. А білетаў няма, не прадаюцца — білеты толькі камандзіровачным. Я на буфер забраўся. Ад'ехаў цягнік метраў чатырыста, спыніўся, акружыла міліцыя, нас пазабіралі і павялі ў міліцыю. Мяне нейкі капітан завёў у асобны пакой, усунуў руку ў кішэню, а там гэты наган. Дастаў, кажу:

— Гэта пугач.

— А как он стреляет?

— Во — корак.

Ён залажыў корак — не выстраліла чамусьці. Хто яго ведае, чаму. Так ён яшчэ з другога корка накрышыў сярнічкі і як выстраліў, дык толькі рукаятка засталася ў яго, а ўсё астатняе разарвала.

Ён кажа:

— Ведаеш што, я нарабіў табе ўбытку — ідзі ты адсюль.

Дзякуй Богу, што я купіў гэты пугач.

Выйшаў, а сонца свеціць. Я іду сабе па плошчы перад вакзалам у Мінску... І раптам астатнія коркі — бабах!!! Выбух страшэнны... Дваццаць тры коркі. Дым вакол мяне. Падскоквае міліцыянер:

— Кто стрелял?

Я адказваю:

— Рыжы нейкі.

Я ведаў, што рыжых мала.

— Где он?

— Вось туды пабег.

Ён туды, а я ў іншы бок — і ўцёк. Тыя лістоўкі там пад нейкую цагліну паклаў і сам адышоў метраў чатырыста за тое месца, дзе акружалі гэты цягнік (бо яны ж ізноў будуць акружаць). Ізноў цягнік аблеплены. Ізноў акружылі, ізноў пазабіралі ўсіх. Тады, як цягнік пачаў ісці, я на падножку — і паехаў. Дзякуй, правадніца добрая аказалася, пусціла мяне ў вагон, дазволіла на трэцяй паліцы спаць. Прыехаў аж у Чарлёну. Вось так скончылася гэта мая справа.

І я тады вырашыў, што гэты метад змагання трэба кідаць. Бо ўлады за кожную такую вылазку арыштоўваюць людзей і невінаватыя ідуць у турму.

**Міхась Амяльішка:** *І так вы вырашылі заняцца настаўніцкай працай?*

**Алесь Белакоз:** Я пачаў працаваць настаўнікам у 1948 годзе ў Гудзевічах, але ўжо ў 1949 годзе мяне вызвалілі з працы за тое, што хадзіў на ўсяночную, у царкву.

Я паехаў да Паўла Сямёнавіча Кісялёва — загадчыка райана:

— Вы казалі на канферэнцыі, каб настаўнік ішоў на свята ў царкву і запісваў, хто з вучняў ходзіць. І потым вёў з імі работу. Я пайшоў.

— А вы говорили директору, что пойдёте с такой целью?

Пярэчу:

— Вы ж не казалі, што трэба дырэктару паведамляць, я паслухаў вас, а вы мяне выганяеце з працы.

— Ладно, едьте работайте. В церковь больше не ходите.

Так што дырэктар школы добра дакладаў…

Нават такое было. Я стараўся на кожным уроку весці доследы. І вось у нас дослед — перагонка вады. Сканструяваў невялічкі самагонны апарат, такую зрабіў спіртовачку. Ваду падфарбаваў чарнілам. Кажу:

— Дзеткі, калі мы запалім газоўку, то з трубкі будзеісці ўжо чыстая вада.

Закапала чыстая вада. Кажу:

— Паколькі мы ўжо закіпяцілі яе, давайце яшчэ другі зробім дослед.

Зрабіў, каб пара круціла папяровую турбіну. Кажу:

— Калі гэтай пары многа, то можа вялікая турбіна круціцца і выпрацоўваць электрычнасць. І яшчэ адзін цікавы дослед зробім: калі бутэлечку з вадой коркам заткнуць і нагрэць, то корак вырве.

Заткнуў корак, стаў грэць бутэлечку, корак вырвала, і з сілай вада паляцела ўверх. А там вісеў партрэт Сталіна (вядома, без шкла, бо нават вокны фанерай былі тады застаўлены). І трапілі кроплі гэтай замаляванай вады на партрэт.

Дырэктар, які прысутнічаў на ўроку, адразу ўстаў і… пайшоў. Урок скончыўся, тэхнічка адразу кажа, што мяне выклікае дырэктар. Я пайшоў, ён страшыць:

— Я вынужден доложить об этом деле. Вы специально это сделали, чтобы опорочить товарища Сталина?

Адказваю:

— Дакладвайце. Толькі невядома, каму горш будзе. Я малады настаўнік і не ведаў, што так будзе. А вы, настаўнік з досведам, ведалі, што так будзе, і дазволілі спаганіць партрэт таварыша Сталіна. Хто ж з нас больш вінаваты?

Дырэктар маўчаў, як рыба. Тут жа знялі гэты партрэт, павесілі партрэт з іншага класа сюды. Так што былі ўсялякія выпадкі.

Вы ведаеце, мне шанцавала на дырэктараў. Першы, праўда, быў свалачны. Кожную суботу ён ездзіў у райана і дакладаў. Спачатку прыйшоў у райана і кажа інспектару:

— Я ішоў і ўбачыў, што Белакоз у кампаніі з моладдзю выпівае ў ляску, і ён павярнуўся да мяне заднім месцам, калі ўбачыў, што я іду да яго.

— А нашто ж вы пайшлі туды, дзе яны выпівалі? Белакоз правільна зрабіў, што павярнуўся да вас мяккім месцам.

Далей дырэктар дакладае інспектару і кажа:

— Кожную суботу настаўнік павінен абысці ўсіх сваіх вучняў, а ў нядзелю апісаць гэты паход. У панядзелак далажыць мне.

— Ну вы ж і тупы чалавек. Гэта трэба рабіць адзін раз у год, а калі ён будзе гэта рабіць і ў які дзень — гэта залежыць ад яго. А не кожны тыдзень.

Ездзіў дырэктар дакладваць увесь час на мяне, але інспектар добра да мяне ставіўся. Яму вельмі падабаліся мае ўрокі. Інспектар Цыманаў быў, відаць, з прыстойнае сям'і, вельмі інтэлігентны чалавек. І вось гэта мяне, напэўна, ратавала.

У 1950 годзе зноў вызвалілі з працы, але, дзякуй Богу, у тым годзе мяне ўзялі ў армію (я з арміі прыйшоў — зноў стаў працаваць, вярнуўся ў 1952-м, у самым канцы).

Там, у арміі, сілай прымушалі мяне стаць афіцэрам. Калі здавалі экзамены, я не хацеў здаваць, сказаў, што ў мяне няма атэстата сталасці. Мяне не ўзялі спачатку, а потым усё-такі выклікалі ў штаб дывізіі. Палкоўнік, начальнік штаба, у мяне пытае:

— Вы хотите быть офицером?

— Не хочу.

— Вы хотите быть инженером?

— Не хочу.

— Ах так, твою мать?! — кулаком па стале. — Я тоже не хочу, а двадцать пять лет бухаю. И ты будешь служить. Отсылайте…

А потым нам аб'явілі, што каго не дапускаюць да экзаменаў, то тры гады служыць яшчэ, бо гэта будзе лічыцца як афіцэрскае вучылішча. Каму хочацца тры гады служыць? Дык я хутчэй напісаў маме, каб прыслала мне копію атэстата. Прыслала. Я здаваў экзамены, і так добра пайшло, што ў мяне найлепшыя адзнакі. Але я адзіны некамсамолец ва ўзводзе, і настаўнікам быў некамсамолец. І ў партыю не ўступаў. І за гэта мяне вельмі цягалі.

Асабіст кажа:

— Почему не хотите быть комсомольцем?

Я адказваю:

— Я вельмі хачу быць камсамольцам, але не прымуць!

— Почему вас не примут?

— Я веру ў Бога. Каб мяне пераканалі, што Бога няма, — дык я б з мілай душой. А так у мяне запытаюцца — я вымушаны буду сказаць…

— Мы будем работать с вами.

— Калі ласка.

Першы экзамен, я іду першым, і такое пытанне: «Международная обстановка 1935–1939 годов». Гэта ж пры маёй памяці і Аўстрыю захапіў немец, і Чэхаславакію, Польшчу — усё гэта я вельмі добра ведаў. І, апроч таго, я чытаў кніжку Шпанова «Поджигатели», дзе гэты перыяд апісваецца.

Старшына бегае і вырывае з рук кніжку:

— Экзамен, а ты кніжку чытаеш.

Кажу:

— Дурань ты, пайдзі да камандзіра роты і запытайся, ці нам трэба чытаць толькі падручнікі, ці і дадатковую літаратуру.

І на экзамене давай я гэту кніжку расказваць (два тамы). Генерал развесіў вушы, слухае. Даслухаў да канца, а я кажу:

— Переходим ко второму вопросу.

— Не надо. Я вас поздравляю с отличным ответом.

Павіншавалі мяне: генерал, камандзір батальёна, камандзір роты, камандзір узвода — і пасля гэтага мне аўтаматам пачалі ставіць пяцёркі. У мяне ўсе пяцёркі, а камсамольцаў адчытваюць, што адзіны некамсамолец здаў усе экзамены на пяцёркі, а яны на троечкі. І калі ўжо стану афіцэрам, тут генерал загадаў, каб мяне абавязкова паслалі ў акругу, — ён каля сябе пакіне.

Тут яшчэ адзін факт, можа, спрацаваў, чаму генерал так палюбіў мяне. Ведаеце, гарачыня вялікая, а мы насілі ўжо валасы доўгія: малодшыя сяржанты ўсе, яшчэ не прысвоілі афіцэрскага звання. Дык я думаю: «Нашто мне парыцца?» Валасы заўсёды пацеюць, дрэнны пах… Дык я пастрыгся, толькі пакінуў чубок. Усе кажуць: «Здзяцінеў Белакоз — дзіцячую грыўку зрабіў». Прыязджае генерал лейтэнант Пятроў, камандуючы інжынерных войск акругі (ён экзамены прымаў) — і з такой самай прычоскай. Яму, напэўна, тое спадабалася, што ніхто не носіць такой прычоскі — ні афіцэры, ніхто, — а толькі ён, генерал, і гэты. Ва ўсялякім выпадку я быў там на асаблівым рахунку.

Пачынаў я служыць у Тэрмезе, потым Джамбул, Ленінабад — Сярэдняя Азія, Таджыкістан і Казахстан. І ведаеце, трэба ж пакінуць мяне ў кадрах (маецца на ўвазе, працягнуць воінскую службу), а я не хачу. І так, і сяк. Выклікаў асабіст:

— Вы хотите защищать Родину? Тут у вас такая биография, мы будем изучать…

Адказваю яму:

— Вывучайце, як хочаце. А я павінен дахаты ехаць. У мяне мама старэнькая, хворая. Грошы пасланць — гэта адно, а ёй патрэбны догляд. Пакіньце мяне яшчэ на два, на дзесяць — я гатоў бараніць радзіму, але я не буду пісаць, што я хачу быць афіцэрам, бо не хачу.

Адным словам, пераканаў яго, што ніякай антысаветчыны, што проста маці хворая. І вось мы хадзілі з дзяжурнымі па часці (гэта афіцэрскае ўжо дзяжурства). Яшчэ не строіўся батальён на развод, прыязджаюць начальнік штаба і камандзір батальёна, падпалкоўнік. Палкоўнік кажа:

— Товарищ майор, проводите развод, а я побеседую с товарищем Белокозом.

Бярэ мяне пад руку, і ў алею пайшлі:

— Кем работали на гражданке?

— Учителем.

— Сколько получали?

— Четыреста в месяц.

— Здесь вы получите 400 рублей за звёздочку, 700 — за должность, 150 — пайковых, 150 — квартирных. Пайковые вы получите, а питаться будете в части. Вы получите шинель, обмундирование рабочее, обмундирование парадное, получите сапоги яловые, сапоги хромовые, две пары портянок летних, две пары зимних, фуражку. Вы понимаете — это же шальные деньги, в четыре раза больше, чем на гражданке, — только на пропой. Да ведь это не жизнь, а рай. Да с вашей головой вы скоро станете командиром роты, командиром батальона.

— І я рад бы. Вельмі хацеў бы застацца ў кадрах, але вось мама…

— Вот вы домой поедете, так вы же не будете с таким образованием сидеть в деревне — в город поедете.

— Не, за 400 метраў ад маёй хаты — школа, дык буду ў хаце жыць і маму даглядаць.

— А-а, тогда мы вас тревожить не будем.

І адчапіліся, такім чынам.

У 1952 годзе я вярнуўся ў Беларусь.

**Міхась Амялішка:** *Вы вярнуліся на радзіму і пачалі працаваць там, адкуль вас мабілізавалі на службу. Раскажыце, як вам там працавалася.*

**Алесь Белакоз:** Тут ужо на маім месцы працавала дзяўчына. Крышку з ёй мы сустракаліся часам. Няёмка настойваць, каб яе кудысьці пераводзілі, а мяне сюды. Таму я працаваў у Струзе — гэта пяць кіламетраў ад Гудзевічаў, у пачатковай школе.

Працаваў у першую змену, у другую, яшчэ і вячэрнюю школу вёў. Працы было вельмі шмат, амаль не спаў… А гаспадыня такая — яе муж любіў вельмі аладкі бульбяныя — дранікі, бабку. Відаць, харчаванне і праца — і мне стала вельмі балець у грудзях, я палічыў, што ў мяне сухоты…

Нікуды не звяртаўся — тады не вылечвалі сухотаў. Але настала вясна, я стаў ездзіць на ровары дахаты, вячэрнюю школу разагнаў, бо яны нічога не вучылі. Засталіся толькі дзве змены. А аказваецца, у мяне была язва страўніка. Потым, калі японскім зондам глядзелі, то сказалі, што была, але зарубцавалася, і больш мне страўнік ніколі не далягаў.

Тады мяне паслалі на шэсць-сем месяцаў у Тупічаны — там працаваў матэматыкам. З умовай, што потым пайду працаваць куды захачу. У Гудзевічы я не хацеў, бо тут сваркі былі, дырэктар быў нядобры. Таму пасля Тупічанаў пайшоў у Рудзявічы. Гэта чатыры кіламетры ад Гудзевіч. Там быў дырэктар Рогаў (сібірак) — вельмі добры чалавек, ён так да мяне добра ставіўся! А я стараўся. Усюды стараўся. Бо як жа ж дзяцей вучыць — і не старацца.

Памятаю, аднойчы ўстаў рана: у матацыкла ланцуг парваны, іскры няма. Рамонту — сама мала на нейкую гадзіну або дзве. Я сумачку за плечы і пайшоў у Рудзявічы — і… спазніўся на ўрок. Мне кажа адзін настаўнік:

— Мая жонка спазнілася на тры хвіліны — то тут страшна што рабілася. Будзе і вам.

Я пайшоў на астатак урока, правёў.

Пасля ўрока ўсе прыйшлі ў настаўніцкую. Кажу дырэктару:

— Ведаеце, я спазніўся на ўрок.

А ён:

— Ха! Я вам благодарность объявлю. Вы понимаете, — да гэтай настаўніцы, што спазнілася, — четыре года он на мотоцикле ездит — ни разу не опоздал. Я ему благодарность объявлю, а вам — строгий выговор: каждый день опаздываете.

Прыходжу з другога ўрока — вісіць: «Белакозу за добрасумленную працу, падрыхтоўку шахматыстаў, якія перамаглі сярэднюю школу, — падзяка». А ёй — суровая вымова.

А ў яго быў таксама такі матацыкл, як у мяне. Ён інвалід вайны — абедзвюх ног не было. І куды б ні паехаў — ён назад матацыкл цягне. То дырэктар усё дзівіўся, што я ніколі не спазняўся. А ў мяне матацыкл як загавораны быў: у той бок — ніколі не сапсуецца, назад — рамантаваў, бывала. Але яго, калі мароз трыццаць градусаў, то завозіў на кухню, на кухні завяду — і выязджаю з кухні. І прыязджаў своечасова.

Там, у Рудзявічах, я развёў трусаферму — 186 трусікаў. З усёй вобласці ехалі вучыцца. У нас куплялі іх па дарагой цане, бо надта добрыя пароды. Калі белы трусік, то пішу: «белы велікан», шэры — «шэры велікан», рыжы — «шыншыла». Ніхто ж не ведаў... А дырэктар цешыцца — жывыя грошы ідуць. Але я вымушаны быў пераехаць на працу па сямейных абставінах у Гудзевічы. А ў Рудзявічах даручылі трусікаў даглядаць настаўніцы, але яна іх так даглядала, што яны за чатыры тыдні ўсе паздыхалі... Дарэчы, нейкі Гаўрылкін напісаў кнігу пра трусаферму. І пра настаўніцу гэту там напісана, што яна гэтую ферму стварыла. А яна замарыла, знішчыла трусікаў.

А дырэктар вельмі ганарыўся, што ўся вобласць едзе вучыцца трусагадоўлі.

Дырэктар ад'язджаў у Сібір ды прапанаваў:

— Алесь Мікалаевіч, давайце яшчэ годзік папрацуем.

Але мая жонка была цяжарная, тады толькі два месяцы водпуску давалі ёй пасля родаў. Трэба будзе на працу хадзіць

чатыры кіламетры (яна таксама там працавала). То я вымушаны быў пераязджаць.

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, раскажыце, як вы працягвалі працаваць у Гудзевіцкай школе.*

**Алесь Белакоз:** Пасля Тупічан пераехаў у Гудзевічы, вёў там беларускую мову і шахматны гурток. Выклікалі нашу Гудзевіцкую школу на шахматныя спаборніцтвы. Выйгралі 23, 5: 1, 5 на нашу карысць — сямігадовая школа выйграла ў сярэдняй школы.

Потым мы ў Ваўкавыскім раёне займалі першае месца па шахматах.

А як я навучыўся гуляць у шахматы?

Цікавіўся, але не ведаў хадоў. Калі ў арміі стаў гуляць — няправільна хаджу. Усе: га-га-га — і не хочуць гуляць. Аднойчы накіравалі мяне ў школу-інтэрнат выкладчыкам маставой справы ад ваенкамата. Там у бібліятэцы ўзяў кніжку «Для начинающего шахматиста», дзе вельмі сур'ёзныя партыі былі. Я папрасіў у памкамузвода, каб мяне назначаў дзяжурным па роце. Днём чытаў гэтую кніжку, а ноччу спаць нельга, дык я з днявальным гуляю. І стаў усіх абыгрываць. Мяне запісалі на турнір — заняў… першае месца.

Так што вёў шахматны гурток. У нас у школе было 82 гуртkоўцы. У малодшых класах вялі мацнейшыя шахматысты са старэйшых класаў. Заехалі мы першы раз у Ваўкавыск. Хлопчыкі з вёскі, Толік Улановіч — разумны хлопчык. Дзяцей у хаце многа, а ў калгасе амаль нічога не даюць. І вось гэтае дзіцятка ў парваным кажушку аблезлым і стаіць такі непрыглядны. Тут яшчэ маленькія такія: Геня — яна была маленькая ростам. Ідуць сын сакратара райкама партыі, старшыні райвыканкама — дзесяцікласнікі, пры гальштуках, у адпрасаваных касцюмах:

— Га-а-а, они в шахматы приехали играть!

Тым часам нам папала з першай Ваўкавыскай школаю гуляць, і ўсё на карысць Гудзевічаў — 1:0; 1:0. А ў нас чатыры шахматысты, чатыры шашысты. І ўсе 1:0 з першай раённай школай — самай моцнай, якая ездзіла на абласныя спаборніцтвы. Тут галоўны суддзя:

— Переиграть! Переиграть!

Я кажу:

— Скажыце, калі ласка, якія з нашага боку былі парушэнні?

— Нарушений не было.

— Чаму тады «переиграть»?

— Нет, нет, переигрывать не будем, извините, пожалуйста.

А ўжо калі мы прыехалі другі раз, то гэтыя хлопцы пад гальштукамі:

— Гудзевічы прыехалі!

Каб гэты хлопчык (Толік Härановіч) пабыў у нас і скончыў дзесяць класаў (ён скончыў толькі сем), то дайшоў бы да Масквы. Ён паступіў у тэхнікум. У Гродне даваў гросмайстар сеанс адначасовай гульні на дванаццаці дошках. І Толік яму мат паставіў, а ўсе астатнія прайгралі. І гэты гросмайстар просіць застацца, каб адзін на адзін згуляць з Толікам у нічыю. Пазней гэты хлопец рана памёр…

Дарэчы, трохі пазней я завочна скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут. Паступіў вучыцца ў 1949 годзе. У 1950-м — як мяне забралі ў армію — пайшоў забіраць дакументы. Але сакратар сказала, каб не забіраў, што яны дадуць даведку, якія я здаў экзамены, а потым прыеду — буду вучыцца. Я гэтак і зрабіў.

Выкладаў, як і ўсе выкладалі. Мяне не задавальняла тое, што на апытванне трацiцца шмат часу — усе настаўнікі грэшныя гэтым. Дырэктару ж давай, каб адзнакі былі, а дзе іх узяць? Я рабіў вельмі шчыльнае апытанне, але ніяк не выходзіла, каб яго скараціць. Нарэшце прыйшоў да высновы, што трэба даваць на картках пытанні так, каб вучні маглі на пытанне адказаць некалькімі літарамі, скарочана. Вучань пераасэнсоўваў матэрыял, які мы вывучылі на ўроку, на асобныя малюсенькія адказы: чатыры-пяць адказаў па параграфу. І ён павінен даць адказ некалькімі літарамі.

Напрыклад, правапіс прыставак. Пытаюся, калі ў прыстаўках «з» пераходзіць у «с»? Вучань піша: «перад: п, т, ш, с, ф, х, к, ч, ц» або «перад глухімі зычнымі».

Разумны ж разумнага разумее…

Аднойчы я праводжу апытанне па картках, задаю ўжо другое пытанне — прыходзіць дырэктар. Я б мог праводзіць далей

звычайнае апытанне, бо ўсё, што Белакоз рабіў, дрэнна... Але перад вучнямі сорамна, што скажуць: прыйшоў дырэктар — Белакоз спужаўся. Я правёў гэта апытанне. Вучні з апошніх партаў сабралі карткі. Тлумачу новую тэму. Дырэктар выступае на педсавеце, кажа:

— Алесь Мікалаевіч апытанне праводзіў тры хвіліны, паставіў 52 адзнакі...

Як паставіў адзнакі? Я растлумачыў новую тэму, тады стаўлю пытанне і папярэджваю, што гэта пытанне будзе на наступным уроку, на яго трэба ўмець даць скарочаны адказ. Хто сёння можа адказаць на гэтае пытанне? Паўкласа падымае руку. Нехта адказаў. І зноў стаўлю гэтае самае пытанне — усе падымаюць руку, толькі Сяргейка не падымае. Трэці раз стаўлю гэтае пытанне — ужо і Сяргейка падняў.

— Ну, Сяргейка, скажы.

Сяргейка адказаў. Запісваем гэта ў сшытак: «Давайце, дзеткі, прыдумаем, як гэта коратка адказаць». Прыдумалі як, і пішуць сабе ў сшыткі адказ. Другое пытанне. Прапрацавалі ўсе пытанні, а цяпер самастойная работа для замацавання. Гляджу карткі і адразу аб'яўляю:

— Клімук — пяць. Ягнешка — чатыры.

Ён кажа:

— Я пераздам гэтую тэму.

— Калі ласка.

А першая адзнака за хатняе заданне — яна вельмі важная, кожны вучань можа выканаць на пяцёрку. Аб'яўляю ўсе адзнакі. Далей нясуць мне дзённікі, і пакуль я двум вучням стаўлю, другія два падыходзяць, а астатнія працуюць. Праверылі самастойную працу. Запісалі хатняе заданне на дошцы. Усё, празвінеў званок.

Кажа дырэктар на педсавеце:

— Чаму я пайшоў на ўрок? Я заходжу ў школу — стаіць вучань пры дзвярах з чырвонай павязкай і вучыць беларускую мову. Іду па калідоры — каля кожнага акна стаяць вучні і вучаць беларускую мову. Заходжу ў кабінет беларускай мовы і літаратуры — усе вучаць беларускую мову. Я заходжу ў іншы кабінет — ніхто нічога не вучыць. Пытаюся ў дзетак, падыходжу да акна: «Дзеткі, а чаму вы вучыце беларускую мову, а ў ін-

шых кабінетах не вучаць?» Яны кажуць: «А Алесь Мікалаевіч нам кажа, якія пытанні будуць. Дык мы хочам пяцёркі мець».

Вучні мяне сустракаюць каля мосціка (метраў дзвесце ад школы) і забіраюць партфель. Я вельмі не люблю падхалімажу і кажу:

— Дзеткі, а чаму вы так робіце?

А яны:

— Пакуль вы дойдзеце да школы, мы занясём партфель у клас (вы ж пойдзеце на другі паверх па класны журнал), а мы раздамо сшыткі і збяром тыя, што былі ў хаце. І мы будзем бачыць, якія ў нас адзнакі і ці зможам мы на пяцёрку выканаць другі раз. І будзем ведаць — ці згаджацца нам на чацвёрку, ці не згаджацца. Вось для чаго мы гэта робім.

Паўсталі ўсе настаўнікі-моваведы: было пяць выкладчыкаў рускай мовы і адзін — беларускай. Завуч кажа:

— Конечно, каждый может выучить и ответить на пятёрки, если он знает вопросы о развитии речи!

Кажу:

— Калі ён не хоча мець чацвёркі, то ён будзе вусна адказваць. Акрамя гэтага, у нас бываюць і не такія ўрокі. Ну, а на літаратуры трэба гаварыць.

Але я такое праводзіў і на літаратуры. Напрыклад, мы праходзім «На ростанях». Кажу:

— Дзеткі, прачытайце «У палескай глушы» да такога-та часу, пытанні па тэксце.

Яны чытаюць.

Праз два тыдні стаўлю пытанні:

— Напішыце некалькі прозвішчаў прагрэсіўных настаўнікаў, якія вам спадабаліся. Напішыце некалькі прозвішчаў рэакцыйных настаўнікаў. Напішыце апісанне прыроды. Напішыце, як бабка Мар’я свянцоную ваду давала людзям, дзе яна брала яе. Гэта ўсё павінна некалькімі літарамі запісвацца, і прозвішчы скарочана.

І яны чытаюць.

Па пазакласным чытанні ставіў адзнакі кожную чвэрць. І вучні, бывала, потым мне кажуць:

— Алесь Мікалаевіч, а я вас адзін раз ашукаў.

— Вывучыў на памяць верш «Пагоню» Багдановіча?

— Адкуль вы ведаеце?

А верш Багдановіча «Пагоня» не ўваходзіў у праграму. Я не мог іх прымусіць, каб яны вучылі на памяць. Што я рабіў? Прыносіць вучань сшытак (па пазакласным чытанні), і там напісана: «Максім Багдановіч “Выбраныя творы”». Там павінны быць трапныя выразы. Я кажу:

— Ай-яй-яй, такі твор — «Пагоня»! Ты не знайшоў ні аднаго трапнага выразу? Ты хоць ведаеш гэты верш, пра што там?

Вядома, не ведае.

— Я магу табе паставіць тройку, але нашто ж табе тройка, у цябе дзве чацвёркі і дзве пяцёркі. Тут трэба, каб пяцёрка была. Я на тваім месцы вывучыў бы на памяць гэты верш, бо гэта ж гімн беларускаму народу. Я б у цябе больш нічога і не пытаўся б. То хоць прачытай.

А дзе ён меў магчымасць прачытаць? Я кожны раз ездзіў абавязкова купляць літаратуру сам. Ведаеце, даходзіла да бюро райкама, што не купляе дырэктар школы літаратуры. Адзін год адпусціў трыццаць рублёў. Дык я падняў такі скандал — мне дазволіў дырэктар купляць самому: не чапай нас, і мы цябе не будзем. Другое, скажам, выйшаў зборнік Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана» — я адразу купляю дваццаць штук за свае грошы. Гэта ўжо ў 1980-я гады. А Багдановіч быў і ў 1960-я гады ў бібліятэцы, кніжка ж прадавалася. Праўда, бібліятэкар была руская — Шылкіна. Яна казала:

— Нечего погонять Белакозовщину. Даю тебе русскую книгу, и ты уматывай отсюда.

Аднойчы я ў макулатуры знайшоў навюсенькі зборнік Ларысы Геніюш, ні разу не чытаны — яна выкінула ў макулатуру. А вучням кажа:

— Нет — на руках.

І праграмныя творы так. Ну, то я падымаў скандал. І нарэшце, у нас яшчэ была калгасная бібліятэка, ад аддзела культуры. Там была нармальная бібліятэкарка, быў з ёю кантакт. Яна таксама кніжкі купляла тыя, што я прасіў…

Аднойчы дырэктар пытаецца ў вучняў:

— Каго ведаеце з рускіх пісьменнікаў?

Назвалі Пушкіна і Лермантава — і ўсё.

— А з беларускіх?

Лічаць і лічаць, лічаць і лічаць.

— А чаму вы беларускіх ведаеце, а рускіх не ведаеце?

Вучні:

— Мы чытаем пазакласную літаратуру.

— А чаму вы чытаеце беларускую, а рускай не чытаеце?

— Алесь Мікалаевіч правярае.

А вучань прыходзіць, калі прачытаў «Выбраныя творы» М. Багдановіча, і кажа:

— Алесь Мікалаевіч, я вывучыў верш «Пагоня» на памяць.

— Добра, пяцёрка. Сядай, больш глядзець не буду.

Яны зразумелі, што калі вывучыць гэты верш, то гарантаваная пяцёрка. Бог з табою, што ты нешта не прачытаў, але ты верш «Пагоня» вывучыў на памяць — гэта варта некалькі кніг. Дык вось кожны мне кажа: «Я вас аднойчы ашукаў — я кніжку не прачытаў, а вывучыў на памяць верш "Пагоня"...»

І калі такая методыка пайшла, то ішоў на ўрок і цешыўся. І з урока цешыўся, паставіўшы ў дзённікі, скажам, 42 пяцёркі і некалькі чацвёрак.

Вядома, здаралася, што мой выдатнік напіша сачыненне на чацвёрку ці здасць вусна літаратуру на чацвёрку. І нічога страшнага, ніхто мяне не чапаў за гэта. А вось калі іх выдатнік (з іншай школы) на адзінку напіша — вось там ужо яго калупаюць. Дык вось, гэтая методыка давала веды. Гэта, уласна кажучы, тэсты. І я не згодзен з тымі, хто сёння агулам супраць тэстаў выступае.

Ведаеце, вучні Пеця і Каця Бібіла — двайняшкі, вучыліся ў адным класе. Маці пытаецца часта:

— Як мае дзеці?

Кажу:

— Вашы дзеці — медалісты, і вы можаце не хвалявацца.

І вось заканчваюць яны дзесяць класаў — і ім паставілі чацвёркі за сачыненні па рускай мове. Маці гэтых дзяцей прыбегла з бядой такой:

— Вы ўсё казалі, што яны медалісты, а вось...

— Дык я і цяпер кажу, што яны медалісты.

— Так вось, каб гэта з'ездзіць у аблана, абскардзіць.

— Як я паеду, то ім пяцёрак не дадуць, бо я ў апале. Каб хто іншы паехаў...

Усе баяцца, ніхто не хоча.

— Яшчэ мне вельмі непрыемна, таму што дырэктара школы здымаюць з працы, і ў гэтых умовах гэта будзе яшчэ адна кропля да незадаволенасці райана.

— Не, пад'едзьце, калі ласка — і ўсё…

Пайшоў да дырэктара школы, кажу: так і так. Ён заскрыгатаў зубамі, узяў ужо падшытыя гэтыя работы, вырваў іх, пакалечыў, кінуў мне:

— Едьте.

Я заехаў у аблана да загадчыка, а ён накіраваў мяне да інспектара па рускай мове. А мне ўжо падказалі, што гэта жонка начальніка КДБ. Думаю: «Не пашанцавала мне». Заходжу, кажу: так і так:

— Очень хорошо, что есть такой учитель, который вступился за учеников. Спасибо вам. Давайте посмотрим…

Паглядзела: у Пеці ў слове «Комсомольск-на-Амуре» напісаны адзін злучок, а трэба і перад «на» і пасля. Яна кажа:

— Давайте посмотрим в словарь, а может быть, одна чёрточка нужна.

Паглядзелі — дзве.

— Вот видите, мы же работники со стажем — лезем в словарь, а хотим, чтобы ребёнок написал правильно. Да он никогда в жизни раньше этого слова не писал и больше писать никогда не будет. Это же не грубая ошибка, а за негрубую ошибку ставится пятёрка.

Яна закрэслівае гэту чацвёрку, ставіць пяцёрку, распісваецца: «Инспектор облоно Орлова». Бярэ другое: там перад «как» дзяўчынка не паставіла коскі. А канструкцыя такая складаная. Інспектар кажа:

— В учебнике «Случаи трудной пунктуации» — тринадцать страниц о том, когда перед «как» ставится запятая. Я, например, не знаю — надо здесь запятую или не надо. Но если ваш инспектор Сосновская знает, что здесь надо, то я знаю, что не надо.

Закрэсліла памылку: «Пятёрка. Инспектор Орлова». Трэцяя работа, яшчэ адной вучаніцы.

А зніжалі адзнаку за адну дробную памылку, бо Белакоз працуе ў гэтай школе, і тут не можа быць медалістаў (вось яны як тлумачылі).

Трэцяя праца.

— Ну, здесь ничего, никаких поправок.

— Казала Сасноўская, што ёй змест не падабаецца.

— Скажите Сосновской, что она мне тоже не нравится. Но я ей за это выговор не влеплю, я ей влеплю выговор за её плохую работу. А мне сочинение… очень нравится.

Закрэслівае, ставіць «пяць» і падпісваецца. Я заходжу да загадчыка аблана, а ён кажа:

— Прабачце, там яшчэ па матэматыцы былі работы. Вы ж іх не прывезлі, а можа, там былі двойкі. Мы не можам даць медаль. Няхай іх камісія райана падпіша, бо настаўнікаў ужо не сабраць.

Я дабраўся так-сяк на спадарожных машынах, узяў гэтыя работы па матэматыцы, завёз у райана. Рында, загадчык райана, які даў загад — не даваць гэтых медалёў, кажа:

— Не надо никакой комиссии, уже всё.

— Добра, я паеду ў міністэрства.

— Не едьте, мы соберём комиссию.

— Дык збірайце, бо ў дванаццаць гадзін аўтобус «Масты–Гродна».

Ён не збірае, аўтобус адыходзіць. Выходзіць у апошнюю хвіліну інспектар па матэматыцы. Кажу:

— Скажыце, як?

— Выдатныя работы, але ён хоча, каб паставілі чацвёркі. І я буду галасаваць за чацвёрку. Бо ў мяне зарплата восемдзесят рублёў. А ён мне абяцае даць завуча ў другой школе — я буду мець дзвесце з лішнім. А мне перад пенсіяй — будзе большая пенсія.

Кажу:

— Дзякуй вам, што вы хоць праўду сказалі.

Нарэшце прыходзіць нейкі чалавек:

— А хто вы?

Кажа:

— Матэматык.

Ён зайшоў, яго залічылі на працу, выходзіць. Я да яго:

— Пачакайце хвілінку, я зайду да загадчыка.

— Ну, зайдзіце.

Я з ім адразу так добра абышоўся, дык і ён да мяне паставіўся прыхільна. Я зайшоў, кажу:

— Вось бярыце — ёсць матэматык адзін, інспектар матэматык і вы матэматык. Тры будзе — і камісія гатова. Як не, то я еду ў Мінск.

Сабраў гэтых людзей, паставілі вучням па чацвёрцы:

— Усё, едзьце.

Я заехаў у аблана да загадчыка, той кажа:

— Ідзіце да інспектара па матэматыцы.

Заходжу. Яна гаворыць:

— Конечно, можно пятёрки ставить. Но, вы знаете, это же математика, можно придраться к любой запятой — можно и четвёрки ставить. Всё зависит от заведующего облоно.

Я заходжу да загадчыка і кажу:

— Яна так і так кажа.

— Давайте её сюда!

Выклікалі яе.

— Так что — четвёрка или пятёрка? — крычыць ужо са злосцю загадчык.

Яна гэта адчула:

— Вы знаете, конечно, можно и пятёрку ставить, но и четвёрка может быть.

А ён прачытаў ужо характарыстыку, пакуль хадзілі (напісана, што Пеця — сакратар камсамольскай арганізацыі школы), кажа:

— Пете мы поставим пятёрку.

Пярэчу:

— Работа Пеці не стала інакшай, як вы прачыталі пра гэта, аднак вы згодныя паставіць Пятру «пяць». І тыя дзяўчынкі былі б сакратарамі, калі б было тры сакратары. Але ў школе патрэбны толькі адзін сакратар… То ў чым іхняя віна?

Аднак напісалі загад толькі на Пецю. Я занёс дырэктару…

А ўжо выпускны вечар, настаўнікі ўсе абступілі, пытаюць, як там, што. Я ім расказваю. Ідзе адзін вучань-стукач:

— Што, Алесь Мікалаевіч, зноў антысаветчыну «штурхаеце»?..

У школе было поўна стукачоў. Ну, а самы вялікі стукач — выкладчык гісторыі, які не таіўся з гэтым, а ганарыўся, што ён… стукае. І ягоны вучань-выпускнік такое сказаў…

Гэта я заслужыў? Тры дні не спаў, не еў — а прывёз загад хоць на аднаго хлопца…

Тым часам Рында ўсё ж паставіў чацвёрку. Сказалі, што не дадуць Пецю атэстат асаблівага ўзору. Я абураюся:

— Дык калі ўсе пяцёркі, то яго нідзе не прымуць. Скажуць, што фальшывы атэстат. Трэба выклікаць хлопца і спытаць у яго дазвол.

Выклікалі Пецю, ён кажа:

— Стаўце мне чацвёрку па рускай мове, а па матэматыцы пяцёрку, бо я буду на матэматыку паступаць.

Ён ва ўніверсітэце быў Ленінскі стыпендыят, стаў доктарам матэматычных навук. Зараз выкладае ў БДУ, прафесар…

А вось мой унук, калі паступаў, то не трэба было ніводнага экзамену здаваць. Набраў балы па тэстах і… паступіў.

Мая дачка ў школе таксама ішла на пяцёркі ўвесь час. Калі яна школу канчала, выклікае мяне жанчына, якая замяняла дырэктара школы (той паехаў адпачываць), і кажа:

— Дырэктар загадаў, каб я паставіла Марыначцы чацвёрку па матэматыцы. Але ж яна на пяцёрку ведае — і я ёй пастаўлю пяцёрку.

Паставіла пяцёрку. У раёна ёй паправілі на… чацвёрку. Я павёз у аблана. Там — таксама чатыры.

— Бо яна напісала, што «перасячэнне прамых AB і CD з'яўляецца цэнтрам паралелепіпеда», а трэба напісаць «пункт перасячэння».

І яна не атрымала медаля. А пры тэстах — ніякіх праблем…

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, раскажыце, калі ласка, як вы стваралі ваш музей?*

**Алесь Белакоз:** Ведаеце, часта ў газетах, часопісах чытаю і па тэлебачанні чую: Белакоз стварыў музей. Гэта няпраўда. Музей стварала многа людзей. Проста мне пашанцавала, што гэтыя людзі на маім шляху сустракаліся. Напрыклад, у школе працаваў выкладчык працы, Янушчык Міхась Пятровіч. Звычайны селянін, але добра разумеў і сталярку, і цяслярную справу. А я тады быў завучам у Гудзевіцкай школе і запрасіў яго настаўнікам прадмета «праца».

І вось ён, былы грамадавец, дарэчы, быў ён пры Польшчы старшынёй гуртка Грамады ў нашай вёсцы, рабіў падпольна, хаваючыся ад дырэктара, стэнды для музея, сцянныя шафы, прыносіў з хаты матэрыял.

І аднойчы да мяне прыбягае Міхась Пятровіч і кажа:

— Алесь Мікалаевіч, дырэктар паехаў у Масты, забярыце стэнд.

У майстэрні была вялікая шафа, і ён стэнд за шафай хаваў ад вачэй дырэктара, бо дырэктару ў райана загадалі, каб ён не дазваляў рабіць музей.

Чаму? Таму што ў Мастоўскім райкаме партыі было вядома: у Гудзевічах працуе настаўнікам Алесь Мікалаевіч Белакоз.

Я вяду, паказваю вучням, што дзе пакласці. Стэнд гатовы, і вучні яго павесілі. Прыязджае з Мастоў дырэктар. Нягледзячы на тое што дырэктар быў добры чалавек, бачыць, што ў зале на сцяне вісіць новы стэнд.

— Алесь Мікалаевіч, я ж казаў, што не трэба вешаць стэндаў, а вы яго зноў павесілі.

Вось такім чынам, дзякуючы Янушчыку, вельмі ўдала пачаўся наш музей.

Далей, Іваноўскі Пётр Мікалаевіч — бацька мастака Дзімы Іваноўскага, ён шмат зрабіў для музея. І я ацаніў яго працу на чатырыста рублёў і сказаў яму, што пайду да старшыні калгаса, каб ён заплаціў яму гэтыя грошы. Тады Іваноўскі абурыўся.

— Нізавошта не вазьму гэтых грошай. Вам жа за вашу працу таксама нічога не плацяць. Яшчэ экспанаты купляеце за свае грошы. І абедам мяне карміць хочаце.

Райвыканкам даваў грошы, і, вядома, Іваноўскаму можна было заплаціць, аднак ён катэгарычна ад гэтага адмовіўся.

Юрый Рыгоравіч Тарасевіч — вядомы ў Гродне архітэктар — шаснаццаць разоў прыязджаў у Гудзевічы за кошт сваіх выхадных, як хату будавалі, памагаў вучням і мне ўбіваць ток, вымазваць сцены.

— Гэта ж адны білеты колькі каштуюць, — кажу яму. — Я пайду да старшыні калгаса, каб вам аплацілі камандзіроўкі.

А ведаеце, з грашыма ва ўсіх тады было вельмі туга.

— Не хадзіце да старшыні калгаса, — кажа Тарасевіч, — бо грошай не прыму. У мяне не хапае грошай, але ж гэтая праца — такая святая справа, і я ніякіх грошай не вазьму.

Далей, вучань у мяне Саша Рыжко быў. Многа такіх вучняў, але ж пра ўсіх не раскажаш. Вы ведаеце, як ён яшчэ вучыўся, дык вельмі цікавы ліст напісаў да дзядзькі Юзіка — роднага брата Якуба Коласа. У паэме «Новая зямля» памёр Міхал, і ўсё — канец. А што было далей з «Новай зямлёй»? І вось брат Якуба Коласа тлумачыць, што адбылося далей. І гэта ў літаратуразнаўстве вельмі важна. Мала таго, што ён, яшчэ калі вучыўся, пісаў лісты, дапамагаў у музеі. Акрамя таго, гэты хлопчык многа экспанатаў прынёс, калі гэтую хатку абсталёўвалі. Калі ён ужо не вучыўся і быў у Вільні (у той час з паперай цяжка было), прывёз каля тысячы лістоў паперы. Я яму даю грошы, а ён:

— Што вы, што вы, ніякіх грошай!

Тут нас вельмі пажарнікі страшылі за тое, што мы над хатай, крытай саломай, правады неізаляваныя правялі. Яшчэ такая сітуацыя: прыехаў пажарнік і заяўляе:

— Будзем разбураць хатку. Над хаткай ідзе электрычная лінія. Страха саламяная. Упадзе провад — будзе пажар.

Я так і сяк.

— Трэба тэрмінова ізаляваны провад правесці або перанесці лінію.

— Перанесці няма куды, бо мы там планавалі яшчэ хлеўчык зрабіць, гуменца.

Ну, а старшыні не трэба гэтага, хай разбураюць… Што робіць гэты Саша? Недзе дастаў тоўстага ізаляванага кабелю ў неабходнай колькасці — таўшчынёй з палец, і разам з маім сынам Мікалаем працавалі ў марознае надвор’е. Мароз быў градусаў дваццаць з ветрам. Працавалі з Сашам на слупах, пасінелі, пачарнелі, але правады замянілі... Я не вельмі ахвочы да п’янкі, але кажу хлопцам:

— Хадзем зробім па сто грамаў, каб сагрэцца, бо можна застудзіцца.

— Не трэба, не трэба, я не заслужыў, — кажа Саша.

Дарэчы, гэты Саша, паміж намі гаворачы, прывык да гарэлкі. Ні разу не зайшоў да нас — баяўся, што яго пачастую.

Я ездзіў да роднага брата паэта Явара, каб набыць экспанат для музея — шафу-буфет, зроблены паэтам Яварам, і патлумачыў брату, што шафа-буфет з’яўляецца каштоўным экспанатам

для Гудзевіцкага музея, які на памяць пра паэта Явара добра было б мець у музеі. І вось што мне кажа яго брат:

— Я вам прадам братнюю шафу пры ўмове, што вы купіце мне шафу. Альбо дайце мне сто дзесяць рублёў.

Я падумаў: а дзе ж я іх вазьму? Гэта ж больш, чым мая зарплата. Я маю шэсць душ: трое дзяцей, маці і я з жонкаю. Маці атрымлівае восем рублёў пенсіі. Калгаснікі ў тую пару амаль нічога не атрымлівалі. Праўда, калі чалавек пайшоў на пенсію, атрымліваў трыццаць кілаграмаў збожжа на год. Гэтым нават адной курыцы не пракорміш, а кіраўнікі хацелі, каб чалавек пражыў. І вось, той самы Саша прыдумаў: ён знайшоў у Гродне пляменніка Явара і дагаварыўся з ім і з яго маці, што яны аддадуць яму гэтую шафку. Саша працаваў брыгадзірам у Гродне. Яго брыгада складалася з чатырох чалавек, павінна была ставіць высакавольтныя слупы. Але двое хлопцаў з брыгады не выйшлі на працу — напіліся. А двое з брыгады без іх прастойвалі. І што робіць брыгадзір Саша? Кажа шафёру:

— Давай зробім добрую справу Гудзевіцкаму музею.

Кідаюць працу і з шафёрам, маім сынам Мікалаем, едуць да Явара. Забіраюць шафу і вязуць яе ў Гудзевіцкі музей. Пакуль яны загрузілі, даехалі да Гудзевічаў — пачало цямнець. Я кажу:

— Ідзём, хлопцы, хоць паабедаеце.

Бо яны цэлы дзень дапамагалі карміць цялят жонцы брата Явара. І вось гэты хлопец кажа:

— У Гродне, магчыма, нас міліцыя шукае, бо мы пакінулі сваю асноўную працу. Зараз павінны ехаць у Гродна і абедаць будзем там.

Тады прапанаваў:

— Вазьміце дваццаць рублёў і паешце ў рэстаране.

— Ні ў якім разе! Мы вам дапамагалі не за грошы.

Трэба нам паказаць, што ў Гудзевічах было нават два ветракі. Я прапаную Сашу:

— Саша, намалюй.

— Алесь Мікалаевіч, я не ўмею.

— Як умееш. Намалюй.

Намаляваў Саша гэтыя ветракі, мы павесілі ў музеі.

Прыязджае прафесар Анікейчык (ён прафесар і мастак). Пытаюся:

— Там у нас сабрана нямала карцін. Скажыце, калі ласка, якая з іх найлепшая?

Захапляецца:

— Найлепшая, што гэтае дзіця намалявала. У яго вялікі талент. Каб ён вучыўся, дык быў бы вядомы на ўвесь свет…

Саша баяўся, што я зафундую. І толькі калі я напісаў пра яго ўсю гэту гісторыю, як ён памагаў, то ён прыйшоў. Я яму прачытаў. Тады, праўда, трошкі выпілі. Памёр Саша Рыжко малады…

Такі быў хлопец. Такіх людзей шмат. Сярод вучняў і звычайных жыхароў.

Тыя вучні, якія вучыліся ў дапаможных школах, выступалі супраць усяго роднага. Было і такое, што пагражалі: заб'ём і то і другое. Казалі: навошта гэты музей? Чамусьці алкаголікі і тыя, што канчалі вячэрнія школы, выступалі супраць усяго беларускага. І гэта таму, што іх так вучылі. Асабліва супраціўлялася начальства. Яны проста ашалелі.

Летам 1984 года ў Гудзевічах сабралася шмат народу, дзе ў чатырох пакоях размяшчалася экспазіцыя. Ужо ў той час была пабудавана тыповая хата васямнаццатага стагоддзя, якая захавалася ў адной з суседніх вёсак (перавезена ў Гудзевічы і пабудавана поруч з чатырма музейнымі памяшканнямі), якая сведчыць нам, у якіх умовах жылі тагачасныя сяляне Гудзевічаў і навакольных вёсак, як умела будавалі.

З Мінска прыехалі пісьменнікі і збіраліся ў адкрыцці музея. А ў райкаме Мастоў кіраўнікі проста ашалелі: як гэта так здарылася, што не зачынілі Гудзевіцкі музей? І камандзіравалі ў Гудзевічы былога дырэктара гудзевіцкай школы Іосіфа Ігнатавіча Радзевіча (пры ім у 1960-я гады пачаў будавацца музей), каб ён закрыў гэты антысавецкі музей. Радзевіч прыехаў у Гудзевічы з сынам і кажа яму:

— Схадзі ў школу і раскажаш мне, што там робіцца.

А сам спавядаецца:

— Алесь Мікалаевіч, я ж ужо зачыняў гэты музей.

Іосіфа Ігнатавіча пасля гэтага знялі з працы.

Паехалі да нас экскурсіі з Мінска, Віцебска, Ленінграда, Польшчы і з іншых краін…

Так збегліся акалічнасці, што нас не зачынілі. Мне пашанцавала, калі вызвалілі з працы Хрушчова, бо ён садзіў у турмы за патрыятычнасць. А ўжо пры Брэжневе стараліся інакш караць: то садзілі ў дом псіхічна хворых, то ў замежжа выдалялі. А ў турмы стараліся не садзіць. Гэта мне такі час папаў. Яшчэ мне вельмі дапамагло, што Ларыса Геніюш паслала мой ліст Машэраву ў 1979 годзе. Я там пішу, як здзекаваліся з нас супрацоўнікі КДБ. Старонак, мусіць, пяць тэксту, ці колькі там было. І вы ведаеце што, Машэраў прыслаў у Зэльву інструктара Жука, каб не чапалі Ларысу Геніюш, і загадаў інструктар кадэбістам, каб не чапалі Белакоза з Гудзевічаў.

І Машэраў загінуў, а нас больш не чапалі. Прыехаў да нас начальнік раённага КДБ Данільчык. А я працаваў, ужо цёмна, вечар. Ён кажа:

— Всё работаете?

— Так, працую.

— Мы вас трогать больше не будем.

— Як гэта вы не будзеце трогаць? Вы ж патрэбны, каб нас тэрарызаваць...

Данільчык убачыў на стэндзе дзіцячыя журналы «Праменьчыкі».

— Дайте мне почитать «Праменьчыкі».

— Бярыце са стэнда і чытайце.

— А не, я прошу, чтобы мне с собою дали.

— Не, давайце санкцыю пракурора і забірайце.

— Так нет, я по-человечески. Тогда не надо, не надо.

І больш мяне не чапаў — як адрэзала.

Ужо пайшла другая палітыка. За нацыянальныя пытанні больш не арыштоўвалі.

Другія часы пайшлі. Пачаліся праверкі ў школе.

— У нас ёсць музей — таму ёсць і праверкі, — кажа дырэктар школы.

Усе на мяне аглядаюцца як на самага вялікага здрадніка. Усю школу трасуць. У школе не павінна быць ніводнага медаліста. Тыя, што вучыліся на адны пяцёркі і здавалі на пяцёркі, не маглі атрымаць медаль. Гэта ж анекдот. Смеху варта, што такое магло быць. Настройвалі настаўнікаў: каб не Белакоз, то

быў бы медаль. А раз працуе Белакоз, то які можа быць медаль? Стараліся мне нашкодзіць, але, дзякуй Богу, усё пражылося.

Ёсць, мусіць, Бог на небе. Я ў дзяцінстве два разы тапіўся, пяць разоў паміраў, і казалі дактары, што нічога не будзе. А я ўсё жыву. Цяжка самому паверыць, што можна было гэта пры Саветах зрабіць. Усяго не раскажаш, усё складанае і мнагагараннае. А так колькі дырэктараў ні было — усе былі залатыя людзі. Мы з імі развітваліся як з братам ці з лепшым сябрам.

**Міхась Куршук:** *Скажыце, ці гэты белы крэмень будзе добры для лячэння?*

**Алесь Белакоз:** Гэты-то не. Кінуць у ваду можна, бо тут трохі ёсць рэчыва з гэтай цёмнай масы.

**Міхась Куршук:** *Усе гэтыя крэменевыя каменьчыкі я ўзяў з сабою, каб паказаць вам, Алесь Мікалаевіч, і спытаць: як рабіць крамянёвую ваду?*

**Алесь Белакоз:** Гэта літаральна гадзіну назад наведаў мяне галоўны ўрач маскоўскага шпіталя. Праўда, ён на пенсіі. Купіў у Кавалях хатку. На лета прыязджаў з жонкай, і такая размова ў нас выйшла:

— Лячэннем займаецеся?

— Лячу вось так і так — медзь прыкладаю.

— Медзь — гэта абязбольваючае.

— Як мне забалела рука, я прылажыў пласцінку медзі, мне не баліць гады тры-чатыры. Дык гэта не абязбольваючае.

А сам доктар басанож быў і нагу аб нагу трэ. Нехта з прысутных падказаў:

— Мусіць, холадна.

Я бачу, што ў яго грыбок, ды не прызнаецца.

— Нага чэшацца? — пытаю. — Давайце далонь, — і наліваю яму крамянёвай вады. — Памачыце правую нагу, а левую не мачыце.

Змочаная нага перастала часацца, а правая чэшацца.

— Дайце мне хоць сто грамаў гэтай вады, — кажа доктар.

— Чаму ж сто грамаў? Я вам чатыры літры налью — дзве пластмасавыя бутэлькі.

Наліў і даў яшчэ каменьчыкаў.

Гэта крамянёвая вада вельмі каштоўная, шкада, што людзі яе не ўспрымаюць як лякарства.

Тым часам звяртаецца да мяне жанчына з Мінска:

— Вы двойчы выратавалі мяне.

— А як я вас выратаваў?

— Я калісь выліла незнарок сабе на руку кіпню, хай Бог бароніць, як я сябе апарыла. І нікуды не звярталася. Узяла маленькае вядзерца, наліла туды крамянёвай вады, апусціла туды руку. Вада грэлася, і я яе мяняла халоднай вадой з халадзільніка. І гэтак трымала, можа, гадзін з восем. Мне ўжо не стала так балець, абкруціла руку марляй, змочанай у крамянёўцы, і лягла спаць. Назаўтра парэзала пухіры — там была ўжо маладая скурка. А на гэтым тыдні мая дачка, дзесяцікласніца, захварэла на прастуду. Ну ведаеце, дзяўчына-дзесяцікласніца — смаркаецца. Ёй параілі падыхаць над кварцавай лямпай. Яна стала дыхаць і заснула. Скурка з твару засталася на лямпе. Боль страшэнны. Я ўжо ведала, што паможа крамянёўка. Налажыла кніг на стол, паставіла міску з крамянёвай вадою і палівала яе твар даволі доўга, можа, гадзін шэсць ці сем. Потым яшчэ прыклала ёй марлю, змочанаю крамянёўкай, прымацавала да апёку і падвязала. Ноччу яна спала. Раніцай зноў падвязала рану кавалкам марлі, змочанай у крамянёўцы, і пайшла ў школу хоць бы што. Так і вылечылася.

**Міхась Амялішка:** *Ці ёсць у вас інструкцыя, як рабіць крамянёвую ваду?*

**Алесь Белакоз:** Ёсць. І я вам яе дам.

**Міхась Амялішка:** *Таму што я калісьці нейкія брашуры чытаў, але так і не даведаўся, як правільна рабіць крамянёвую ваду...*

**Алесь Белакоз:** Гэтыя брашуры няправільна пішуць. Добра, што вы іх не набылі... Напрыклад, Андрэй Малахаў казаў так: каб зрабіць крамянёвую ваду, трэба яе пракіпяціць. Гэтага ні ў якім выпадку не патрэбна рабіць. Вада ўтрымлівае каля васьмідзесяці кампанентаў хімічных элементаў, і калі мы яе кіпяцім, то яны асядаюць на дно. Перакіпяцім ці прафільтруем, то вада застанецца чысценькай. Кінем крэмень, і назаўтра вада будзе лячэбная. У той жа час патрэбна, каб вада мінімум

чацвёра сутак настойвалася ў слоіку. У нас на дваіх з жонкаю настойваецца дванаццаць трохлітровых слоікаў.

**Міхась Амялішка:** *А ваду вы з калодзежа бераце?*

**Алесь Белакоз:** У нас водаправод сельскі. Я ведаю, што хларыраваная вада — дрэнная, але ж нічога не зробіш — іншай у нас няма.

Рабілі аналіз вады ў інстытуце біяхіміі. Андрэй Георгіевіч Майсяёнак быў загадчыкам лабараторыі. То кажа: тая вада, якую возьмем цяпер, уся з усялякімі бактэрыямі, а ўжо гэта, што пастаіць з крэменем, — без бактэрый.

І яшчэ: як будзеце рабіць гэту ваду, не забудзьцеся з дна грамаў трыста выліваць вон. Чаму? Там асядаюць нітраты, цяжкія металы. Навошта ж іх выпіваць? Іх трэба выкінуць. Не шкадуйце, вылівайце. Далей. Глядзіце, каб ніхто не піў з таго слоіка нагбом, а наліваў ці ў кубак, ці ў шклянку. Бо калі мы п’ём нагбом — заносім у слоік бактэрыі, якія ёсць у нашай сліне. А яны вельмі любяць гэтую ваду, пачынаюць размнажацца — і вада пачынае дрэнна пахнуць.

Як больш п’ю, дык часцей мачуся. За дзень паўтара літра выпіваю.

Замежныя вучоныя, якія працуюць у Злучаных Штатах, напрыклад Бахмантэлідж, сцвярджаюць, што кожнаму чалавеку неабходна чыстая фільтраваная вада, у якой неабходны прымесі карысных арганізму хімічных элементаў. Яны ўтрымліваюцца ў ачышчанай марской солі. Крамянёвая вада лечыць вочы. Дзеля гэтага я раблю так: бяру пластыкавую бутэльку, наліваю ў яе крамянёўкі, закрываю коркам і праз дзірку ў корку, калі мы націснем на бутэльку, будзе пырскаць у вочы падагрэтая, фільтраваная, а не гарачая вада.

Вы ведаеце, у мяне быў дысбактэрыёз. Дзе я не аб’ездзіў: два разы быў на Каўказе, у Друскінінкаі, Трускаўцы. Усюды мне кажуць адно — што мы не ўмеем лячыць гэты дысбактэрыёз.

У Гродне я нарэшце лёг у абласны шпіталь. Праходзяць дзве медсястры, адна другой кажа:

— Во гэты чалавек заўтра памрэ.

А я хістаўся і ледзьве ішоў. І вы ведаеце — мне праз пару тыдняў гэта вада папала. Прачытаў пра яе, у газеце было лі-

таральна напісана, што калі ў звычайную ваду ўкінуць чорны крэмень, то вада стане лекавай. А мы рабілі музей народнай медыцыны. І зрабіў я гэту ваду, пачаў яе піць, і прапаў гэты дысбактэрыёз. Я стаў здаровы, дзякуй Богу. Яна лечыць масу хваробаў. Напрыклад, такіх, як гемарой. Тут быў чалавек. У яго кроў біла з праблемнага месца фантанам па трыста грамаў кожны раз. Пачаў піць гэту ваду, стала ўсё ў парадку. Кіне піць — праз два тыдні ізноў паўтараецца хвароба, пачне піць — усё ў парадку. Далей, мой стрыечны брат піша, што ў яго ідзе кроў з носа па чатыры гадзіны. Дактары нічога не могуць зрабіць. Раю яму:

— Пі крамянёвую ваду, і ўсё будзе ў парадку.

Ён п’е гэту ваду, у яго ўсё добра. Ён кінуў піць крамянёўку, дык праз дванаццаць дзён пайшла кроў з носа. Вы ведаеце, гэта цуда-вада. Дык я падумаў: як яна пры гемароі сасуды робіць моцнымі і прыпыняецца кроў і з носа. То па ўсім арганізме сасуды робяцца моцнымі. То і ў галаўным мозгу яны моцныя. Не будзе інсульту, інфаркту, раку.

**Міхась Амялішка:** *Вы гэтую ваду часта п’яце ці пастаянна?*

**Алесь Белакоз:** Я яе ўвесь час п’ю. Сутачная колькасць вады залежыць ад вагі чалавека, але не больш як тры літры. А на маю вагу (а я важу восемдзесят пяць кілаграмаў) мне трэба выпіваць гэтай вады літры 2–2,5 штодзённа. А так паўтара літра даволі.

**Міхась Амялішка:** *Крамянёвую ваду можна піць. А ці можна яе кіпяціць?*

**Алесь Белакоз:** Можна. Але з гэтага ні шкоды, ні карысці не будзе. Не трэба на ёй гатаваць супы. Карысна падліваць у супы прахалодную крамянёўку. Дзе чэшацца, можна тое месца памачыць крамянёўкай, — перастане часацца некалькі дзён, а пасля трэба тое месца зноў намачыць крамянёўкай, не будзе часацца.

Трэба, каб чыстая вада пяць сутак мінімум настойвалася з крэменем. А калі яна будзе настойвацца сутак сем-дзесяць, то яна поўнасцю настоіцца. А далей яна можа стаяць доўга. У нас у музеі яна стаіць дваццаць тры гады. Гэтая вада як сёння з крыніцы.

**Міхась Амялішка:** *А гэты крэмень дзе бераце, на палях збіраеце ці ў кар’ерах?*

**Алесь Белакоз:** Вы ведаеце — спачатку на палях збіраў, а потым мне швагер прывёз з цэмзавода. У Гродне на мелавых гарах шмат ёсць крэменю. Можна набраць колькі хочаш.

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, ці закрываеце вы слоікі накрыўкамі?*

**Алесь Белакоз:** Іх накрываць можна марляй, а накрыўкай не трэба. Вы, я бачу, многа цікавіцеся. Я магу даць вам кніжачку, у якой напісана, як рабіць гэтую ваду. Ведаеце, я проста малюся на гэтую ваду. А людзі не слухаюць, і ўсё.

Прыбягае раз унучка, нахіляе слоік, падстаўляе кубак і налівае ваду. Можа, ёй было гадоў пяць, ды ведала, што калі крамянёвачкай памые рану, — усё вылечыцца. Інакш нічога хутка не паможа, а вада, настоеная на чорным крэмені, паможа. Я расчуліўся, што дзіця пра такое ведае.

А сёння прыйшла да нас сацыяльны работнік падлогі памыць. У яе забінтавана нага.

— Што здарылася?

— Апарыла.

— Даўно апарылі?

— Ужо больш чым сем дзён.

— Чым вы яе лечыце?

— А мне далі ў доктара мазь.

— Ці вылечылі?

— Не вылечыла.

— Каб вы крамянёвай вадою памылі, то ўжо б вылечылі… Дам вам крамянёвай вады, а вы возьмеце і пальяце на бінт. І ўсё загоіцца.

— Не трэба.

— Як сабе хочаце.

**Міхась Амялішка:** *Чуў, што медзь — лекавы сродак. А дзе вы знаходзіце гэтыя пласціны?*

**Алесь Белакоз:** Ліставой меддзю накрываюць дахі дамоў. Выразаю з такой медзі пласціны.

**Міхась Амялішка:** *Яна вам дапамагае, гэтая медзь?*

**Алесь Белакоз:** Яшчэ як! Вельмі моцна! Вы ведаеце, у мяне глаўкома. Як пачала балець з левага боку галава, і вока, і вуха, я думаў, здурэю. Дагадаўся выразаць з новай медзі пласцінкі. Прылажыў іх там, дзе балела, — скура злезла. Да мяса не прыложыш — баліць. Пачаў жоўцю мазаць — палягчэла. Раз, два памазаў, і стала зажываць. І пасля ўжо стаў прыкладваць медныя пласцінкі.

**Міхась Амялішка:** *А вы пласцінкі проста на скуру прыкладваеце?*

**Алесь Белакоз:** Так, проста на скуру. І цэлы дзень хаджу, і ноччу з імі сплю. Як калі іду да суседа, то здыму. І, дзякуй Богу, дапамагае. У мяне рак галаўнога мозга, а з ім няма жартаў.

**Міхась Амялішка:** *Вам гэта лячэнне назначылі дактары?*

**Алесь Белакоз:** Не. Я іх не наведваю. Я неяк папаў да дактароў у Мінск — у мяне на ступні нагі быў гуз. Яны прапанавалі адрэзаць нагу. Я ім сказаў:

— Не пагаджаюся, бо вы мне нагу адрэжаце, а метастазы мне пакінеце.

— Добра, не даяце нагу адрэзаць. Зразумела, вам будзе цяжка хадзіць. А чаму не дазваляеце гуз выразаць?

— Пасля таго як зробіце аперацыю, метастазы надта хутка распаўсюджваюцца па ўсім целе. А гуз я сам адолею меддзю.

І паехаў у Гудзевічы — стаў самастойна лячыцца.

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, каб не вы, то я б пісьменнікам не стаў. Вы — мой настаўнік. Вы мне расказалі, як трэба пісаць.*

**Алесь Белакоз:** Вы ведаеце, я хачу, каб вы не рабілі памылак, якія былі ў мяне. Якія ў мяне былі памылкі? Вось піша мне з Мінска пісьменнік Скобла: «Алесь Мікалаевіч, прышліце мне тыя матэрыялы, якія вы маеце, і мы выдадзім кніжку». Я давай галопам па еўропах, пятае цераз дзясятае спешна апісваць. Збіраю матэрыялы… У нашай справе не трэба спяшацца — апісвайце як мага падрабязней. Уся сіла твора — у дэталях. Калі шмат дэталяў, то вобраз як жывы паўстае. А калі пераказваем — гэта не тое, не выклікае цікаўнасці ў чытача. А цяпер далей. Дэталі маглі забыцца. Вы кудысьці паехалі —

выступалі. Зараз дакладна не памятаеце, як хтосьці выступаў і ацэньваў вашы спевы. У такім разе вы павінны паставіць сябе на месца слухача, і падумайце, што б вы сказалі ў гэтым выпадку, калі адчувалі ўдзячнасць за гэта спяванне. Не абавязкова, каб напісаныя вамі словы супадалі на сто працэнтаў са словамі ацэншчыка. Галоўнае, каб гэтыя вашыя словы ішлі ад душы. Далей у пісьме як мага больш выкарыстоўвайце простую мову, гэта зацікаўлівае чытача — манатонны пераказ страчвае цікавасць да напісанага.

Старайцеся як мага больш добрага сказаць пра кожнага харыста, нават калі ў гэтага чалавека ёсць шмат недахопаў. Жыве тут у нас інвалід, які мае больш як восемдзесят гадоў, камуніст з юнацтва. Быў у падпольным камсамоле, у КПЗБ. Потым працаваў намеснікам старшыні калгаса, ваяваў на апошняй вайне. Вось такая кароткая біяграфія гэтага камуніста. Расказвае мне адзін чалавек:

— Як прыйшлі бальшавікі, дык не хапала настаўнікаў. А бацька мой, Юрко Маляўка, быў граматны, то яго прызначылі настаўнікам. Працаваў у прыватнай хаце, дзе раней была школа. У гэтай школе вісеў крыж з распяццем Ісуса Хрыста. Мой бацька не меў права здымаць крыж са сцяны, бо школьны пакой належаў гаспадару.

Нехта данёс у райана. Прыехаў інспектар з Мастоў. Старшыня сельсавета, дэпутат сельсавета, сакратар камсамольскай арганізацыі і гэты хлопец, пра якога я вяду размову, прыходзяць у школу. Пасядзелі на адным, другім уроках і кажуць настаўніку:

— Ну, а цяпер вы вучняў адпусціце.

Тут Іванушкін, старшыня сельсавета (былы бандыт, які называў сябе партызанам, здзекаваўся з людзей, гвалціў дзяўчат, краў і ўрэшце яго пасадзілі), як стукне па стале кулаком:

— Почему крест висит на стене?

Настаўнік Юрко Маляўка адказвае:

— Гэты крыж павесіў гаспадар дома. А я ж тут не гаспадар і не маю права яго здымаць. Хату-то мы наймаем. Ён можа зняць, як захоча, бо гэта ж яго хата.

— Немедленно снимите!

— Не, — кажа настаўнік, — здымаць не буду. Не маю права.

Тады гэты камсамолец залез на табурэтку, зняў крыж (ён быў драўляны), на калене зламаў і кінуў у кошык са смеццем. Прысутнае начальства паабяцала вучыцелю Маляўку, што здыме яго з пасады (і ўрэшце знялі).

А як выходзілі са школы, то ззаду ішоў дэпутат. Дастаў крыж, падзьмухаў на яго, палажыў за пазуху і пайшоў.

Чалавек гэты васьмідзесяцігадовы жыве. У яго сын, дочкі, унукі. Ім будзе вельмі непрыемна, калі яшчэ раз напомняць, што шмат гадоў таму іх бацька і дзед паламаў крыж.

На гэтым мой расказ заканчваецца, але жыццё працягваецца. Была вайна. Забралі на фронт гэтага камсамольца. Абедзве нагі яму пераламала. Ён цяпер без ног. Яго называюць Пятро, але ў сваім апавяданні я напісаў Сцяпан, а калі напішу Пятро, то кожны здагадаецца, бо ў нас адзін інвалід — Пятро. Дык вось учора сустракае маю жонку на могілках сын таго былога настаўніка Юрка Маляўкі, які працаваў настаўнікам у Лідзе, а зараз на пенсіі, і кажа:

— Ведаеце што, я прачытаў кніжку Алеся Мікалаевіча, дзе ён так праўдзіва напісаў аб паводзінах майго бацькі ў міжваенныя часы, калі ён працаваў настаўнікам. Я яму вельмі ўдзячны за гэта, што ён так ушанаваў майго бацьку. Вось, каб мне набыць гэтую кніжку. Я калісьці прыеду спецыяльна, каб займець яе.

Заўважце, што важна напісаць пра чалавека добрае, а дрэннае — хай застаецца нераскрытым, бо той Пятро ў маёй кнізе так і застаўся Сцяпанам, раскрываць яго не варта — ад гэтага нікому карысці не будзе. Аб гэтым прасіў мяне сын таго Юрка, і правільна прасіў, бо сапсуюцца адносіны між былымі знаёмымі. Так вось, у мяне такая просьба: вы не спяшайцеся.

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, не спяшаюся. Каб паскорыць апрацоўку інфармацыі, я набыў камп'ютар.*

**Алесь Белакоз:** Ведаеце, справа ў тым, як я пішу пра чалавека, дапусцім, пры Саветах. Трэба ўявіць сабе, што гэты чалавек думае. Галоўнае, што праўду трэба пісаць. А як будзем пісаць хлусню, то ніхто чытаць не будзе.

**Міхась Амялішка:** *Урачы лічаць, што сучасная медыцына не ўмее эфектыўна вылечваць рассеяны склероз. Я спецыяльна прыехаў да вас па параду: як мне вылечыць сына ад такой*

*страшнай хваробы? Мой сын ляжыць у сястрынскім аддзяленні Мінскага шпіталя і страціў надзею на вылечванне. Я з гэтым не магу ніяк прымірыцца.*

**Алесь Белакоз:** Я яму падрыхтаваў лекі. Гэта свіная жоўць, настоеная на гарэлцы. Завязу яму, каб яго падлячыць.

Крэмень — гэта вялікае шчасце для чалавека ў лячэнні хвароб, аднак мы яшчэ не ўмеем яго цаніць. У Расіі многія п’юць крамянёўку, а ў нас не надта. Такі кусочак, як грэцкі арэх, у Расіі каштуе чатыры долары. Я вам не хваліўся, што нам Еўрасаюз дае на рамонт музея 220 000 еўра? Гэта два з паловай мільярды нашых рублёў.

Польшча хоча далучыцца да рамонту музея, там жа грошы. Сёння павінен прыехаць да мяне старшыня калгаса па гэтаму пытанню. Я хачу, каб гэтыя грошы пайшлі на карысць, бо так іх расцягнуць патроху.

**Міхась Амяльішка:** *Вам жа цяжка ўжо быць кіраўнікам рамонту?*

**Алесь Белакоз:** Дык я за гэта не бяруся.

**Міхась Амяльішка:** *Ад якіх хвароб дапамагае нетрадыцыйная медыцына?*

**Алесь Белакоз:** Як баліць нага ці рука, то трэба прыкладаць пласціны з медзі на тое месца, дзе баліць. І ўсё — праз ноч ужо не баліць. А ў вас ёсць медныя пласцінкі?

**Міхась Амяльішка:** *Не. Не маю.*

**Алесь Белакоз:** У меня быў цэлы ліст медзі, ды я паразадаваў людзям. А мне гэты ліст даў адзін хлопец. Было гэта так: мой сын выйшаў з гаража і пытае:

— Хлопцы, у каго ёсць медзь?

А адзін з іх кажа:

— А навошта табе гэтая медзь?

— А мой бацька лечыць людзей меддзю.

— Прыязджай, на такую справу я табе аддам усе мае запасы. На такую справу мне не шкада.

І ён даў сыну вялікі ліст два метры на метр.

Гэты хлопец ехаў на матацыкле па вуліцы. А з другога боку, з другараднай дарогі на машыне выязджала настаўніца і не

прапусціла матацykліста — зрабіла аварыю. Моцна пашкодзіла яму каленку так, што нага не згіналася, і ён папаў у шпіталь. Завязлі яго ў Масты. А тут прыйшоў да мяне сын і кажа:

— Я паеду ў Масты ў шпіталь. Пагляджу, як ён сябе адчувае.

— Едзь і скажы яму: хай ён адтуль хутчэй уцякае, бо калена зусім не будзе згінацца.

Сын пагаварыў з ім і прывёз яго да мяне. Я яму налажыў медную пласціну адну — вышэй калена, а другую — ніжэй. А на калена палажыў медную манету і забінтаваў. Сказаў яму, каб ён не знімаў бінт нават тады, калі яму моцна будзе балець. Дома ён заснуў і назаўтра прачнуўся, то закрычаў:

— Мамо, мамо! Калена згінаецца!

І ўжо ён хадзіў без мыліц, праз два тыдні танцаваў.

**Міхась Амялішка:** *А што на гэта сказалі дактары?*

**Алесь Белакоз:** Нічога. Іх гэта не цікавіла.

Вы ведаеце, прывёз тут калісьці намеснік дырэктара Гроднасельэнерга чалавек шэсцьдзясят моладзі на экскурсію ў музей і кажа ім:

— Мне дзевяць год балела калена. Я прыехаў да Алеся Мікалаевіча ўсяго адзін раз, прыклаў медную пласціну — вылечыў.

Так што трэба шукаць самому, як вылечыць захворванне.

Расказвала мне знаёмая жанчына:

— Мая ўнучка захварэла на дыфтэрыт і знаходзілася ў цяжкім стане. Выклікалі «хуткую дапамогу». Я ведала і верыла, што жоўць ёй дапаможа. Спрабую ёй памазаць горла жоўцю, а мяне дактары адштурхоўваюць: чаму тут старая баба лезе і мяшае лячэнню. Доктар там варажыў-варажыў і кажа: «Нічога не паможа — усё, памрэ». Дзяўчынка стала паміраць — дактары адступіліся і паехалі. Я хутка намачыла бінт жоўцю і абкруціла ім горла — дзіця павесялела. І ўсё — вылечылася.

Бачыце, я ж не ведаў, як лячыць яе. Тую хваробу ўмею лячыць, якая ў мяне была. А тое, што я не ўмею лячыць, дык трэба спрабаваць — можа, гэты лек паможа? Можа, і вашаму сыну паможа змазванне спіннога мозга, вонкавай часткі спіны свіной жоўцю? Тыя выпрабаванні лячэннем жоўцю ў маёй практыцы паказваюць, што жоўць арганізму шкоды не прыносіць. Тым больш што гэта лячэнне нядорага каштуе.

Далей, на спіну трэба класці медзь — у гэтым лячэнні неабходна цярпенне і вера. Інакш станоўчага нічога не будзе. Мая жонка доўгі час мядзяным пласцінкам не верыла, а апошнім часам, як ёй штосьці забаліць, дык яна адразу бярэ пласцінку медзі і прыкладае да забалеўшага месца. Іншага лепшага ратунку не бачыць. Яна ў гэтым цвёрда ўпэўнілася.

Бывае і так: у яе калена забалела. Яна бярэ мядзяную пласціну, прыкладвае яе і прывязвае. Лажыцца спаць — і раніцай ужо здаровая, боль знік.

**Міхась Амялішка:** *А як мне быць з сынам у лячэнні яго хваробы?*

**Алесь Белакоз:** Трэба намачыць бінт у жоўць і змазаць ім пазваночнік, і за дзень змазваць не менш як тры разы. Чым часцей будзем паўтараць гэтую працэдуру, тым хутчэй будзе вылечванне.

Справа ў тым, што некаторыя ўрачы шарлатаны. У нас тут захварэла дачка на рак. Ну вы ведаеце: лячылі яе, лячылі, і памерла яна. Я кажу:

— Чаму ж вы ёй не давалі жоўці, не прыкладалі медзі?

— Мы ёй нямецкія таблеткі куплялі.

— А, ну як нямецкія таблеткі, тады мне зразумела, чаму яна памерла.

А потым бацька сам захварэў на рак. Доктар даў яму дзве ўпакоўкі нямецкіх таблетак. Адну, кажа, я дару табе, а за другую заплаці мне 50 даляраў. Я прыехаў да знаёмага аптэкара, каб высветліць, што гэта за таблеткі. А яны аказаліся ад алкагалізму і ад наркаманіі.

**Міхась Куршук:** *Кажуць, што вы можаце на далоні ўбачыць захворванні...*

**Алесь Белакоз:** Пакажыце, што ў вас на руцэ за лініі? У вас, як і ў мяне, лінія роўная і моцная. У вас не было ніякай сур'ёзнай аперацыі?

**Міхась Куршук:** *Аперацыя была, але не сур'ёзная, — мне выдалілі жоўцевы пухір, камяні ў ім былі.*

**Алесь Белакоз:** Вам трэба патроху піць свіную жоўць.

**Міхась Амялішка:** *А што гэта за лінія на маёй левай руцэ?*

**Алесь Белакоз:** Гэта лінія жыцця. У вас яна перарывалася, а яна павінна быць неперарыўная.

**Міхась Амялішка:** *Мне адна варажэя 50 год таму назад нагадала, што я скора памру, а я ўсё жыву…*

**Алесь Белакоз:** Аднак гэта нічога не значыць, можна пражыць і сто гадоў. Хто ж яго ведае? Праўда, у мяне гэты рак, ён многа гадоў энергіі забірае. Я прымаю толькі медзь, жоўць і крамянёўку.

**Міхась Амялішка:** *Мы ж амаль равеснікі: я з 1929 года, а вы з 1928 года…*

**Алесь Белакоз:** У мяне зубоў няма. Прыехаў да мяне стаматолаг, ён мае ў Гродне сваю лякарню. Бацька яго служыць у нас папом. Прыязджае ў музей і кажа:

— Мы будзем у Мастах будаваць царкву. Аддайце нам іконы, якія ў вас.

У музеі ў нас ікон 40 з лішнім, добрых ікон, старажытных. Кажу:

— Калі ласка, з’ездзіце вы да мітрапаліта, няхай ён пагаворыць з міністрам культуры і дасць музею дазвол. Без дазволу Міністэрства культуры мы не маем права нікуды нічога перадаваць. Не то, каб у прыватныя рукі.

Ён кажа:

— Ну навошта гэта ўсё? Мы па-чалавечы — з рук у рукі.

— Вам з рук у рукі, а мне турма. Было 43 іконы, а іх няма.

Ён быў з сынам, а сын, сволач, адпомсціў. Забалеў у мяне зуб, і я зайшоў да яго. Ён памазаў нейкай гадасцю, і ў мяне ўсе зубы выпалі. Не аддаў іконы, дык на табе, заставайся без зубоў. Поп скажа: «Я не браў», а то памрэ. Мала што можа быць? А мне ж адказваць трэба. Не даў яму па-чалавечы. Каб у вас дома была свая ікона, то вы маглі б аддаць яму па-чалавечы. А ў музеі ёсць вопіс усяго, што там знаходзіцца. Вось такі «разумны» гэты чалавек.

**Міхась Амялішка:** *Давайце вернемся да лячэння майго сына… Я завязу жоўць у Мінск. Толькі сядзець там доўга не магу, і буду кагосьці прасіць. Як гэтай жоўцю карыстацца? Колькі разоў у дзень трэба мазаць і як?*

**Алесь Белакоз:** Чым часцей, тым лепей. Бяром кавалак марлі, мачаем у жоўць і гэтым тампонам мажам па пазваночніку не меней за тры разы ў дзень. Я мазаў праз дваццаць мінут. Як яна толькі высыхае, я зноў мажу. Каб яму гэта так хутка дапамагала, ён сам бы прасіў, каб яго мазалі. Тут ведаеце, справа ў чым, можа, нерв дзе заціснуты, можа што. А баліць яму?

**Міхась Амялішка:** *Не, не баліць. У яго ў міялінавай абалонцы нерва ўзніклі дзіркі, што прывяло да яго паралічу і часткова страты зроку.*

**Алесь Белакоз:** У якім воку быў страчаны зрок? Не помніце?

**Міхась Амялішка:** *Не, не памятаю.*

**Алесь Белакоз:** Я таксама губляў зрок. Але ў мяне была катаракта. Там устаўлялі хрусталік. А гэтым вокам я не бачу ўжо гады тры.

**Міхась Амялішка:** *Калі мой сын быў у Гродне, я даваў яму крамянёўку і выкарыстоўваў усе народныя сродкі. Тады ён яшчэ сам валодаў рукамі і мог карыстацца лыжкай. А зараз яго кормяць з лыжкі. А ў сястрынскім аддзяленні шпіталя Мінска нічога гэтага не прызнаюць. А забраць яго да сябе і лячыць такім спосабам я не магу, бо сам ужо маю шмат гадоў і я адзін. А Андрэя трэба паднімаць, мыць, карміць, мяняць памперсы і шмат чаго іншага. Скажыце, колькі можна гэтым крэменем карыстацца?*

**Алесь Белакоз:** Гады два ці тры, пакуль ён не стане белым. Як ён стане белым, можаце яго раздрабіць, і ён зноў будзе карысны, а не, то выкарыстаеце свежы, цёмны крэмень.

**Міхась Амялішка:** *Ну што ж, я цяпер ведаю, як гэты метад прымяняць у лячэнні свайго сына. І буду шукаць іншыя спосабы…*

**Алесь Белакоз:** Вы не чулі такое прозвішча — Арэхаў?

**Міхась Амялішка:** *У нас у інстытуце, калі я працаваў, працавала нейкая Арэхава. Магчыма, гэта была жонка Арэхава, які ў той час працаваў у аблвыканкаме…*

**Алесь Белакоз:** Калі Арэхаў працаваў у аблвыканкаме, усе з яго смяяліся, таму што калі хтосьці да яго заходзіў у ка-

бінет, ён не звяртаў увагі і не паднімаў нават галавы. Піша і піша. Праходзіць мінут дзесяць, пакуль падыме галаву. Каля аблвыканкама пасвілася каза. І вось «добразычліўцы» завялі гэтую казу да яго ў кабінет. Яна топ нагой, а ён піша, яна топ нагой, а ён піша, яна мэ-э-э. Паднімае галаву — каза стаіць. Дык я не ведаю: мужык ён гэтай вашай Арэхавай ці не?

Яна напісала вельмі цікавую навуковую працу па генетыцы і даказала: гены жыхароў Беласточчыны і гены жыхароў Беларусі аднолькавыя. А гены Беласточчыны і цэнтральнай Польшчы — розныя. Гэта ў сваёй працы выкарыстаў акадэмік Астроўскі. І вось з сынам гэтай Арэхавай я ляжаў у шпіталі, а ён працуе доктарам..

— Скажыце, калі ласка, у мяне дысбактэрыёз, ці вылечаць мяне дактары?

— Не, — кажа, — не вылечаць.

— А як я ім дам тысячу даляраў?

— Даляры возьмуць, а не вылечаць.

— А чаму не вылечаць?

— Каб вас вылечыць — трэба думаць. Яны не ворагі вам. А тысячу даляраў вы і так ім дасце.

— Так што ж мне рабіць? Паміраць?

— Не, трэба знайсці доктара: блізкага сябра ці сваяка, які можа вылечыць вас. Той, можа, вылечыць, а гэтыя не вылечаць.

Выпісаўся… Падумаў і вырашыў заехаць да яго на кватэру. Лічыў, што ён добры чалавек. Спадзяваўся, што можа вылечыць маю хваробу. Пагаварылі. Даведаўся, што ён з тых, хто за прыём бярэ дзесяць тысяч рублёў, і палажыў на стол яму дзесяць тысяч рублёў. Ён заўважыў і кажа:

— Уберите деньги!

— Не, я не буду ўбіраць.

— Тогда я вам последний раз говорю: уберите деньги, иначе я их выброшу в туалет.

— Не, я денег не забяру.

Тады доктар забраў са стала грашовую купюру, узяў мяне за руку і прывёў у прыбіральню. Кінуў ва ўнітаз дзесяцітысячную паперку і спусціў ваду.

— Надеюсь, теперь вы довольны?

— Я доволен.

Затым дае мне таблеткі.

— Попробуйте, может, эти таблетки вам помогут.

Я бяру таблеткі і кладу на стол пяць тысяч рублёў.

— Уберите деньги, иначе их постигнет та же участь!

Я ўзяў грошы, запіхнуў іх у кішэню і паехаў дахаты. І больш да гэтага доктара не паехаў, бо адчуваў сябе перад ім няёмка. Лячэнне таблеткамі ад дысбактэрыёзу мяне не выратавала. Выратавала мяне праз нейкі час крамянёвая вада.

Крамянёвая вада — унікальнае лякарства. Ягонае прызначэнне — ачышчаць кроў і ўмацоўваць сасуды ўсяго арганізма. Я ўсё больш і больш пераконваюся, што гэта дарагая вада....

Да аперацыі я не падлягаю, бо вельмі задаўнена. Я прашу — ампутуйце нагу, бо гэта ж не жарты. Ужо запозна — пайшлі метастазы. Паехаў я ў Мінск у інстытут анкалогіі, там ужо міністр умяшаўся. Там мяне абследавалі і сказалі:

— Калі мы не ампутуем нагу, то вы праз два месяца памраце.

У Гродне прафесар сказаў, што запозна, у Мінску — што памру.

Заехаў у шпіталь, мне, праўда, далі адзін сеанс апраменьвання. У 1986 годзе казаў мне прафесар:

— Давайце мы вам гэты гуз выражам. Ён на падэшве ступні і мяшае вам хадзіць, можа, на другое месца пяройдзе. Вы яшчэ пражывяце паўгода ці год, але зможаце хадзіць.

Ну, добра. Яны выразалі. На гэтым месцы пачынае расці гуз удвая большы, чым быў. Я ізноў звяртаюся да прафесара:

— Дык што ж гэта такое?

— Ну, трэба аблучаць.

— Аблучайце.

У мяне там нага забінтавана, бо рана. Кажу:

— Ці трэба знімаць павязку?

— Мы ведаем дзе.

Яны 25 разоў апраменьвалі там, дзе здаровае месца. Не тое месца апраменьвалі. Пайшлі пухіры на здаровым месцы, а гуз як сядзеў, так і сядзіць і нармальна сябе адчувае.

Я кажу:

— То вы апраменьвайце гуз.

Кажа прафесар:

— Як мы вам дамо хоць некалькі сеансаў апраменьвання, то вы памраце ад прамянёвай хваробы. Мы вам далі пад завязку.

— Ну дык што мне рабіць?

— Будзем рабіць хіміятэрапію.

Паставілі мне кропельніцу, і я тут жа страціў прытомнасць. Усе ўрачы збегліся і кажуць:

— Ваш арганізм не прымае хіміятэрапію.

Пытаю:

— Што мне рабіць?

— Едзьце дахаты.

На кастылях прыехаў дахаты, а паміраць мне не хацелася, і думаю: а што мне рабіць? Але мая бабуля калісьці мне казала: да гуза трэба прыкладаць медны царскі пятак. Пяць капеек медных. Тут яшчэ мне знаёмая настаўніца Ганна Уладзіміраўна Барысік параіла, што гэтыя манеты вельмі карысна прыкладаць да хворага месца.

**Міхась Амялішка:** *Я сустрэўся з ёю, і яна мне распавяла наступнае:*

*«Алеся Мікалаевіча Белакоза я ведаю даўно, з тых часоў, калі працавала метадыстам у кабінеце беларускай мовы і літаратуры ў Інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў г. Гродна і вывучала яго вопыт работы. Ездзіла шмат разоў у камандзіроўку ў Гудзевічы. Наведвала яго ўрокі. Вывучала яго музей. Увогуле ён быў вядомай асобай у раёне. Мы вельмі паважалі яго, ведалі пра яго, бо пра яго і настаўнікі гаварылі, і з метадычнага кабінета Мастоўскага раёна нам паведамлялі. Калі пыталі пра лепшых настаўнікаў, то першым называлі яго імя. Прапаноўвалі яго кандыдатуру для вывучэння настаўніцкага вопыту. Гэты чалавек быў вядомы ўсім настаўнікам, меў аўтарытэт і на слыху быў ва ўсіх, усе яго ведалі. Адна наша супрацоўніца хацела ехаць пераймаць яго вопыт работы. Але ёй сказалі, што нельга, не пусцілі. Аднак мінула некалькі гадоў, і мы рашылі зноў ехаць да яго. Але цяпер вырашылі, што паеду я. І калі я прыехала ў камандзіроўку, у Масты, зайшла ў райана да Мікалая Іванавіча Рынды, дык ён мяне папярэдзіў:*

*— Ведаеце, будзьце вельмі асцярожны з гэтым настаўнікам.*

*— А ў чым справа?*

*— Справа ў тым, што ён выпісвае польскую газету "Ніва", а там гаворыцца пра рэлігію. Распавядаюць, як святкаваць Хрыстова Раство, Вялікдзень.*

*Гэтым яшчэ больш ён мяне заінтрыгаваў. І калі я паехала да Белакоза, ён паказаў мне гэтыя газеты. Гэта вельмі цікавая газета. Алесь Мікалаевіч нават падарыў мне пару нумароў, якія я захоўваю і да гэтага часу.*

*Я вывучала яго вопыт, шмат разоў была на яго ўроках, падрабязна апісвала яго вопыт. Потым напісала справаздачу "Аб вывучэнні перадавога вопыту настаўніка Гудзевіцкай школы — Белакоза Алеся Мікалаевіча". Мы гэта на ратапрынце размнажалі і рассылалі па ўсіх метадычных кабінетах вобласці. Алесь Мікалаевіч у нас выступаў з лекцыямі ў інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў. Таму я Алеся Мікалаевіча добра ведаю і паважаю.*

*І вось праз нейкі час пайшла я ў абласны шпіталь, у анкалагічнае аддзяленне наведаць сваю знаёмую, бачу ў сталоўцы Алеся Мікалаевіча і пытаю ў яго:*

*— Чаму вы тут?*

*Ён мне расказаў, што ў яго моцна захварэла ступня правай нагі пасля таго, як ён наступіў на цвік. Яго пачалі апраменьваць, і атрымаўся апёк. Таму цяпер ён тут лечыцца, нічога не можа абуць на нагу, акрамя тапачка. Нават на працу ў школу ездзіць на ровары ў тапачку на хворай назе. Я яму сказала, што ў мяне ёсць артыкул пра лячэнне меддзю ракавых захворванняў. Гэта работа навуковага супрацоўніка Ленінградскага інстытута, здаецца Сафронава, і мы некалькі гадоў лечымся меднымі манеткамі. Лечым усе хваробы, напрыклад гастрыт. Гэта як хуткая дапамога — прыложыш манетку, і праз 10 хвілін боль праходзіць. Мая мама не верыла, што медзь дапамагае. А ў мамы было запаленне суставаў. Я яе пераконвала:*

*— Давай паспрабуем. Дапаможа ці не, а горш не стане.*

*На ноч мы прымацавалі манетку, а раніцай яна кажа:*

*— Я ж цэлую ноч на гэтым баку праспала, і мне нічога не баліць. Я ж не магла нават дакрануцца да гэтага месца.*

*Адзін раз мой муж Аляксандр Іванавіч прыехаў з летніка, а ў яго на лобе вялікі гуз. Ён таксама не верыў у медзелячэнне, але мы вырашылі прыкласці да гуза медную манетку.*

*— Вось прафесар, палечыш ты мяне, — казаў ён.*

*Але згадзіўся лячыцца. На раніцу селі снедаць.*

*— А дзе твой гуз?*

*— Знік.*

*І вось усё гэта я падрабязна расказала Алесю Мікалаевічу і паабяцала прынесці яму гэты артыкул. Мінула некалькі гадоў. Аднойчы я зайшла ў Інстытут удасканальвання настаўнікаў і сустрэла там Алеся Мікалаевіча. Я яго ледзь пазнала. Ён так памаладзеў. Такі папаўнелы. Проста ад чалавека патыхае здароўем. Раней, калі я ездзіла да яго, у яго быў гастрыт, і ён вельмі кепска выглядаў і быў вельмі худы. А цяпер ён чырванашчокі, пасвяжэлы — хораша так выглядае.*

*— Прайшоў мой гастрыт, — кажа ён.*

*Я не ведаю, ці выкарыстоўваў ён медныя манеты, бо я яму казала, што можна прыкладаць да таго месца, дзе баліць. Але прынамсі — кажа ён:*

*— Ганна Уладзіміраўна, я вам гатовы аддаць сваё сэрца.*

*А ён гаворыць гэта вельмі патэтычна.*

*— Вы ж мяне вылечылі! Вы ж цуд зрабілі. Я ж хаджу, я нават не кульгаю, я нармальны чалавек. Вы вылечылі мяне гэтымі манеткамі!*

*— Дзякуй Богу, што я прыдалася да гэтай справы.*

*— Я спачатку пачаў прыкладаць манеткі. Гляджу — трохі памагаюць. Потым вучні прыцягнулі мне меднай бляхі. З гэтай бляхі я нарэзаў тонкія палоскі. Мая нага стала сінець, сінюшнасць пайшла аж да костачкі і нават вышэй. Балела яна мне страшна. На гэтых палосках я прабіў па 2 дзіркі на супрацьлеглых канцах, замацаваў да дзірак гумку і прыкладаў да ступні нагі. Сінюшнасць стала адыходзіць ніжэй, а потым і зусім прапала. Нага стала белай, як і другая. Але, вядома, трэба рабіць перапынкі. Прынамсі, я вылечыўся ад гэтай хваробы.*

*Я кажу:*

*— Мне людзі далі, і я вам таксама перадала. То дзякуй Богу, што вам памагло.*

*Ён тады прапанаваў і ваду, настоеную на крэмені. Даваў мне крамянёвыя каменьчыкі. Яны былі насыпаныя гурбаю ў прыходні музея. Ён усім прапанаваў іх браць і выкарыстоўваць для атрымання крамянёвай вады. Потым ужо самі даставалі.*

*Напрыклад, я купляла іх у магазіне-аптэцы "Лекар" (на жаль, цяпер такой крамы ў Гродне няма), якая знаходзілася на вуліцы Паповіча, 9. Там я купляла і медзь, бо хацелася, каб яна была чыстая, добрая і якасная. У мяне і цяпер ёсць яшчэ кавалачак такой медзі, ён большы чым манетка, я і цяпер ім карыстаюся пры выпадку. У гэтым магазіне я таксама купляла крэмень, часопісы. Вельмі добра, каб быў такі магазін. Можна было б зайсці туды, купіць штосьці з народных сродкаў і лячыцца. І я лічу, што гэта лячэнне самае эфектыўнае, таму што, колькі я ездзіла ў санаторыі для лячэння страўніка — у Друскінінкаі больш за 10 разоў была, у Трускаўцы, у Феадосіі, Крыніцы, што пад Мінскам, Есентукі... Увогуле я палічыла: 18 разоў была ў санаторыях. І нішто мне не дапамагло.*

*Народныя сродкі лячэння — гэта цудоўная справа. Я ўсё лячыла страўнік. Пасля санаторыяў станавілася трохі лягчэй, але не надоўга. Потым зноў трэба было ехаць. Праз нейкі час я захварэла на халецыстыт, і так моцна, што некаторыя разы я не магла працаваць. Так сушыла ў роце, што нават гаварыць не магла. У час урокаў выбягала з класа, каб папіць вады. Мне пераcталі памагаць санаторыі. Лягчэй станавілася на месяцы два-тры, не больш, і ніякага аблягчэння мне не было. Тады я прачытала ў газетах пра метад Бутэйкі, пра яго ў той час шмат пісалі. І вось у «Гродзенскай праўдзе» такая заметка — што ў паліклініцы № 2 адчыняецца кабінет па лячэнні метадам Бутэйкі. Медыцынскі інстытут распрацаваў тады методыку лячэння гэтым метадам органаў дыхання. А ў мяне — страўнік, мяне туды не бяруць. Я тады ўсялякія высілкі зрабіла, бо ў мяне іншы раз бываў бранхіт, ангіны бывалі. Але хранічнага мне нічога не ставілі. Усё роўна я пераканала сваіх дактароў, каб яны мне паставілі ў картцы, што я перыядычна хварэю органамі дыхання. І з гэтай даведачкай я прабілася туды на лячэнне. Я пачала хадзіць на гэтыя заняткі. Хадзіла паўгода, раз у тыдзень па панядзелках. У нас была група, там былі астматыкі, тыя, што на гармонах сядзелі. Была ў нас доктар Пілец. Яна мне добра запомнілася. Перад пачаткам заняткаў яна абавязкова правярала ціск і сардэчны рытм, а потым ужо давала адпаведную нагрузку па дыханні. Кожны з нас вёў такі дзённік, дзе запісвалі ўсе свае паказанні. Нагрузка кожны раз*

*павялічвалася. Трэба было затрымліваць дыханне. Трэба было закрываць для гарантыі нос і не дыхаць, пры гэтым глядзець на гадзіннік. Трэба было затрымліваць дыханне на 1 мінуту, і гэта было ідэальным. Гэта была гарантыя таго, што чалавек папраўляецца. Я сябе адчула лягчэй на трэці раз заняткаў, а за месяц — я магла сябе лічыць практычна здаровым чалавекам, але я хадзіла яшчэ паўгода, каб усё гэта замацаваць. І дзякуй Богу, з тых часоў прайшло ўжо шмат гадоў, і халецыстыт я кантралюю».*

*Я спытаў, ці спрабавала яна пераняць вопыт лячэння ў Белакоза.*

*«Я чытала цэлыя тамы яго кніжак. У яго я ўзяла многае. Больш за ўсё мяне цікавіў яго бескантактавы метад лячэння. Як уздзейнічае чалавек на чалавека, яго поле. Я шукала ў яго кніжках якія-небудзь звесткі пра гэта — пра знахарства, як некалі казалі. Як бабкі-шаптухі дапамагаюць. Ёсць такія хваробы, якія не можа вылечыць медыцына.*

*У мяне дваюрадны дзед, дзядзька майго бацькі, быў знахарам. Але ён быў дацэнтам, кандыдатам эканамічных навук. Ён прайшоў ГУЛАГ, адсядзеў там 10 гадоў. Вось ён займаўся знахарствам, а я за ім наглядала. Да яго прыязджалі ўсякія хворыя: крывыя, касабокія, нагу цягнуць, руку цягнуць, твар перакошаны… І ён мне аднойчы паказваў запіску ад Жалудоцкага доктара: «Іван Міхайлавіч, пасылаю вам хворага такога. Гэта хвароба па вашай частцы». І ён іх лячыў. У яго была чарга людзей, да яго ехалі з усёй Беларусі. Заўсёды прыязджалі і прыходзілі людзі, як толькі маглі. Хворыя людзі знайшлі яго нават на пахаванні ў майго бацькі. Казалі, што ён валодаў гіпнозам. Ведаючы такую справу, я сама лячылася гіпнозам.*

*У мяне пачала развівацца глаўкома. Я сустрэла вельмі добрага доктара. Яна ў мяне пытала, ці ёсць у мяне якія-небудзь моцныя захворванні. Бо мне яна выпісвала кроплі, такія, як усім глаўкомнікам, але яны ўсім дапамагалі — а мне не. Пытала ці ёсць у мяне які-небудзь балявы ачаг. Я ёй адказала, што ёсць.*

*— Усё, што вы робіце, — гэта добра, але, можа, ужо ваш арганізм не прымае гэтых метадаў, мабыць, ён стаміўся. А вы паспрабуйце піць звычайную халодную ваду. Выберыце аптымальны варыянт, які б вам падыходзіў да вашага лячэння.*

*Я пачала піць па шклянцы вады тры разы ў дзень і пачала адчуваць сябе намнога лепш. У дадатак да ўсяго я піла крамянёвую ваду. У мяне і цяпер стаіць такая вада, якую я ўжываю...»*

**Алесь Белакоз:** Праўда, у мяне царскай пяцікапеечнай манеты не было, я прылажыў савецкі пятак. Вечарам прылажыў — раніцай ўжо гуза не было. Гэта, відаць, па той прычыне, што арганізм паслаблены аперацыяй. Нармальны гуз так хутка не прападае. Вера Ігнатаўна і я так цешымся, бо пяць месяцаў да гэтага ў шпіталі праляжаў, нічога зрабіць не маглі, а тут за адну ноч ён знік. Як кажуць: бабуліны казкі. Гуз прапаў, а вечарам зноў пачаў вырысоўвацца, як я зняў павязку. Я зноў прылажыў манету, і зноў гуз прапаў. І так некалькі разоў. Потым я прыклеіў пластырам манету і хадзіў два дні. Калі здыму — манета чорная як вугаль. Я спрабаваў яе чысціць — не чысціцца. Шылам калупаў — гэта чарната ўядалася ўсярэдзіну. А гэты гуз сам чорны як вугаль. І я так прыкладаў на працягу года.

Я зноў у абласным шпіталі. Лечаць мяне дымедролам. А я набраў многа музейнай работы, а ад дымедролу спаць хочацца. Я выкідаю гэтыя таблеткі і раблю работу, а нага чарнее. Ручкай назначу граніцу распаўсюджвання чарнаты, за адны суткі на сантыметр. Я і кажу доктару:

— Доктар я ў вас ляжу дзесяць дзён, нага мая пачарнела на дзесяць сантыметраў. Калі я ў вас ізноў пяць месяцаў паляжу — стану як негр. Мяне ў хаце не пазнаюць, скажуць, з Афрыкі прыехаў.

Кажа доктар:

— Мы вас лечым.

— А як вы мяне лечыце?

— Таблеткі даём дымедролу.

— То дзякуй.

Урач пайшоў, а я дастаў з сумкі медную бляху, нажніцы, выразаў пласцінку, шылам прабіў дзюрачкі, напільнікам пашараваў усе, зацягнуў рызінку і адзеў на хворае месца, дзе чарнела гэтая ступня. Яшчэ там у аднаго хлопца на руцэ быў гуз, і я яму зрабіў так, у другога на шчацэ быў гуз — таксама зрабіў. Мы сабе пераначавалі. Мая нага белая. Пухліны ніякай

няма. А тое месца, дзе ў мяне была пласцінка, — пазелянела. Я мыў, можа, з паўгадзіны, але вымыў так, што нага не была зялёнай. Прыходзіць доктар і кажа:

— Бачыце, учора скардзіліся, што нага чарнее, спухла. Бачыце: опухаль сышла, чарнаты ніякай няма.

І я гавару:

— Дзякуй вам, доктар.

А гэтыя хлопцы смяюцца — га-га-га! Ён здагадаўся, што тут нешта ёсць. Назаўтра я яшчэ ляжу ў ложку, гадзін, можа, у шэсць або сем. Той урач дзяжурным быў, а можа, спецыяльна прыйшоў. Уваходзіць у палату і кажа:

— Пакажыце вашу нагу.

Я паказаў, а там медная пласцінка. Божа мой, як разышоўся ён:

— Як вам не сорамна. Вы ж настаўнік. Нейкія бабуліны казкі. Ды мы вас лечым. Тут усе прафесары, вы, як вы можаце?

Я кажу:

— Прабачце, нага пабялела не ад дымедролу, бо я яго выкідваю. Яшчэ нікога ад раку не вылечылі дымедролам. Нага пабялела ад гэтай пласцінкі. А вы замест таго, каб здзіўляцца, вывучаць гэта, папракаеце.

— Я пайду да прафесара, я не магу ў такіх умовах працаваць.

— Ідзіце, ідзіце да прафесара.

Праз два дні прафесарскі абход, і кажа прафесар Беражноў:

— Алесь Мікалаевіч, мы вас лаялі за медзь. А ўчора я прачытаў у газеце «Известия», што медзь — гэта вельмі добры сродак.

Кажу:

— Нагу ампутаваць мне запозна?

— Запозна, — сцвярджае прафесар.

— Апраменьваць больш нельга?

— Нельга.

— Хімію не прымае мой арганізм?

— Не прымае.

— Што вы прапануеце?

Ён кажа:

— Нічога. Няма ніякага ратунку.

То кажу:

— Адпускайце мяне, я буду ў хаце меддзю лячыцца.

— Канешне, гэта правільнае рашэнне.

Я прыехаў дахаты, прыкладаў на ступню і трошку вышэй медзяныя манеты некалькі месяцаў, і ведаеце — рак не баліць. То чаго? І зноў кінуў. Гэта была мая другая памылка. Мне трэба было прыкладаць увесь час. Я не навучыўся на першай памылцы. Ізноў мне пачало балець вышэй крыху, уся нага да калена. Я ўжо клаў многа пласцінак, цяпер на ноч кладу 31 пласцінку, магу і болей. Абкладаюся ўвесь меддзю, і гэта мяне ратуе. Дваццаць другі год ужо пайшоў, як я лячуся. У Мінску мяне сілай палажылі Гілевіч і Цумараў — дэпутаты Вярхоўнага Савета. Дайшлі да міністра, накіраванне там узялі. Палажылі мяне ў анкалагічны шпіталь. Я не хацеў лажыцца, бо ведаў, што яны мне нічога добрага не зробяць. Абследавалі: ампутаваць патрэбна нагу. Ведаеце — там жа медінстытут. Ім трэба практыкавацца. Чалавек немалады, чаму не ампутаваць яе. Яшчэ тут у мяне гуз на лобе быў. Гэты гуз таксама анкалагічны. Але я наадрэз адказаўся ампутаваць. Яны кажуць: ну добра, нагу мы разумеем, з адной нагой цяжка. А чаго вы гуз не даяце выразаць?

— Гуз выражаце, а метастазы мне пакінеце. Яны мне не патрэбныя. А я гэты гуз выдалю разам з метастазамі.

І ўсё-такі пратрымалі мяне ў шпіталі 31 дзень. Я ўцячы не мог — зіма. Адзення не аддаюць. Пайду ў гэтым бальнічным халаце, мяне адразу міліцыя вылавіць і верне ў шпіталь. Так я там і сядзеў.

Нарэшце адпусцілі. Прыехаў дахаты. Медзі я з сабою не браў — зусім стаў хворы: ногі, рукі, ніз жывата баляць. Я прыкладаў медзь, а яна мне ўжо не памагала.

Еду ў Масты да загадчыцы раённага аддзела культуры і падаю заяву вызваліць мяне з пасады дырэктара Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея.

Тады спадарыня Чыкіндзіна сказала:

— Вы стварылі гэты музей, і ніхто лепш за вас ім не пакіруе. Калі вам цяжка хадзіць на працу, то кіруйце работай музея, усімі супрацоўнікамі па тэлефоне.

Прайшло, можа, з тыдзень. Працую ў сваім кабінеце, аж рыпнулі ў калідоры ўваходныя дзверы, і бачу, што зайшла

старэнькая жанчына з вёскі Касілы, якая за дзесяць кіламетраў ад нас. Яе дачка — мая хросная маці. Яна мне кажа:

— Сашачка, я чула, што ў цябе рак. Ці праўда гэта?

— Праўда, бабулю, — кажу я.

— Нічога гэты рак не страшны.

— Чаму вы так думаеце? — пацікавіўся я.

— У мяне рак цыцкі ўжо 16 гадоў, а я ў гэтым року дваццаць сотак гароду скапала. Мне ў Гродне казалі, каб адрэзаць цыцку, але я адмовілася.

— Чаму? — зацікавіўся я.

— Маёй сястры Клаўдзіі адрэзалі цыцку, аблучалі, давалі нейкую атруту, а яна праз тры гады памерла. А мне няма патрэбы паміраць: я маю ўсяго 84 гады.

— Ну, а як вы лечыцеся?

— Я п’ю свіную жоўць.

— Дзе вы яе бераце?

— Я бяру гэту жоўць, ходзячы па людзях. Свіней як колюць, то яе выкідаюць. Звычайна кажуць, што заўтра будзем калоць. Я прыходжу і чакаю, каб часам не забыліся. Звычайна колюць у суботу ці ў пятніцу. І іду па вёсках з хаты ў хату. Пытаюся: «Можа, вы калоць будзеце?» Я так і ратуюся.

Вы ведаеце, топішся — за брытву ўхопішся. Я дастаў гэтай жоўці на комплексе, стаў піць. Шэсць дзён я нічога не адчуваў. А на сёмы дзень мне перасталі балець рукі і ногі. Мне гэта вельмі спадабалася. Я гэту жоўць п’ю з 1992 года.

У мінулым годзе ў сакавіку я паламаў гэтую хворую нагу, і мне яе ўзялі ў гіпс. І тады я не змог карыстацца меддзю — з’явіліся метастазы і распаўсюдзіліся па ўсяму целу. Узніклі страшэнныя болі. Я паехаў у шпіталь і папрасіў зняць гіпс, з мэтай, каб я мог распачаць лячэнне меддзю. Тут жа пачаў сваё лячэнне: прыкладаў мядзяныя пласціны, піў свіную жоўць і доўгі час не мог зняць страшэнныя болі. Але потым усё прайшло, усё добра. І, можа, з месяц я сябе так добра адчуваў, усё ў хаце раблю, свінням бульбы напару, занясу і пасцялю. Накашу ім травы — ну, як здаровы чалавек. Тым часам, вось чацвёрты дзень сёння, баліць мне жывот. Я ўжо так абкладаюся меддзю. Бачыце — адна пласцінка, другая пласцінка, трэцяя вось на спіне, на назе. Я вам так падрабязна расказваю, каб вашы

дзеці зрабілі вывад: будуць шукаць — знойдуць. Ведаеце, мне захацелася знайсці яшчэ больш радыкальны лек, каб гэтая хвароба знікла зусім, і я перабраў усе спосабы, якімі лечацца ўсе людзі: піў нафту авіяцыйную, вы ведаеце, як п'ю нафту, то не п'ю жоўці — памагае, але ад жоўці становіцца лепш. Далей, піў алей з гарэлкай перад ядою — памагае, піў сыроватку з чыстацелам — памагае, але жоўць лепш. А потым я махнуў рукой, што няма чаго шукаць, бо я, шукаючы, памру. І цяпер я выкарыстоўваю пераважна жоўць і медзь і, разумеецца, не забываю аб крамянёўцы. Прымаю жоўць па кілішку за гадзіну да яды тры разы ў дзень.

**Міхась Амялішка:** *Яна ж горкая...*

**Алесь Белакоз:** І гарэлка горкая, а мы п'ём яе.

Цяпер я хацеў бы перайсці да хваробы вашай дачкі. Як яна пачалася, гэта хвароба?

**Міхась Амялішка:** *Папаўнела здорава, сцерліся храшчы ў клубах.*

**Алесь Белакоз:** Дзе ёй пачынала балець спачатку?

**Міхась Амялішка:** *Каб яна была сама, яна сказала б лепш за мяне.*

**Алесь Белакоз:** А вы ў яе не пыталіся, як што пачыналася?

**Міхась Амялішка:** *Я ж не лекар, я не пытаўся.*

**Алесь Белакоз:** Чаму я пытаюся так? Я тут чуў англійскага прафесара, які па радыё выступаў, ён кажа, што храшчы сціраюцца па той прычыне, што мы дыхаем нядобраякасным паветрам, ямо не тую ежу, што патрэбна, і, самае галоўнае, п'ём няякасную ваду. І выходзіць тое, што наша кроў недабраякасная. Як кроў недабраякасная, яна не прыносіць да храшчоў той колькасці спажыўных рэчаў, якія патрэбны клеткам. Клеткі пачынаюць адміраць, і калі не дапамагчы ім, яны поўнасцю адамруць, і застануцца голыя косці, чалавек не зможа нават па хаце прайсціся. А тут я ехаў аднойчы з Мастоў, і села каля мяне жанчына. Пытаюся:

— Як у вас справы, што добрага чуваць?

— Добрае чуваць.

— А што добрага?

— Вось балела мне нага і перастала.

— А чаму вам перастала балець нага?

— А я націрала.

— А чым вы націралі?

— Абы-чым. І гарэлкай націрала, і лопухам націрала. Жоўцю націрала.

— А што лепей дапамагае?

— Усё дапамагае.

Значыць, ёй не дапамаглі ні гарэлка, ні лопух, ні жоўць, а ёй дапамог масаж. А тут прайшло, можа, паўгода, як у маёй жонкі, Веры Ігнатаўны, забалела нага ў клубе. Я кажу ёй:

— Як той жанчыне дапамагло, дык і мы будзем рабіць масаж.

Нічым не націралі, рабілі масаж. Праўда, яна прыкладвала медзь. Гэта вялікая сіла. І вы знаеце, прайшло даволі хутка. Мінула, можа, тры дні ці тыдзень — перастала балець. Але прайшло гадоў, можа, два, ізноў ёй забалела нага. Бачу, кульгае. Кажу:

— Чаму ты нічога мне не кажаш, што баліць нага?

— А, няма часу. На вуліцы восень, трэба займацца гародам.

Кажу:

— Гэта ж не жарты.

Стала прыкладаць медзь, і зноў усё прайшло. Можа, гадоў 4–5 нічога не балела. А ў мінулым годзе зноў ёй забалела нага. Зноў — медзь. Так можна рабіць і дачцэ вашай, паколькі хвароба запушчана, то даўжэй трэба прыкладаць медзь. І абавязкова рабіць масаж.

А самы лепшы сродак супраць інсульту — крамянёўка, а ад болю суставаў — медзь. А цяпер пра крамянёўку...

Што я вычытаў у прафесараў? Ужо заняліся многія гэтай вадою. Напрыклад, прафесар Істомін піша, што вада гэта лечыць па той прычыне, што яна настойваецца на гэтым крэмені, які ўтвараўся 200 мільёнаў гадоў таму. У той час жылі вельмі магутныя жывёлы — мабыць, дыназаўры.

Праўда, гэта не ён піша, я сам да гэтай высновы прыйшоў, што нідзе няма чорнага крэменю — толькі ў нас. А лечыць толькі чорны крэмень, праўда, у Канадзе яшчэ ёсць, але горшы. Чаму чорны? Сам па сабе крэмень белы. Але ён можа

мецць мінеральныя ці арганічныя дамешкі і будзе чорны, жоўты, зялёны, блакітны, ружовы, карычневы. А лечыць толькі чорны. Чаму чорны лечыць? Ён мае дамешкі тых арганізмаў, якія жылі ў той час. А тыя арганізмы мелі вельмі магутную імунную сістэму. І вось калі мы настойваем ваду на гэтым крэмені, то паступова рашчыняецца гэтае чорнае рэчыва, якое фарбуе белы крэмень у чорны колер. Мы п'ём гэту ваду, і наша імунная сістэма пачынае працаваць добра. Гэта я так разважаю. А прафесар кажа, што яна дапамагае добра таму, што яна вельмі добра ўплывае на кроў. Робіць яе якаснай, вельмі добрай. Чаму? Справа ў тым, што гэта кроў па вадароду мае pH = 6. Я не разумею, што такое pH = 6? Вада таксама мае pH = 6, і больш такой вады нідзе не бывае ў свеце. І калі мы п'ём такую ваду, кроў становіцца вельмі якаснай. А калі якасная кроў, павінны расці якасныя клеткі ў храшча. Ва ўсякім выпадку, я многа п'ю такой вады. Мая жонка Вера гэтай вады не піла, але цяпер пакрысе прымушае сябе піць, бо хочацца пажыць. Калі я многа п'ю вады крамянёўкі, то ніякіх праблем. Усе кажуць, што сала шкоднае. Пісьменнік Вярцінскі пытаецца:

— Алесь Мікалаевіч, напэўна, дыету строгую захоўваеце?

— Вельмі строгую: без сала не сядаю за стол.

Ведаеце, вельмі добрая дыета — дапамагае ў лячэнні маёй хваробы.

**Міхась Амяльшка:** *Мой сын Андрэй кажа: «Сала я не ем, іншых тлушчаў таксама, бульбы і хлеба амаль не спажываю, не п'ю малака».*

**Алесь Белакоз:** Гэта, мусіць, з-за хваробы. Тут цяжка сказаць, ведаеце, медыцына ўсё гэта робіць усляпую. Паглядзіце: тысячу гадоў, як хворы чалавек, то раілі: спажывай булён з курыцы. Сёння ўрачы не раяць хвораму даваць булён з курыцы (можа, таму, што бройлерныя куры ўтрымліваюць шкодныя рэчывы, якімі іх кормяць). Ні ў якім выпадку хвораму чалавеку не даваць сала, тлушчу. Не есці хлеба, булкі, бульбы. Ні ў якім выпадку не піць малака. Малако — толькі для маладых арганізмаў. А для старых?

Ні ў якім выпадку не ўжываць цукру. Ну што застаецца? — Што, толькі тварог ужываць?

Трэба, каб вашыя дзеці пілі крамянёвую ваду. Што ім гэта дасць: у іх будзе якасная кроў. Вось хоць бы такі прыклад: я ў дзяцінстве паміраў, у поўным сэнсе слова, пайшла кроў з носа. Лекар нічога не змог зрабіць. І ўжо дванаццатая гадзіна ночы. Лекар кажа:

— Я нічога не магу зрабіць, пайду я дахаты, усё роўна ён памрэ.

Мама збегала да святара, там быў у яго ляднік, абклала мяне лёдам, нейкімі зёлкамі — і кроў спынілася, і я жыву. Але кроў у мяне ішла вельмі часта. Як я стаў піць крамянёвую ваду, дваццаць шосты год у мяне не паказвалася кроў з носа. Цікава, праўда? Кроў якасная робіцца, сасуды таксама. Гэта так важна для чалавека. Піць крамянёвую ваду трэба абавязкова.

**Міхась Амялішка:** *Ваду Андрэй перастаў піць з той прычыны, што камяні пасівелі.*

**Алесь Белакоз:** Я дам крамянёвыя камяні вам і Міхасю. Я ўпэўнены, што пройдзе з дзясятак гадоў, і большасць людзей будуць піць крамянёвую ваду. Нашу медыцыну цяжка зрушыць. Спачатку пачалі перапісваць мае артыкулы, а ў іх было шмат памылак. Яны ўсе мае памылкі перапісвалі. Я, напрыклад, пісаў, настойваць крамянёўку трэба на акне. Няпраўда, бо вада зелянее, псуецца і дрэнна пахне. Гэта была мая памылка. Самі не займаліся, але перапісвалі. Гэтыя даследчыкі паставілі эксперымент: сталі карміць пацукоў кашай з патоўчаным крэменем. Атрымалася, што нейкі пацук здох. Колькі радасці было ва ўсёй Беларусі. Аказваецца (зрабілі аналіз той вады), што ў той вадзе крэменю значна менш, чым дапускаецца па ГОСТу для пітной вады. Крэмень у пітной вадзе не раствараецца, а раствараецца гэтае чорнае рэчыва, якое лечыць, а крэмень тут ні пры чым. Сёння вучоныя на маім баку, а лекары пакуль маўчаць. Праўда, у Свіслачы галоўны ўрач паехаў на цэмзавод, прывёз машыну крэменю і лечыць людзей ды на кожнае свята прысылае мне віншаванне. Толькі адзін лекар, якога я ведаю. А так пасміхаюцца.

Дарэчы, гэты крэмень купляюць англічане ў Канадзе і вязуць яго ў Афрыку. Там няма пітной вады — яна або прывазная, або ачышчаная. Горача — яна псуецца. А калі ў ваду дабавіць крэмень, то яна не толькі не псуецца, але становіцца лекавай.

Так што, значыць, вашай дачцэ рабіць? Па-першае, трэба, каб нейкі лекар пераканаў вашу дачку, каб яна піла крамянёўку. Яна, можа, не п’е крамянёўкі, то тут трэба так зрабіць: у гарбату пры пяцідзесяці градусах падліць крамянёўку і спажываць, да супу можна падліваць, дабаўляць у халаднічок. А раней трэба было закіпяціць ваду, потым яе астудзіць. А з крамянёвай вадой аніякіх праблем. Кіпяціць яе нельга — бо яна траціць свае лекавыя ўласцівасці. Яна ўжо не будзе лекавая. Як у вас няма медзі, я вам дам дзве пласцінкі, хоць у мяне з меддзю туга. У вас такая бяда, што я апошняе аддам. Я даставаў часта па квадратнаму метру меднай бляхі. Але за месяц-два раздаваў яе ўсім. Чаму? Прыязджаюць хворыя людзі, як ім не даць? Праўда ці не? Грэх не даць. Гэта жанчына, якая сказала мне піць жоўць, кажа:

— Вы толькі нікому не кажыце, бо як вы скажаце — пачнуць піць усе.

— Як я магу не сказаць? У мяне сусед хворы на рак, ён памрэ. Будуць яго хаваць, я ж пайду да яго. Атрымліваецца, што я забіў яго, я мог яго выратаваць.

Я прыехаў дахаты, наліў яму сто грамаў жоўці, занёс і кажу:

— Табе будзе на тыдзень. Піць трэба тры разы на дзень па лыжцы.

Расказаў, як і што. Кажу:

— Праз тыдзень табе будзе лепш. Тады даставай жоўць на свінагадоўчым комплексе.

Праходзіць, можа, тыдні два. Сустрэў яго жонку, пытаю, ці дапамагла Пецю жоўць?

— Не, не памагла. Пеця памёр.

Прайшло гады два. Сустрэў яе зноў. Яна кажа:

— Але ж гэта жоўць вялікую сілу мае. Мне балеў жывот, я аб’ездзіла дактароў паўсвету, нічога не памагае. Тады давай па лыжцы піць гэту жоўць, усё прайшло — стала здаровай.

Пытаю:

— То Пеця не піў жоўці?

Кажа:

— Не, не піў. Памёр, але не піў.

Чаму ў шпіталі патрэбны лекары? У шпіталі лекар стаіць над хворым і кажа: «Пі!» І ён п’е. У майго аднакласніка быў таксама рак кішэчніка. Я яму занёс жоўць і прапанаваў выпіць. Кажа:

— Як гэта жоўць можа дапамагчы? Пашкодзіць можа. Ты мяне забіць хочаш? Як сабака з’есць жоўць, дык здыхае.

Прынёс яму крамянёвай вады.

— Яшчэ чаго? У мяне вады поўны калодзеж, не буду піць.

— Прыкладай медзь.

Дык што ён зрабіў? Павесіў на шыю на вяровачцы медную пласцінку. І яна на жываце калоціцца.

Я яму кажу:

— Ты ж зрабі, каб яна на гумцы была, каб прылягала да жывата.

Так і памёр. Нічога ён не рабіў.

Дык вось, цяжка такім людзям дапамагчы. Я на 99 % упэўнены, калі ваша дачка будзе піць крамянёвую ваду, рабіць масаж і прыкладаць медзь — напэўна выздаравее. Хрaшч будзе расці.

Я неяк на днях выцяўся локцем. Выцяўся і выцяўся, тым часам, гэтаму локцю горш і горш. А да локця вельмі дрэнна прыкласці медную пласцінку, бо тут згінаецца рука. Палажыў пласцінку каля локця і прывязаў гумкай. За ноч мне стала намнога лягчэй, а праз дзве ночы перастаў балець локаць. Я і на трэцюю ноч палажыў, а што, хіба ж гэта цяжка? Настолькі гэта моцны лек. Хай яна кладзе адну пласцінку ля калена, другую — ніжэй, на спіну, на крыжы, ніжэй пояса. Ёй трэба, мабыць, шмат медзі. Я больш за 20 гадоў абкладаюся меддзю. Урачы за галаву бяруцца, а людзі пытаюць: чаму Белакоз жыве? А ён у нас лечыцца. Я час ад часу спачатку ездзіў да іх, каб яны карысталіся меддзю, а яны ўсё запісвалі, што я нейкія працэдуры рабіў у іх. Дык я перастаў да іх ездзіць. Ужо, можа, гадоў 17 не езджу. Раней, як я там бываў, заходзіў у 4-ю палату і растлумачваў хворым, як я лячуся. Не езджу больш я ні да хворых, ні да лекараў. Яны замест таго, каб пераняць мой вопыт, запісвалі, што яны лечаць. А між іншым гэтыя выдумкі вельмі шкодныя. Вось такі прыклад: захварэла жанчына на рак. А муж вельмі кахаў яе. Што ён робіць? Прадае машыну і лекараў пытае:

— Хлопцы, вылечыце яе?

— Вылечым.

Аддае гэтыя грошы ім, больш за пяць тысяч даляраў. Паправы вялікай няма. Аперацыі і лячэнне не памаглі. Ён прадае

дачу, аддае ім грошы, потым прадае гараж. Але жонка памерла. Ён пытае лекараў: вы ж абяцалі, што вылечыце. А яны адказваюць:

— Дык яна ж тры гады жыла. Калі б мы яе не лячылі, яна б праз год-паўтара памерла, а так тры гады пражыла.

— Называецца, вылечылі — даўжэй памучылася.

На ноч я на сябе кладу больш за 30 пласцінак. Нават на вочы кладу, бо ў мяне глаўкома — таксама памагае.

**Міхась Амялішка:** *Дык вы не толькі лекар, але і вынаходнік?*

**Алесь Белакоз:** Куды падзенешся? Трэба жыць.

З паўгода назад прывёз мне сын ліст меднай бляхі. Божа, гэта ж такое багацце! Я раздаваў і сваякам, і сябрам. Медзь яшчэ вельмі добра ўплывае на нервовую сістэму.

Раней я як рабіў: даю вам медзь і кажу, як дзе медзі дастанеце, то аддасце мне. І вам кажу: як дзе знойдзеце, то, калі ласка, можаце вярнуць. Было так, што мне прывозілі многа медзі. Я ізноў раздаваў. Вашай дачцэ патрэбна шмат медзі. Вы ўпэўніліся?

**Міхась Амялішка:** *Я разабраўся, і ва ўсё гэтае лячэнне я веру. Але як мне яе пераканаць?*

**Алесь Белакоз:** І яе, і зяця...

**Міхась Амялішка:** *Зяця яшчэ горш.*

**Алесь Белакоз:** Ваш зяць павінен прымушаць сваю жонку своечасова прыкладаць медную пласцінку.

Як рабіць гэта? Як у мяне хварэе жонка, я адразу прымушаю яе класці медныя пласцінкі. Я даю вам медзь, яшчэ і крэмень, які можна пабіць на драбнейшыя кавалкі. Дарэчы, у Санкт-Пецярбургу кавалак крэменю памерам з арэх каштуе 4 даляры. Як кавалак крэменю завялікі, яго трэба палажыць на кавадла ці на бетон і разбіць абухам сякеры ці малатком. Але пры гэтым абавязкова трэба адзець акуляры, бо адскочыўшым крэменем можна выбіць вока.

Раней у мяне часта быў радыкуліт, а цяпер не бывае, бо я абкладзены пласцінкамі. Калі адразу не пакладу, тады больш за тыдзень трэба лячыцца. Хваробу трэба лячыць адразу, а лепш апярэджваць. Дык вось, вашаму сыну трэба гэта ўсё

разам рабіць. Скажыце: а лекары яму не раяць падымацца і стаяць, каб умацоўваць мышцы?

Калі чалавеку захацелася піць — гэта дрэнна, значыць, у крыві бракуе вады. У мяне па ўсёй хаце стаяць кубкі з вадою, і за дзень іх выпіваю — каля двух літраў вады. Я даведаўся, што ў майго знаёмага быў гемарой з кроўю. Хацеў ён набыць свечкі. Я яму кажу:

— Ні ў якім разе не купляй іх, бо яны як мёртваму прыпарка.

Але ён не паслухаў мяне, паехаў. Прайшло месяцы тры. Сустрэў. Бачу яго ў магазіне, абапёршыся на стол, увесь бледны...

Убачыў мяне і кажа:

— А ў мяне рак.

— А чаго рак?

— Ну там, у праходзе.

— Ніякага раку ў вас няма. Я гэты рак ваш раз-два вылечу. Ідзем са мною.

Я завёў яго ў музей, даў яму крэменю, расказаў, як і што. Стаў ён піць крамянёвую ваду. Значыць, усё ў парадку. Ніякай крыві не ідзе, і добра ён ходзіць на двор. Ніякіх праблем няма, нічога не баліць. Але мінула, можа, гадоў чатыры, можа пяць, яму параілі, што вельмі добра піць бярозавы сок. А паколькі ён старанны чалавек, ён нарабіў яго шмат, і мне прывёз сорак літраў. Я не п’ю соку, я п’ю крамянёвую ваду. Я яму падзякаваў. Ён стаў піць сок, а крамянёвую ваду перастаў піць. Павыкідаў гэтыя слоікі. Прайшло, можа, тыдняў тры — пачалася старая песня. Прыязджае: «Ай, тыя каменні ўжо белыя, я іх павыкідаў, можа, дасце крэменю?»

Калі ласка. Даў.

Праходзіць яшчэ гадоў пяць — у сына гемарой. Ён аддае са сваіх слоікаў сыну крэмень. Для свайго дзіцяці нічога не пашкадуеш. А тут зіма, снег ідзе. Нідзе не знойдзеш крэменю. Прыязджае і кажа: такая і такая справа.

Ну, калі ласка.

Цяпер ужо нічога не кідае. Не п’е соку бярозавага. Пры расстройствах пажадана піць гэту ваду ў час яды. Як Андрэй пачне піць крамянёвую ваду, то ў яго не будзе праблем: ні запораў, ні расстройстваў. Са стулам будзе ўсё ў парадку. Будзе нармальна хадзіць.

Мой сябра дзяцінства, з нашай вёскі. Чалавеку амаль 80 гадоў. Паламаў нагу ў клубе. Завезлі ў шпіталь. Там яму ніякага гіпсу не рабілі, адправілі дахаты паміраць. Я паехаў да намесніка галоўурача па лячэбнай частцы. Пытаюся:

— Чаму яму нічога не зрабілі?

— У такім узросце, у гэтым месцы, не зрастаецца. І мы не будзем рабіць яму ніякага гіпсу.

Я яму пачаў насіць у шпіталь парашок з меднага дроту. Раіў яму падмешваць медныя апілкі ў любую кашу і спажываць. І парашок лупіння яек таксама змяшай з мёдам ці смятанай і еш чайную лыжачку, разоў два-тры ў дзень. І абавязкова ўсё гэта трэба заядаць кіслым яблыкам, каб разбавіць шкарлупу яек.

Ён гэта рабіў без гіпсу. Яго падымалі там, і садзілі, і на вутку клалі. І вы знаеце? Нага зраслася. Ён можа яе падымаць, і ўправа варочаць, і ўлева, згінаць. Ён і раней ленаваты быў, ляжаў увесь час. А тут восем месяцаў падрад. Паставяць яго на кастылі, а ён падае. Крычыць:

— Трымайце мяне, трымайце, падаю!

Гэта ад таго, што мышцы адмовіліся працаваць. Але іх можна ўзнавіць толькі працай.

У нас тут быў чалавек, ён меў жонку. Добрая такая жанчына. Але нешта ёй сталася, захварэла — не магла яна ўстаць. Ляжала ўвесь час. Ён яе павёз да доктара Дохі, які меў сваю клініку пры Польшчы. Казалі, што вельмі добры доктар быў, вельмі вялікі патрыёт і інтэрнацыяналіст у Жукевічах. Яму не важна было, ці гэта жыд, ці паляк, ці беларус, ці рускі, ці немец, — ён кожнаму дапамагаў. Пры Польшчы яму жыды рабілі вялікую канкурэнцыю. Да яго ўсе ехалі, а ім хацелася, каб да іх ехалі. Выдумлялі на яго ўсякія гадасці, а ён ім нічога. Калі прыйшлі немцы, ён жыда-хірурга ўсю вайну перахоўваў. Гэта ж святы чалавек. Яны яму рабілі ганьбу, а ён ім дабро. Ён ставіў пад удар і сябе, і сваю жонку. Гэта быў вельмі славуты лекар, і, бывала, як чалавек моцна хворы і яго нельга вылечыць — ён казаў блізкім: вы не трацьцеся, яго вылечыць нельга. Яму скажыце: так і так, трэба піць свежае малако, нейкія там зёлкі. Каб ён бачыў, што яго не пакінулі. Але ён ужо не вылечыцца. Другія дактары як? Прыязджайце чым часцей, а кожны раз 5 злотых заплаці. А гэты — не. А яшчэ было такое,

напрыклад, прывязе жонка мужа ці наадварот. Ён бачыць, што адзетыя дрэнна, конік стаіць каля акна. Што ён робіць? Выпісвае рэцэпт і кажа:

— Заедзеце ў Луну, да Трэцяка, дасце яму гэты рэцэпт. Гэты лек будзе каштаваць 5 злотых 70 грошаў. Во вам 5 злотых і 70 грошаў, — і дае рэцэпт.

Жанчына бярэ, бо раз доктар дае, то так трэба.

— А колькі я вам за гэта павінна?

— Нічога не трэба.

Дык я думаю — як ён мог існаваць? Меў свой рэнтген, меў фельчара, меў медсястру — ім трэба было плаціць. Будаваў касцёл, утрымліваў ксяндза. Гэта ж трэба было мець грошы. А тут прыходзіць Болесь Шыдлоўскі з Петрашоўцаў, таксама казаў, што яго вылечыў Доха. Пытаю:

— А колькі вы яму заплацілі?

Адказвае:

— А доктар сказаў, колькі дасце.

Я падумаў: «Звычайна даюць па 5 злотых, а ён жа прафесар», — і даў 10 злотых. Моцна багатыя і больш давалі. І вось за кошт гэтага існаваў яго шпіталь. Вось гэта быў чалавек, я больш не ведаю такіх. У Варшаве вырашылі даць яму званне прафесара. Прыслалі запрашэнне, каб ён прыехаў: «Ва ўрачыстых абставінах мы вам уручым дыплом». Ён адпісаў, што ў яго поўны шпіталь хворых людзей і ён не можа іх пакінуць.

Прыехала камісія з Варшавы сюды, у Жукевічы, і на месцы ўручылі дыплом. «Не трэба, — кажа, — мне прафесара, мне трэба хворых лячыць».

Вось такі быў гэта чалавек — сапраўдны доктар.

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, вядома, што вы шмат кантактавалі з беларускімі пісьменнікамі. Як гэта адбывалася?*

**Алесь Белакоз:** У 1965 годзе як кіраўніка раённай секцыі выкладчыкаў беларускай мовы накіравалі мяне з Ваўкавыска на курсы ў Мінск. Хтосьці з камандзіровачных прапанаваў:

— Давайце сустрэнемся з пісьменнікам.

Кажу:

— Зараз. Во паеду ў Саюз пісьменнікаў.

А мы ўжо перапісваліся з пісьменнікамі. Я іх не баюся…

Тут адразу да мяне падключылі старасту курса, дзяўчыну. Сядаем у аўтобус — тая дзяўчына наперадзе, я за ёю. Тут аўтобус падыходзіць, яна — шмыг у першыя дзверы, пабегла і там села, а я ўжо там не магу зайсці, бо ўсе зайшлі, і я тут ззаду зайшоў. Гляджу за ёю: праехалі два прыпынкі — яна выйшла спераду. На наступным прыпынку выйшаў я, узяў таксі — і ў Саюз пісьменнікаў.

Прыехаў у Саюз пісьменнікаў да Броўкі. Броўка нешта шэпча Лынькову: той сядзіць у крэсле, а Броўка стаіць у паліто. Кажа:

— Вы па якім пытанні?

— Сабралі нас тут з кожнага раёна — кіраўнікоў раённых секцый, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Калі б мы сустрэліся з пісьменнікамі, то расказалі б на секцыях — і ўсе выкладчыкі беларускай мовы Беларусі ведалі б пра гэта.

— Добра.

Толькі вось Броўка, як член ЦК ВКП(б), павінен быць на святочным пасяджэнні ў гонар Дня Перамогі (у 1965 годзе Дзень Перамогі ўпершыню адзначалі як свята). Броўка кажа:

— Ідзём да Шамякіна, вы з ім дамовіцеся, а я паеду.

Мы з Шамякіным дамовіліся, на які дзень і калі. Прыязджае староста, у яе пытаюцца:

— Вы па якім пытанні?

— А я па арганізацыі сустрэчы з пісьменнікамі.

— Мы ўжо дамовіліся. Усё, вы можаце быць свабодная.

Мы пайшлі разам, цікаўлюся:

— Чаму ты ўцякла?

— Я не знала, где выходить.

— Не ведала, то пытайся. Людзі ж едуць — запытайся, як да вуліцы Энгельса даехаць, там яшчэ прыпынкаў дзесяць было.

Я прыходжу, а тут бурліць увесь Інстытут перападрыхтоўкі настаўнікаў. І сярод гэтых нашых курсантаў дырэктар інстытута. Усе да мяне:

— Як?

— Дамовіліся. У чацвер, у сямнаццаць нуль-нуль у зале пісьменнікаў сустракаемся з усімі пісьменнікамі.

А дырэктар інстытута кажа:

— Встречи не будет. Встреча не запланирована — мы по плану должны работать.

Кажу:

— Дык вы запішыце ў план.

— План утверждён ЦК.

— Давайце план, я схаджу ў ЦК. Раскажу, якая справа, і там яны запішуць сваёй рукой.

— Не надо. Встречи не будет…

І на гэты час нам далі лекцыю. Але завуч, відаць, была на нашым баку — яна нам дала лекцыю ў Мастацкім музеі. А мастацкі музей побач з Саюзам пісьменнікаў. Я заехаў, прайшоў ад Мастацкага музея да Саюза пісьменнікаў, на вуліцу Энгельса. Засёк час — тры з паловай хвіліны ходу. Прашу ў выкладчыцы, што чытала нам лекцыю:

— Ці вы можаце нам не рабіць перапынку паміж дзвюма гадзінамі?

— Добра.

Лекцыя і так павінна была скончыцца без пяці мінут пяць, а так — без пятнаццаці. Я кажу ўсім нашым:

— Хлопцы, дзяўчаты, як толькі будзе без васьмі пяць, вы паціху ўставайце і выходзьце на дыбачках, і ніхто ніводнага слова. Так нам нічога не змогуць прышыць.

Выкладчыца лекцыю не заканчвае. Я ёй паказваю, што ўжо без васьмі мінут. Недзе, можа, без шасці якіх я ўстаў і пайшоў. І за мною ўсе сто чалавек…

Мы заходзім, а Панчанка кажа:

— Мы думалі, што ўжо не будзе сустрэчы. Ну, такой арганізацыі мы яшчэ не бачылі. Застаецца дзве хвіліны да пачатку — усе сто чалавек на месцы!

Прайшла сустрэча выключна! Калі ўсе выступілі, я кажу:

— Дазвольце мне выступіць.

Шамякін бачыць (бо перада мной два хлопцы нашыя добра выступілі), што тут антысавецкую прапаганду вядуць, пратэстуе:

— Не дамо слова.

Пісьменнікі на дыбы:

— Мы сабраліся, каб настаўнікаў паслухаць, а ты не даеш. Ідзіце выступайце.

Я выходжу, кажу:

— У нас такія патрабаванні. Першае: 80 % школ у Беларусі павінны быць беларускімі, бо 80% — беларусаў. Другое: вышэйшыя навучальныя ўстановы — усе беларускія. Трэцяе: ва ўсіх дзяржаўных установах — толькі беларуская мова.

Шамякін:

— Хватит! Хватит! Гасите свет, давайте кино про Купалу.

І святло патушылі, і ўжо ідзе фільм. Сеў і я…

Усё скончылася, я панёс кніжку Панчанку падпісваць. Стаіць каля мяне чалавек у шэранькім касцюме адпрасаваным — інтэлігент такі. Ну, хто ж яго ведае — стукачы і пад інтэлігентамі хаваліся.

— Я хацеў бы з вамі пагутарыць.

— Ну, ідзём.

Думаю: «Можа, гэбіст які?»

— Тут парк блізка.

Зайшлі мы, селі на лавачку. Ён кажа:

— Вельмі разумна вы выступілі. Вы заўтра падыдзіце да мяне. Я кандыдат філалагічных навук Мікола Прашковіч. Вы падыдзіце, я жыву з сябрам, але сябра я адпраўлю на гэты час. Мы будзем адны — пагутарым.

— Добра, прыйду.

Заехаў у інтэрнат, а там сядзяць Арсень Ліс (пісьменнік) і Мікола Прашковіч (навуковец, кандыдат філалагічных навук; пазней спаліў сябе з-за адчайнага становішча, створанага яму КДБ). І вось мы ўтрох. Арсень Ліс пытаецца:

— Скажыце, калі ласка, як вы працуеце, якая ў вас нагрузка?

— Нагрузка ў мяне невялікая, бо я быў завучам. Але падаў ужо трэцюю заяву, каб мяне вызвалілі.

Ён гаворыць:

— Не трэба. Наша беларуская бяда ў тым, што мы не хочам кіраваць, і таму намі кіруюць хто хоча, толькі не беларусы. Вы абавязкова заставайцеся завучам, бо завуч можа зрабіць больш для Беларусі, чым звычайны настаўнік.

І гэта мне вельмі спадабалася і спатрэбілася. Я гэта расказаў брату стрыечнаму, які вельмі ўдзячны мне за тое, што адкрыў яму вочы. Кажа: «Я ж мог быць сталіністам, але ты мне раскрыў вочы». І нядаўна яго сын-лекар кажа бацьку, што вось

чапляюцца, каб стаў загадчыкам аддзялення ў шпіталі, а ён адмаўляецца. Бацька кажа:

— Як гэта не хочаш? Не станеш ты — паставяць паляка, ці жыда, ці яшчэ каго. Мусіш. Я загадваю табе!

І сын згадзіўся ўзначаліць аддзяленне.

Мне здаецца, што моладзі трэба таксама тлумачыць усё гэта. Гэта вельмі важна!

Тады яшчэ Арсень Ліс мяне папрасіў, каб я арганізаваў настаўнікаў, каб мы пісалі групавыя заявы ў ЦК наконт таго, што мала беларускай мовы, што мала беларускіх школ, што няма ва ўстановах беларускай мовы.

Я там пагаварыў з хлопцамі, хлопцы абяцалі, што будуць такую работу праводзіць. Але думаю, што нічога ў іх не атрымалася, як і ў мяне.

Паехаў я да сваіх сяброў у Вярэйкі. Там адзін — завуч агульнаадукацыйнай сярэдняй школы Пашкевіч, другі — Сяргей Мезінец — завуч школы-інтэрната. Яны кажуць:

— Напішам мы — нас вызваляць з працы. Прышлюць такіх, якія нічога не будуць рабіць. Мы ж хоць дзецям кажам, што такое Беларусь, што такое патрыятызм. А так… Нядобрая гэта думка: мы толькі сябе выявім.

Я пасварыўся з імі, ноччу паехаў дахаты на ровары. Ноч — хоць вока выкалі. Згубіў дарогу, на нейкі хутар заблукаў. Пусцілі — пераначаваў. Назаўтра рана дахаты. Паехаў у Эйсманты — тое самае.

Напісаў я. Але пра гэта пазней раскажу.

Паколькі сустрэча з беларускімі пісьменнікамі вельмі спадабалася ўсім настаўнікам, то яны просяць, каб гэта прадоўжыць, яшчэ не былі на сустрэчы Крапіва, Танк, Бачыла, Скрыган — можа, запрасіць іх.

Добра. У сваім пакоі кажу:

— Хлопцы, можа, сходзім да Крапівы?

А ў пакоі было дзевятнаццаць чалавек, хтосьці з іх кажа:

— Ну, табе не тое што ў Беларусі — у Савецкім Саюзе месца не будзе, як ты сходзіш да Крапівы.

«Ага, — думаю, — так нічога не атрымаецца». Заходжу ў іншы пакой, а там пяць чалавек усяго: невялікі пакой. Кажу:

— Хлопцы, хто хоча схадзіць у госці да майго земляка?

— А хто твой зямляк?

— Крапіва.

— А скуль ты?

— З вёскі Нізок Уздзенскага раёна.

Адліванаў — інвалід вайны, без рукі — і Дуброўскі падтрымалі мяне:

— Пойдзем.

У тэлефоннай кнізе я вычытаў адрас. Зайшлі, сустрэла вельмі ветлівая жанчына, кажа:

— Вы прабачце, жывём тут мы (жонка намесніка міністра сельскай гаспадаркі БССР), а Крапіва атрымаў новую кватэру. Вось яго адрас.

Зайшлі мы па гэтым адрасе, пазванілі. Адкрыў чалавек, кажа, што ён сын Крапівы, а бацькі — вось у гэтыя дзверы кватэра. Пазванілі мы, выйшла пажылая кабета і не пускае нас, стаіць на парозе (а Крапіва якраз глядзеў ушанаванне Шолахава, бо яму было цікава, таму што хутка павінен быць ягоны юбілей). Ён кажа:

— Што ты трымаеш людзей? Заходзьце, хлопцы. Ну, што вы скажаце?

Мы кажам, што мы — кіраўнікі раённых секцыяў беларускай мовы.

— Ну, дык гэта добра, што настаўнікі, выкладчыкі літаратуры зайшлі да пісьменніка. Пойдзем да мяне ў кабінет.

Зайшлі ў вельмі цікавы кабінет: доўгі пакой — метраў, можа, пяць даўжынёй, метраў тры шырынёй. Стаіць вялізны дубовы стол і дубовыя крэслы такія, што не на маю сілу падняць. А Крапіве, можа, яны былі якраз па сіле — чалавек рослы. І чамусьці нажная швейная машына. І шафа кніжная. Усё, больш нічога ў кабінеце. Ён ставіць на стол бутэльку каньяку, гаспадыня прынесла закуску. Там былі, вядома, і далікатэсы, але было і парэзанае беларускае сала, што нам вельмі спадабалася…

У нас былі пытанні. Пыталіся, ці гэта яго байка «У балеце». Ён сказаў, што яго. Мы тэкст запісалі, яна вельмі добра гучыць на розных вечарынах. Сталі крышку гаварыць пра загон беларускай мовы… Бачым, што яму гэта не падабаецца — такая размова, бо ж ніхто не верыў, усе баяліся. Тым больш, на пост генеральнага сакратара ЦК КПСС прыйшоў Брэжнеў — і што

будзе? (Дарэчы, пры Хрушчове арыштоўвалі за палітыку, пры Брэжневе я не чуў.) І запрасілі мы Крапіву на сустрэчу да сябе ў інтэрнат. Ён даў згоду. А хлопцы пры Крапіве кажуць:

— Вы ведаеце, мы баяліся. Крапіва — такі грозны. А тут, каб не ваш зямляк — мы не прыйшлі б.

Ён пытае:

— А скуль вы?

— З Гродзенскай вобласці. Сказаў ім, што з вёскі Нізок, бо ведаў, што яны будуць баяцца.

Тут пасмяяліся ўсе. Абышлося — ён даў згоду прыйсці да нас. Гэтыя хлопцы выйшлі, кажуць:

— Саша, цяпер мы з табой у агонь і ваду.

Хлопцы рашучыя, таксама такіх поглядаў, як і я. Назаўтра прапануюць:

— Белакоз, давай сходзім да Танка.

— Схадзіць да Танка то мы можам, але сходзім да яго ў рэдакцыю. Бо можа пайсці чутка па Мінску, што сабралася група п'янчужкаў, якія ходзяць да пісьменнікаў і сабе выпіваюць там. А ў кабінеце ён не будзе фундаваць.

А Танк быў рэдактарам часопіса «Полымя». Падыходзім да кабінета: напісана «Галоўны рэдактар», а там шум. Няёмка заходзіць, калі там многа народу, дык я ў суседні пакой — да намесніка рэдактара. Гляджу ў шчылінку, ці хто ёсць. Адчыняюцца дзверы, мне па лобе дзвярамі — і Танк (высокі быў, я яму па грудзі). Я збянтэжыўся, тым больш, што заглядаў у шчыліну.

— Што вы, хлопцы, хочаце сказаць? — спытаў Танк.

— Малы тыраж «Полымя», — тады тыраж быў чатыры з паловай тысячы. — Мы хочам, каб тыраж быў большы.

— Ну, так гэта ж выдатна! Мы тут якраз пра гэта вядзём гаворку. Вось заходзьце да мяне ў кабінет, там ужо сабраліся хлопцы — і пагутарым.

Зайшлі мы ўсе разам. Кажу:

— Вы нядобра робіце, што даяце літаратурныя навінкі звычайна пасля таго, як праходзіцца нейкая тэма. А вы павінны ведаць праграму і ведаць, калі мы праходзім, скажам, Багдановіча. І ўсё новае пра Багдановіча — на месяц раней, чым мы будзем праходзіць. А то мы прайшлі — і ўжо да наступнага года забываецца...

Я-то не забываў, бо планы пісаў манументальныя — я ўсё, дзе што з’яўлялася, на аловачак браў. А другія ж не выкарыстоўвалі.

І вось, калі гэта заўважаць кіраўнікі секцый і скажуць настаўнікам, што можна ўрокі зрабіць цікавымі, папоўніць іх навінкамі, — дык тады ж нарасхват будзе «Полымя». Калі нават на дзесяць адзін настаўнік выпіша, дык гэта на тысячу тыраж павялічыцца, а можа і больш.

Яны, дарэчы, потым грамату мне даслалі, што вельмі павялічыўся тыраж. І сапраўды, ён дайшоў амаль да шасці тысяч дзякуючы нашай прапанове. І мы запрасілі Танка на сустрэчу. Кажам, што так і так, прыйдзе Крапіва. А Крапіва — салідны чалавек, дык, значыць, тут робіцца ўсё на ўзроўні. Ніхто з іх і не разумеў, што мы падпольна іх запрашаем…

Прыйшлі мы ў інтэрнат, расказалі. Дайшло да начальства… Назаўтра з другой лекцыі нас трох выклікаюць у Міністэрства асветы і чытаюць такую нам натацыю:

— Што хадзілі да Крапівы — гэта правільна. Але вы тут займаецеся палітыкай, робіце свае планы, мяняеце планы ЦК…

А вёў размову нейкі Якімовіч, загадчык аддзела кадраў (так ён нам прадставіўся). Адразу ў нас узяў звесткі: дзе мы працуем, колькі гадоў, якая адукацыя — каб запалохаць, што ён можа нас выгнаць, і таму падобнае. А потым ужо давай нам чытаць мараль:

— І трэба, каб вы патэлефанавалі Крапіве, — пра Танка ён ведаў, — і каб адклікалі гэта спатканне, каб ён не прыходзіў.

Мы ўзяліся за яго так даволі шчыра. Не ведаю, як гэта здарылася, што загналі яго ў кут, у поўным сэнсе слова. Ён стаіць у кутку, а мы ўтрох нападаем. І ў гэты час тэлефонны гудок, і яго выклікае міністр. Можа, міністр паспачуваў, што мы так доўга — мы тры з паловай гадзіны вялі спрэчку.

— Так, хлопцы, выклікае міністр, вы пачакайце, я прыйду.

Схадзіў да міністра, тады адчыніў дзверы:

— Дык так! Сустрэчы быць не павінна! — зачыніў дзверы і ўцёк. Не заходзіў у кабінет. Мы пайшлі.

Назаўтра сустрэча. Што робіцца: па інтэрнаце ходзяць галоўны бухгалтар з чырвонай павязкай і загадчык гаспадаркі, які дэманстратыўна апрануў халат, abляпаны фарбай і крэйдай,

шапку абляпаную і чырвоную павязку. Актавую залу на замок замкнулі — і ўсё. І сустрэчы ніякай не будзе…

Кажам:

— Добра, хай не будзе сустрэчы, але да тэлевізара павінны пусціць. Выступаюць нашы футбалісты, і мы хочам паглядзець. Тэлевізар для нас пастаўлены, а не для вас. І як вы не будзеце адчыняць — мы паб'ём дзверы (дзверы шкляныя), і адказваць будзеце вы.

Яны спужаліся.

А яшчэ цікава, што загадчыку аддзела кадраў міністэрства, гэтаму Якімовічу, мы кажам так:

— Скажыце, як вы думаеце, ці лепш урок пройдзе ў мяне да сустрэчы з Крапівой, ці пасля сустрэчы? Урок — біяграфія Кандрата Крапівы?

— Пасля сустрэчы.

— То што ж вы забараняеце?

Ну, вось і адамкнулі дзверы, мы зайшлі і ўжо не выходзілі адтуль (з тым, што адчынілі, можа, гадзін у чатыры, а сустрэча мелася быць у пяць — мы ўжо чакалі). Прыйшлі пісьменнікі. Праўда, як выйшлі мы сустракаць (Крапіва пад'ехаў на машыне), калі выйшлі мы — толькі курсанты — ён вельмі здзівіўся, што ніхто з начальства яго не сустракае. Тут падышоў Максім Танк, бо там рэдакцыя была блізка ад нашага інтэрната. Прыйшлі Бачыла, Скрыган, потым прыбег Пестрак, хоць мы яго не запрашалі. Адбылася такая сустрэча — жанчыны плакалі… Такі патрыятычны атрымаўся вечар, асабліва добра выступалі нашы. Пісьменнікі пабойваліся, толькі Бачыла пару слоў сказаў…

Правялі мы пісьменнікаў. Усё. А бухгалтар, які быў дзяжурным, кажа:

— Хлопчыкі, за што яны вас так? Нам сказалі, што вы бандыты, што вы тут будзеце ўсё біць і ламаць. Мы ж такога ніколі не бачылі. Мы толькі бачылі ваніты, бутэлькі разбітыя пустыя і п'яных, якія валяюцца. А вы такую справу зрабілі. Каб я быў маладзейшы — паступаў бы ў інстытут толькі на літаратурнае аддзяленне. Толькі выкладчыкам літаратуры. Вы святыя людзі. У нас яшчэ не было такога ў інстытуце.

Але нарабілася многа шуму: назаўтра прыехаў міністр асветы, загадчык аддзела ЦК КПБ па адукацыі, іх намеснікі — усяго разам чалавек шаснаццаць. І вось міністр асветы пачаў выступаць, а тут гром як ляснуў… Кажам:

— Бачыце, Бог і то на нашым баку! А вы? За што вы нас лаеце?

Адным словам, выступалі нашы, я папрасіў слова. Не далі… Як толькі я папрасіў слова, загадчык аддзела ЦК адразу кажа:

— Так, товарищи, всё это затянулось, идите в бухгалтерию — получайте проездные. Всё, встреча окончена.

Яшчэ пяць дзён да канца курсаў, а нас адпусцілі…

Я лічыў, што мяне адразу там і забяруць. Не забралі…

Прыехаў дахаты — не забіраюць. Так і засталося…

Пасля 1965 года вырашыў — трэба інакш змагацца. Як?

Да гэтага я яшчэ і верыў, і не верыў, але адчувалася: Міністэрства асветы робіць такую подласць з беларускай мовай, што трэба па тры параграфы за адзін урок браць, каб вучыць дзяцей. А раз тры параграфы, то гэта цяжка, трэба выбіваць гэтыя веды з дзяцей, прымушаць. Беларускую мову ведалі нашы дзеці. І паступала ад нас больш, чым з гарадскіх школ, у інстытуты. Але ж гэта цяжка давалася. Дык вось я разумеў, што гэта робіць Міністэрства асветы, але не думаў, што так нахабна. Тады, у Мінску, я ўжо разумеў, што Міністэрства асветы, ЦК — супраць беларускай мовы.

А тут завуч школы (сама з Саратаўскай вобласці) Юлія Іванаўна Асмалавец прапануе на прафсаюзным сходзе (а я — старшыня прафсаюзнага камітэта), каб закупіць для школы рускія падручнікі, бо ў школе двухмоўе: выкладчык тлумачыць матэрыял па-руску, вучні адказваюць па-беларуску. У нас нават такое было… Настаўнік ці завуч кажа «здраствуйте», а вучні адказваюць «добры дзень». Ніхто «здраствуйте» не гаварыў — прынцыпова.

Яна кажа:

— Если и учитель будет по-русски, и учебник русский — никуда не денутся, будут отвечать по-русски.

Я пярэчу:

— Прабачце, калі ласка. Ну, а каб настаўнік быў турак, няўжо ж мы з Анкары выпісвалі б турэцкія падручнікі па гісторыі?

— Что вы сравниваете!

— Як што: як рускаму хочацца па-руску гаварыць, то турку па-турэцку лепш. А гэты настаўнік скончыў сярэднюю школу ў Беларусі, тут скончыў інстытут, пятнаццаць гадоў працуе настаўнікам — то ён не ведае беларускай мовы па той прычыне — што не хоча яе ведаць. Ну, а калі не хоча ведаць, то ў Луне, у Мастах рускія школы — хай ідзе і выкладае па-руску. Што ж дзяцей калечыць. Можа, ён не можа вывучыць у сілу сваіх абмежаваных здольнасцяў, то і настаўнікам няма як працаваць, калі ён такі абмежаваны. Чым дзеці вінаватыя?

Устае яшчэ адзін настаўнік (Шабаль прозвішча, таксама з Саратаўскай вобласці, зямляк яе. Яны, напэўна, ужо і згаварыліся, што трэба нешта рабіць з гэтым) і кажа (ён быў на курсах у Мінску, ведаеце, як там ставяцца да беларускай мовы):

— Товарищи, а чего мы здесь копья ломаем? Надо написать в Министерство образования, спросить у них, можно ли закупать русские учебники для белорусской школы. И нам разрешат закупить такие учебники.

Я кажу:

— Прабачце, калі ласка. Міністэрства заглядае ў рот Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Беларусі. Давайце напішам у Цэнтральны Камітэт, — а мне цікава было, што адкажуць.

— Хорошо. Я предлагаю, чтобы написал... Белокоз Алесь Микалаевич.

— Ну, я разумею, што хто піша — таго і б'юць...

— Ставлю на голосование: кто за то, чтобы Белокоз писал в ЦК такой вопрос?

Атрымалася, што мне трэба пісаць...

Прыйшлі мы дахаты, жонка кажа:

— Ведаеш што, гэта будзе зноў вялікая бяда...

Я згодзен з гэтым, што будзе бяда. Тыдні два мучыўся, месца сабе не знаходзіў, а потым напісаў (не казаў жонцы, каб не хвалявац яе). Напісаў у ЦК КПБ, што яны, саратаўцы, хочуць тут увесці рускую мову. Ім, саратаўцам, лягчэй па-руску размаўляць, чым па-беларуску, і да таго падобнае. Напісаў — і ціха.

Тым часам выклікаюць мяне ў Гродна на нейкую нараду на тры дні ў камандзіроўку. Я ў камандзіроўцы. У Гудзевічы прыязджае загадчык аддзела нагляднасці і методыкі Міністэрства асветы БССР і патрабуе сабраць такіх і такіх людзей. Дырэктар выклікае завуча, Шабаля. Як там з імі яны гаварылі — невядома, толькі тыя далі паказанні, што такога сходу… не было, такое пытанне… ніколі не ставілася на прафсаюзным сходзе. І ўсё гэта… прыдумаў Алесь Мікалаевіч.

Збіраюць настаўнікаў, і гэты прадстаўнік Міністэрства кажа:

— Вот тут Белокоз написал в ЦК КПБ такое и такое. Оказывается, не было такого профсоюзного собрания…

А фізік пісаў пратаколы сходаў. Я яго папярэдзіў, каб ён запісваў, бо гэта вельмі важна. Папрасіў яго аддаць мне пратакол. Ён казаў:

— Тут на чарнавіку, у мяне амаль нічога не напісана, я перапішу, тады аддам вам.

Назаўтра:

— Прынеслі?

— Не, не прынёс.

Напаслязаўтра:

— Прынеслі?

— Не, не прынёс.

Так, можа, тыдняў тры кожны дзень я пытаўся. Нарэшце пачаў абурацца:

— Да якога часу вы будзеце дурачыць мяне?

— А я потерял эту писульку…

І вось сакратар сходу кажа, што не было такога пытання і што няма нідзе ў пратаколах такога пытання:

— И поскольку такого вопроса не было, не подымалось, то и разбирать нечего…

Вера Ігнатаўна (мая жонка, яна працавала выкладчыцай пачатковых класаў) кажа:

— Як вам не сорамна, людзі?

Пытае ў дырэктара:

— Іосіф Ігнатавіч (а гэта ўжо быў добры чалавек — і разумны, і справядлівы), ну няўжо вы не памятаеце?

— Вера Ігнатаўна, мне сорамна, але я… забыўся.

— Юлія Іванаўна, вы ж прапаноўвалі, каб купіць падручнікі, спрэчка была…

— Что вы, Вера Игнатовна! Кем вы меня считаете? Как я могла в белорусской школе предложить русские учебники?

Жонка — да выкладчыка гісторыі:

— Вы ж прапаноўвалі, каб пісаў Белакоз.

— Такого вопроса не было, вопрос не подымался. Как я мог предлагать?

Вера Ігнатаўна кажа прадстаўніку Міністэрства:

— Чаго ж вы прыехалі, як няма Алеся Мікалаевіча? Вы б прыехалі, як ён ёсць, а то тут падгаварылі ўсіх, падкупілі, прыстрашылі — людзі гавораць хлусню.

Ён кажа:

— Хорошо, я приеду, когда будет Алесь Николаевич.

Прайшло тыдняў два, выклікае мяне прыбіральшчыца з урока:

— Алесь Мікалаевіч, тут нейкія прыехалі… Вас запрашаюць у кабінет дырэктара.

Заходжу:

— Добры дзень.

— Добрый день. Я приехал из Министерства просвещения. Инспектор по наглядности и методике. Я уже приезжал по такому вопросу. Я приехал проверить вашу работу. И поверьте мне, найду очень много плохого.

Кажу ў адказ:

— Я ўпэўнены ў гэтым.

— А как можно найти плохое, если вы работаете хорошо, как утверждает директор школы?

— Не важна, як я працую, важна — чаго вы прыехалі. Важна, які ў вас там загад ляжыць у партфелі, ён ужо напісаны.

Ён папрасіў дырэктара школы і прадстаўніка аблана выйсці з кабінета. Яны выйшлі.

Ён кажа:

— Сынок, я не приехал вас проверять, я приехал вам помочь… Скажите, пожалуйста, вы будете писать в Москву, в ЦК КПСС?

— Каб ЦК КПСС вам загадала падымаць беларускую мову, то сёння гэтая хеўра тут перад вамі стаяла б, і вы іх бы пужалі, што вы да іх пойдзеце на ўрок, а не да мяне.

— Совершенно правильно. Логично. Я не приехал бы никогда, если б вы не написали такое письмо. И особенно министерство и ЦК возмущены, что вы написали им «саратовцы»... Это же оскорбление.

— Як мяне называюць гродзенцам, то я ганаруся гэтым. А што, Саратаўская вобласць чым-небудзь скампраметавала сябе ў свеце? Ці як вы гэта разумееце?

— Ну, нет... Вы знаете, тут раздел уже по областям, по национальностям... Вы не пишите в Москву, потому что и так у вас будет очень много неприятностей...

Ён паехаў. Праз некалькі дзён прыязджае грузавая крытая машына, поўная інспектараў райана, работнікаў райкама партыі і райкама камсамола, Дома піянераў, дырэктараў школ... і легкавая машына. Тры дні яны сядзелі. Ходзяць да кожнага настаўніка па тры чалавекі і кажуць:

— Если бы не Белокоз, мы бы вас проверяли совсем иначе, а так мы будем плохое проверять. Мы хорошего не заметим.

Настаўнікі паглядаюць на мяне, як на ворага. Прыбягае выкладчыца нямецкай мовы Барцэвіч Ванда Іванаўна:

— Я где ни работала, никогда не писала рабочих планов. Здесь рабочие планы пишу, стараюсь — всё равно всё плохо. Это из-за вас, это вы!

Кажу:

— Ой, каб я ведаў, што вы з-за гэтага сталі пісаць рабочыя планы, дык я б ужо гадоў пару, як напісаў бы ў ЦК. Але ж і добра, што я напісаў. Гэта ж колькі выігрываюць нашы вучні...

Вядома, жартую, а на душы дрэнна. Нарэшце, успамінаю, што заўтра ў мяне выхадны, яны прыедуць падводзіць вынікі, як мяне не будзе. А цесць настойваў, каб калоць парсюка на яго падворку. Трэба ж слухаць цесця.

Я кажу жонцы:

— Верачка, як толькі яны прыедуць і будзе там якісьці сход, ты прышлі вучня, каб я ведаў.

Толькі закалолі парсюка, селі за стол, прыбягае вучань:

— Алесь Мікалаевіч, Вера Ігнатаўна прасіла, каб вы прыехалі ў школу.

Я адразу пераапрануўся. Прыязджаю — ужо ў дзясятым класе загадчык райана. Дзясяты клас сядзіць, і ён там «хрысціць» Белакоза. Як я зайшоў, ён на паўслове змоўк:

— Можаце быць свабодны, — сказаў дзесяцікласнікам.

Усе вучні пайшлі. Засталіся члены савета райана, Н. І. Рында, я і нашыя настаўнікі. Рында кажа:

— Из пальца высосал Белокоз, что ему поручили писать то, чего совсем не было. Мы проверили. И оказывается, школа работает очень плохо. Все работают плохо. Мы за три дня ни у одного учителя не увидели наглядности. Будем разбирать. Сейчас выступит инспектор районо Михаил Волкович.

А гэты Ваўковіч вучыўся, можа, гадоў 10 у інстытуце, потым яго выгналі — не даў рады скончыць. Вучыўся і са мной. У яго тэма курсавой работы «Политехническое» образование», а ён піша вместо «Политехническое образование» «политическое». Ды рэцэнзент яму паставіў адзінку… Вось ён пабыў на ўроку ў мяне, паглядзеў сшыткі і недзе знайшоў, што вучань не паставіў рысачку над «ў», а я не паправіў.

Яшчэ кажа:

— У цябе вельмі малыя чырвоныя радкі — трэба шэсць сантыметраў.

Кажу:

— Не трэба шэсць сантыметраў, але ты начальнік — табе відней.

— Ты знаеш, ты мне падкажы, мне сказалі, каб я цябе спляжыў. А я не магу нічога дрэннага тут знайсці…

— Скажы пра гэта «ў», пра гэты чырвоны радок, што не пакідаюць вучні. А што ж ты больш скажаш, як няма, дык няма таго дрэннага. То дзе я табе яго вазьму?

Ён выступае і кажа пра гэты чырвоны радок, пра гэтае «ў». А мне загадчык райана Н. Рында кажа:

— Пяць мінут ваша выступленне.

Кажу:

— Няпраўда. І падсуднаму на судзе даюць выступаць, пакуль ён усяго не скажа. А я што — арыштаваны? Я буду гаварыць, пакуль усё не скажу. І вы мне не маеце права рот затыкаць.

Кажу да дырэктара:

— Па-першае, скажыце, Іосіф Ігнатавіч, быў такі сход, дзе прапаноўвалася закупіць падручнікі па рускай мове?

Іосіф Ігнатавіч кажа:

— Алесь Мікалаевіч, мне вельмі сорамна, але я… не памятаю.

— Юлія Іванаўна вы прапаноўвалі закупляць рускія падручнікі?

— Нет, я такога не могла предлагать!

— Аляксандр Кузьміч, вы прапаноўвалі, каб я менавіта напісаў у ЦК?

— Что вы, Алесь Николаевич, разве я мог такое? Разве я не понимаю, чем это заканчивается?

Я падняў усіх настаўнікаў — ніхто не памятаў — усе забыліся… Вядома ж, і сакратара сходу падняў.

— Я ж вам цэлы месяц кожны дзень нагадваў, каб далі мне пратакол. Вы ж не напісалі яго, выкінулі.

— Не, не было ніякага сходу такога, — сцвердзіў сакратар.

— А цяпер давайце пагутарым пра мае недахопы ў працы. Ці ёсць сярод дырэктараў ці работнікаў райана людзі, якія выкладаюць беларускую мову?

Дырэктар першай і трэцяй школ кажуць, што яны выкладаюць рускую мову і сшыткі правяраюць, а сярод дырэктараў выкладчыкаў беларускай мовы няма.

— Ці прапускаеце вы памылкі? — пытаюся.

— Конечно, а кто же их не пропускает?

Кажу:

— Вучань семдзесят тры разы паставіў «ў» пасля галоснай, адзін раз не паставіў. Яўна — забыўся. І я гэта не заўважыў. Бывае — не заўважаю. А наконт чырвонага радка: разгарніце любую кнігу і гляньце — там чырвоны радок пачынаецца пад чацвёртай літарай. І калі гэты шрыфт маленькі, то будзе паўсантыметра.

Адным словам, нічога яны не даказалі. Тое, што мне не даручалі пісаць — гэта ясна. Няхай будзе, што я «выдумаў». А па працы не могуць прычапіцца. Я ў працы вельмі стараўся. І стараўся не таму, што мяне маглі злавіць. А таму, што матэматык па здольнасцях. А выкладаў беларускую мову. І мне каштавала вялікіх высілкаў, каб неяк быць на ўзроўні. І супакойваўся толькі тады, калі бачыў, што ў іншых школах горш ведаюць беларускую мову, чым у нашай…

На гэтым, вядома, не скончылася. Пасля гэтага выклікалі дырэктара школы і мяне ў Масты. Там ужо і работнікі райкама

і ўсе ізноў нападалі на мяне, што я «прыдумаў, высмактаў з пальца, напісаў». Ездзілі страшна многа. Потым быў савет райана таксама па маёй працы. Мяне не запрасілі. Я ў дырэктара школы прашу:

— Дазвольце я паеду.

— Нельга — у вас урокі.

Праўда, я Вользе Іпатавай пра гэта напісаў (яна ўжо была пісьменніцай і сакратаром Гродзенскага райкама камсамола — яна старалася мне памагаць). Яна не паленавалася прыехаць у Масты і там ім усыпала… І ўжо больш яны не праводзілі без мяне саветаў райана.

І вось трэці савет райана, чацвёрты савет райана. Памятаю, былая выпускніца Лёдзя Палавеня. Скончыла БДУ, прыехала і вяла ў адным класе беларускую мову. І вось тая інспектар прыехала да мяне на адзін урок, на другі, на трэці, на чацвёрты, на пяты.

Назаўтра — ізноў. Так гэтая дзяўчына не вытрымала і кажа:

— Вы прабачце, у вас напісана, што вы прыехалі праверыць выкладанне беларускай мовы ў Гудзевіцкай школе. То вы напішыце, што прыехалі праверыць працу Белакоза. Я першы год працую, мне патрэбна дапамога, вы ні разу не прыйшлі, не запыталіся, што мне незразумела. Як гэта так можна? Ідзём да мяне на ўрок.

А інспектар ужо аб’явіла, што пойдзе да Белакоза.

Званок. Леакадзія Міхайлаўна Палавеня кажа:

— Не, да мяне пойдзеце.

Пайшла яна да гэтай дзяўчынкі на ўрок. Вядома, ужо пасля ёй усыпала там, дык усыпала.

Мяне яшчэ што ратавала — што я спецыяльна выпісваў зборнік загадаў, бо там звычайна ў жніўні даваўся арфаграфічны рэжым: за што якая адзнака ставіцца — за дыктоўкі, сачыненні і за вусны адказ. І я ўсё ведаў на памяць. І вось, прыязджае інспектар, падабралі такі тэкст, што не напішуць вучні. Але дзякуй, пайшла яна ў «А» клас. «А» клас — гэта тыя вучні, што я вучыў з чацвёртага класа, добрыя вучні. Я дыктоўку гэтую прадыктаваў. Так, як трэба, дыктаваў, без падказак. Яна адразу забрала работы, праверыла. Не паставіла адзнак,

але запісала сабе, колькі ў каго памылак, якія памылкі. А я не ведаў, што яна правярала. Я паставіў з дваццаці двух чатыры двойкі. Тэкст цяжкі — і гэта добры вынік.

**Міхась Амяльшка:** *Раскажыце, як кіраўніцтва Гудзевіцкай школы спрабавала ўкрасці вучнёўскія грошы, заробленыя дзецьмі на ўборцы ў калгасе агародніны.*

**Алесь Белакоз:** Вось савет райана ізноў па Белакозу. І здарылася так, што палюбоўніца дырэктара (яна замужняя жанчына, але верціхвостка такая была!) едзе на сесію (яна завочна вучылася) і просіць мяне:

— Алесь Мікалаевіч, вы з'ездзіце з маімі вучнямі ў Брэст на экскурсію. Вам дырэктар загад выпіша. Усё будзе, я дамовілася. Грошы на экскурсію я не атрымала яшчэ, але Марыя Міхайлаўна атрымае і вам аддасць. А ўрэшце вы можаце ўзяць грошы — 198 рублёў, што мы зарабілі: бульбу збіралі за бараною, збіралі яблыкі і грушы дзікія (таксама нешта каля 200 рублёў), за буракі, што палолі... Клас заняў першае месца — вядома, 100 рублёў прэміі. Так што грошай многа, вы ўсё гэта можаце атрымаць і расходаваць на экскурсію.

— Добра.

Яна паехала, а я бяру старшыню савета атрада і старасту класа. Пайшлі да дырэктара, кажам:

— Нам, каб гэтыя грошы за яблыкі атрымаць.

— А эти деньги расходованы уже.

— На што расходаваны?

— Не знаю, Галина Иосифовна знает.

— Ну, а за бараванне бульбы?

— Конечно, это вы можете получить в колхозе.

— За буракі?

— В колхозе можете получить.

— Сто рублёў прэміі?

— Сто рублей премии я уже отдал ученикам.

— Дзеткі, вы атрымалі сто рублёў прэміі? — пытаюся ў дзяцей тут жа, пры дырэктары.

— Не, не атрымалі.

— Ну, дык дзе тыя сто рублёў?

— Ну, приедет Галина Иосифовна, разберёмся.

Пайшлі мы ў бухгалтэрыю ў калгас. Аказваецца, за тое, што за бараной бульбу збіралі, складзена ведамасць з подпісамі вучняў розных класаў, але падпісваўся хтосьці адзін — дзе левай рукой, дзе праваю. Тыя вучні і паняцця не маюць, што яны атрымлівалі грошы...

— А за буракі грошы?

— За буракі ёсць, але трэба, каб кожны вучань распісаўся.

Мы зрабілі фальшывую ведамасць, распісаліся, атрымалі грошы за вучняў. І склалі сапраўдную ведамасць. Павезлі і кожнаму вучню аддалі грошы за буракі і кожны распісаўся. Тады я прыйшоў у бухгалтэрыю, тую фальшывую ведамасць забраў, а гэтую сапраўдную — аддаў. Кажу:

— Бачыце, мы ж павінны былі грошы атрымаць, а вы не давалі, пакуль не было подпісаў. Вось гэта сапраўдныя подпісы...

Прыехала тая Галіна Іосіфовна, і на дыбы:

— Вы меня опозорили!

— Як я вас зганьбіў? Што пакралі вучнёўскія грошы? Дык, можа, не вы бралі, ці вы?

Ва ўсялякім выпадку, яна мне кажа, што не аддасць тыя грошы, якія я расходаваў на экскурсію — свае расходаваў. Але я адразу выбраў касіра, а стараста займаўся закупкай. І на ўсё касір даваў старасце грошы, гэты купляў і чэк здаваў. І вось такім чынам у касіра ўсё ёсць. Дваццаць тры рублі пяцьдзясят капеек мы расходавалі на экскурсію: Брэст, у Белавежу. Гэта не многа. І гэтыя дваццаць тры рублі мне не хочуць аддаваць. А для мяне гэта вялікія грошы. Заходжу да дырэктара і кажу:

— Вось я напісаў у КРУ пра ўсе вашыя махінацыі. Або аддавайце мне 23 рублі, або я пашлю гэты ліст.

Паслаў. Прыязджаюць дзве дзяўчынкі з фінансавага аддзела. У школу вязуць мэблю, кніжкі ў бібліятэку, нагляднасць — машына за машынай ідуць. Ім там здорава накачалі. Дзе яны бралі грошы, я не ведаю. Тут усе настаўнікі ходзяць, збіраюць у вучняў, якія вучацца і што раней вучыліся: «Дай подписку, тебе когда-нибудь давали книгу, там, скажем, на линейке, на первом звонке, или какой-то подарок (выдатнікам давалі). Дай расписку...»

Прыехала бухгалтар райана:

— Дайце распіску, што вы для бібліятэкі купілі на сто пяць рублёў кніг беларускай літаратуры.

Кажу:

— Я аддаў накладную ў райана, у вас накладная ёсць, і ніякіх распісак даваць не буду.

Адным словам, яна сядзела, мусіць, дзён два. Нарэшце, прасіцца стала. Я ёй даў распіску, што я атрымаў суму, на што ёсць накладная ў аддзеле народнай адукацыі. Вядома, калі разбіралі гэта ўсё, мяне не паклікалі. Разбіралі — толькі дырэктар быў. Прызналі… Што грошы ён нікуда не падзеў, гэтыя грошы ўсе ёсць, але раздаваў направа і налева з кішэні — добры вельмі чалавек, ніякіх распісак не браў. І вось цяпер, аказваецца, і Белакоз на 105 рублёў купіў кніжак. Тое, што там ёсць накладная — яны не казалі, а распіска ёсць… Дырэктару школы дзве зарплаты вылічыць — і ўсё на гэтым.

Прыязджае назаўтра сакратар райкама партыі па ідэалогіі, інструктар абкама партыі (можа, так які жулік, што прадставіўся інструктарам) і патрабуюць у мяне рабочыя планы. Кажу:

— Планы, толькі скажыце, як тая праверка?

— Ну, факты, что вы писали, подтвердились. Только вы писали, что чернил нет. Чернила есть у уборщицы.

— Чарніла для аўтаручак — пішуць аўтаручкамі.

— Планы покажите.

— Прабачце, калі ласка, як факты пацвердзіліся, то вы ў злодзея пытайцеся рабочыя планы. Хіба вы ў адной бандзе? Хіба вы разам з імі кралі?

— Алесь Николаевич, не бросайтесь словами.

— І за свае грошы купляюць вучні і ў школу прыносяць. А школа атрымлівае грошы — складаюць фальшывыя ведамасці і быццам бы яны купляюць… Як вы становіцеся ў абарону злодзея, значыць, вы адна банда…

— Алесь Николаевич, покажите рабочие планы.

Я ім паказаў. У мяне ў восьмым класе тэма: «Кастусь Каліноўскі». Па тэме сабраны партрэт Кастуся Каліноўскага, намаляваны Пятром Сергіевічам з Вільні, з аўтографам самога мастака, успаміны сучаснікаў: генерала Ратча, Гэйштара, паплечніка ў барацьбе (праўда, яны ідэалагічна разыходзіліся, але змагаліся і адзін, і другі з царскім урадам)… Адным словам,

матэрыялаў столькі, што я толькі заўсёды гляджу, чаго не даваць, бо ўсё даць немагчыма. На такіх уроках я не праводзіў апытвання — толькі новы матэрыял. І гэты ўрок прайшоў: як раскрылі яны раты ў пачатку ўрока, то толькі са званком закрылі. Прыходзяць, і кажа мне прадстаўнік абкама:

— Алесь Николаевич, у вас нет рабочих планов.

— Я ж вам паказваў.

— А они… на машинке напечатаны.

— А дзе напісана, што на машынцы няможна друкаваць?

— Так там даты нет.

— Даты няма, бо я карыстацца буду і на наступны год гэтымі планамі. І многа год карыстаўся імі. Вось вы заўважылі — на першай старонцы (гэта машынапісны ліст) палавіна чыстага. І я пішу, што на ўроку трэба даць, а я не даў, і чаго не трэба было даваць, бо матэрыялу замнога, усё роўна не паспяваюць даць другараднае.

— Вы не пишете рабочих планов…

Прыехала інструктар, тут сядзела. І ўжо гэта быў апошні савет райана. Выступіў загадчык райана, што «Белокоз не пишет рабочих планов и работает… не по советским программам. Надо менять или советские программы, или Белокоза». Вось — разам не можа суіснаваць. І я павінен быў рабочыя планы свае прывезці. Я прывёз гэтыя планы. І вось па чацвёртым класе чытае дырэктар школы-інтэрната Маскалёва. Там разбор зычных. Напрыклад, слова «ад’язджае»: а — гал., д — з. (значыць — зычны), зв. (гэта значыць — звонкі), цв. (гэта значыць — цвёрды)… Яна чытае: «ды», «зы», «звы», «цвы» — чытае не так, як гук, не так, як літара). Кажу:

— Прабачце, калі ласка, вы ж чытаць не ўмееце. Вы не ўмееце называць гукаў, літар. Давайце я прачытаю.

Рында:

— Не надо, товарищ Москалёва прочитает…

Пачытала яна гэтыя планы. І, значыць, пастанова: суровая вымова з апошнім папярэджаннем: «Работает не по советским программам и не пишет рабочих планов». І сталі прысылаць да мяне на ўрокі кожны тыдзень інспектара, які патрабаваў, каб я яму паказаў рабочыя планы, каб пісаў іх. Сядаю, бывала, і пішу абы-што і абы-як. Як, скажам, у мяне шэсць урокаў, то я

за пятнаццаць хвілін напісваю планы на ўсе шэсць урокаў. Але вяду ўрокі па падобных планах, па сапраўдных — тых, якія ў мяне ёсць. Інспектар райана мне робіць заўвагу:

— Алесь Николаевич, у вас вот такого момента нет в плане, а вы давали.

Кажу:

— Па-першае, не ўсе моманты, якія настаўнікі даюць на ўроку, упісваюцца ў планы. Гэта патрабуецца толькі ад практыкантаў. Яшчэ як дурны дырэктар, то першы год працы можа такое патрабаваць. Я, дзякуй Богу, ужо працую некалькі дзясяткаў гадоў і маю права даваць штосьці не запісаўшы. Акрамя таго, у тым плане, што я вам даў, многа чаго не ўказана, бо я гэты план пішу для таго, каб вы мелі чаго ездзіць. Я па ім не працую, а працую па добрым плане. Паглядзіце — у гэтым плане ўсё ёсць.

Адным словам, абурыўся інспектар і больш не прыязджаў. На гэтым скончыўся наш канфлікт.

А тут так здарылася (гэта было ўжо ў 1979 годзе), што Ларыса Геніюш дапамагла, напісала да Машэрава ліст. Я, ведаеце, абурыўся гэтым усім і напісаў да яе такі ліст, за які, вядома, трэба было садзіць мяне… І вось яна напісала ад сябе ліст Машэраву і паслала разам мой ліст. Яна мне хваліцца, што «я паслала ваш ліст Машэраву». Думаю «ну, Божа ж мой, чакай ізноў непрыемнасці». Я ніколі не думаў і не ведаў, што гэта мне магло чым-небудзь дапамагчы. Яна там піша, што «настаўнік вельмі вартасны, што ён арганізуе вельмі каштоўны музей, яму перашкаджаюць. Дапамажыце нам абодвум — і мне, і яму».

**Міхась Амялішка:** *Раскажыце, якая магчымасць у вас выхоўваць вучняў — патрыётаў Беларусі?*

**Алесь Белакоз:** Сёння мы разумеем, што настаўнік выхоўваць беларускіх патрыётаў у Савецкім Саюзе не мог. За ім сачылі, на ўроку вучні былі такія (настроеныя, скажам, тым самым гісторыкам ці дырэктарам), якія кожнае слова настаўніка перадавалі. Магчыма, там былі і нейкія апараты, якія запісвалі мае ўрокі… І я вырашыў, што, каб дайсці да вучняў, выхаваць іх патрыётамі, патрэбныя не толькі ўрокі. Тым больш, што на ўроку і часу не было — праграма была такая, што трэба было

браць за адзін урок два-тры параграфы. Дык якое ж тут дадатковае выхаванне магло быць?

І вось што я вырашыў. Першым чынам — мы пачалі з вучнямі вучыцца пісаць вершы. Сам я ніколі вершаў не пісаў. Ведаю, як пісаць, але не ўмею. Можа, гэта і вельмі добра, бо мне кожны верш вучня здаваўся дасканаласцю. Я ад душы захапляўся іх вершамі. Чаму менавіта вершы? Тут я мог накіраваць тэматыку. Пачыналі мы пісаць пра маму, пра родную вёску, пра дрэўца, якое пасадзіў дзед ці прадзед, пра нашу прыгожую прыроду — вось такія тэмы. Гэта ж усё выхоўвае патрыятызм у чалавеку. Другое. Вядома, былі не толькі вершы, бо калі ў вучня вершы не атрымліваюцца, то я яму раю: «Пішы прозай. Вось, напрыклад, Янка Брыль. Ён паглядзеў, што вершы слабаватыя ў яго, дык пачаў пісаць прозай. Такі пісьменнік — слава для ўсяе Беларусі! Вось і ты празаікам нарадзіўся, а не паэтам». І дзіця не адчувала сябе горшым: «Ну, што ж, ён вершамі піша, а я таксама пішу, толькі прозай».

Вядома, гурток быў. Але гурток у нас быў не такі, як звычайна бываюць. Я не збіраў вучняў па дзесяць ці дваццаць за раз, а працаваў індывідуальна.

Напрыклад, напісаў вучань верш, прыносіць. Кажу:

— Добра, давай паглядзім яго. Калі ў цябе свабодны час?

— Або вялікі перапынак (гэта малавата), або сёння пасля ўрокаў, або заўтра перад урокамі.

У нас, напрыклад, вучні са Стругі ездзілі, то яны прыязджалі на гадзіну раней, чым пачынаюцца ўрокі. І я кажу вучню:

— Значыць, я магу прыйсці на гадзіну раней, і мы папрацуем з табой.

Бывала так, што на такую гутарку нашу прыходзіў хтосьці з сяброў вучня. Тады я ўжо стараўся менш недахопаў паказваць, бо ўсё-такі староннi чалавек. Але заўсёды пачынаў з поспехаў дзіцяці. У кожным вершы ёсць некалькі радкоў добрай рыфмы — удалай, багатай, дакладнай. Тут я ўжо захапляўся ад душы і казаў, што такой рыфме мог бы Янка Купала пазайздросціць ці той самы Пушкін.

Далей — выяўленчыя сродкі. То параўнанне такое, што… Сцёпа, памятаю, так ужо дрэнна вучыўся. Напісаў чатыры радкі і піша: «Радзіма як мама…»

Кажу:

— Сцёпа, дык гэта ж любы пісьменнік у цябе можа скрасці, калі даведаецца. Але ж ты і маладзец! Я табе пяцёрку пастаўлю за адно гэтае параўнанне.

Пасля гэтага Сцяпан на ўсё жыццё запомніў, што Беларусь — як маці!

Тэмы з’яўляліся самі па сабе. Напрыклад, прыязджаюць да нас паглядзець музей літоўскія настаўнікі. З імі загадчык райана, сакратар райкама — гэта ўжо крышку бралася на дэмакратыю. Я папрасіў дзяўчынку, і яна напісала верш. Сустрэлі. Гэты верш вельмі спадабаўся нашым гасцям. Разам з тым дзяўчынка шмат перавярнула гісторыі, многае даведалася. Я ёй падказаў штосьці — што агульнае ў нас з літоўцамі (летувісамі).

Так што такога гуртка быццам і не было. Але я вельмі цешыўся, што за мной заўсёды хадзілі два-тры вучні і прапаноўвалі паглядзець іх вершы, дамаўляліся канкрэтна, на які час. І вось такім чынам можна было ўплываць на дзяцей.

Акрамя вершаў, мы пачалі перапіску з пісьменнікамі. Спачатку было страшнавата: гэта ж пісьменнікі — недасяжнае штосьці. А потым паглядзелі, што гэта вельмі добрыя людзі. Тым больш, што пісалі мы толькі патрыётам. Шамякіну… не пісалі. І Броўку не пісалі. І вось нехта напісаў (я не ведаю, можа, у насмешку) — у маскоўскім часопісе з’явілася — што… Шамякін і Броўка прысылалі шмат матэрыялаў у Гудзевічы і там створаны музей. І яны нам без просьбы па бандэролі球 рознае прысылалі… То я ўжо матэрыялы пра іх змясціў у самым канцы. І калі хтосьці з сучасных паэтаў у канцы гэтых стэндаў, дык Шамякін пасля яго. Таксама нядрэнна — перад Шамякіным ідзе. А яго пакаралі вось такім чынам за тое, што ён не патрыёт. Быў бы патрыёт, мы б яму напісалі, выткалі б гальштук…

У 1970 годзе Вера Ігнатаўна арганізавала ткацкі гурток. Ткалі гальштукі бела-чырвона-белыя, з прозвішчам і якой-небудзь юбілейнай датай. Многія з пісьменнікаў лічылі гэта за ўзнагароду. Напрыклад, Станіслаў Пятровіч Шушкевіч — бацька цяперашняга Шушкевіча — казаў нам так, калі прыязджаў:

— Я ваш падарунак — гальштук — захоўваю ў шкляным футарале. Чаму ў шкляным? Каб на яго не села ні пылінкі, але каб яго было відаць. Гэты футарал захоўваю ў шафцы са

шклянымі дзверцамі, каб было відаць. Калі хто прыходзіць, я кожнаму паказваю, але не даю ў рукі. І сам надзяваю толькі раз у год на дзень свайго нараджэння і толькі на пачатак. А потым здымаю, каб ён не панішчыўся, каб ён даўжэй захаваўся.

Вярцінскі піша, памятаю: «Божа ты мой, я забыўся пра дваццаціГоддзе пачатку маёй літаратурнай дзейнасці (а 20 гадоў назад быў надрукаваны яго верш у часопісе), а вы ўспомнілі, дзякуй вам». І ён стаў нашым сябрам на ўсё жыццё. І так многія іншыя. Значыць, нам гэты гурток вельмі дапамагаў. Вяла яго Вера Ігнатаўна. Дарэчы, яна навучыла тых дзяўчат, што працуюць у музеі. Яны ткуць цяпер, прадаюць закладкі, гальштукі, паяскі. Але гэта ўжо… не тое. Гэта людзі, якія для грошай працуюць, але не для справы. Ім Беларусь пакуль не патрэбная…

І так перапісваліся мы з пісьменнікамі, з мастакамі, з кампазітарамі — скажам, з тым самым Семянякам, Ліпенем, Багуставым, Купавам, Марачкіным…

Вядома, ліст напісаць самому было б значна прасцей і хутчэй. Але мне хацелася далучыць вучняў. Чаму? Скажам, вучаніца-каталічка піша да Шушкевіча: «Наша сям'я — каталікі. І некаторыя сцвярджаюць, што калі каталікі — то, значыць, палякі. А як вы на гэта гледзіце?». І Шушкевіч дае свае каментары, што хрысціянская канфесія — гэта адно, а нацыянальнасць — зусім іншае і больш важнае. Іспанцы, італьянцы, бразільцы, баварскія немцы і гэтак далей не з'яўляюцца ж палякамі з-за таго, што яны каталікі…

Гэта таксама вельмі цікава і патрэбна было. Гэта патрэбна было і пісьменнікам, бо засталіся ж гэтыя лісты, друкуюцца. А яны цешыліся з падарункаў, і з лістоў…

Але і гэтага мала. Для таго, каб гэты беларускі патрыятызм увесь час рос, трэба рабіць нешта. А калі толькі гаварыць, што мы — патрыёты, дык гэта ж пустыя словы…

Значыць, музей. Спачатку я не думаў, што з гэтага можа атрымацца нешта салíднае. Паехаў да Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча. Ён скрывіўся і кажа:

— Гэта нежыццёва, гэта нерэальна…

Аналагічна рэагавала і мама. Праўда, на маму маю вельмі ўплывалі кадэбісты: падсылалі людзей, якія пераконвалі яе,

што ў вёсцы музей не можа быць, нідзе няма, каб у вёсцы быў музей, тым больш, што тут ніхто ж такі важны не нарадзіўся і што гэта немагчыма… Яна прасілася:

— Не рабі ты таго музея, бо арыштуюць, пасадзяць.

Ведаеце, як маці — баялася за лёс сына. Але музей мы рабілі…

Вядома, я не думаў, што вырасце такі музей: сёння пятнаццаць залаў! Гэта ж многа. Мы маглі б яшчэ дваццаць залаў адчыніць, але справа ў тым, што і гэтыя пятнаццаць чалавеку пераглядзець як след немагчыма.

То нашто іх пашыраць, няма сэнсу. А экспанатаў у нас на многа залаў яшчэ ёсць. Ну, тут ізноў-такі вучні ездзілі са мной па вёсках. Дапусцім, я заўтра думаю пабыць у Востраве. Прашу ў брыгадзіра каня. Дае дазвол. Сына брыгадзіравага прашу:

— Пагавары з бацькам і рана прыязджай пад школу ці на вялікім перапынку збегаеш ды возьмеш гэтага каня.

Вучням з гэтай вёскі, скажам з Вострава, паведамляю:

— Мы заўтра прыедзем. Вы падрыхтуйце. Што мы збіраем? Усё тое, што сёння выкідаюць, рубаюць, паляць. Маю на ўвазе ўсялякія прылады ткацкія, скажам той самы трыножак, на якім калісьці варылі вячэру, бойку, цабэрак, кацубу, рагач, чапялу… Усё, што захавалася. Прасачыце, каб яго не выкінулі, а каб аддалі ў музей. Дык там будзе ўвекавечана і ваша прозвішча, бо хто захаваў, хто карыстаўся гэтым, хто ахвяраваў — запісана будзе.

Некалькі вучняў, хто жадаў, ехалі. Заязджалі ў вёску, пад'язджалі да хат, нас сустракалі вучні, некаторыя ўжо павыносяць нават усё. І мы паўвёскі праехалі і заклалі воз так, што больш нічога не пакласці. І потым ездзілі другі раз.

Гэта таксама вялікая справа, таму што вучні пачыналі разумець, што ўсё старажытнае, ранейшае трэба берагчы, а не знішчаць.

Вядома, музей рабіўся патрыятычны. Начальству ён вельмі не падабаўся ўжо хаця б па той прычыне, што робіць яго Белакоз. І тым больш змест ім не падабаўся… Яны кожны раз загадвалі, каб я даваў эскізы тых залаў, якія буду рабіць. Я эскізаў не даваў. Мы стараліся чым найхутчэй зрабіць залу, як толькі ўжо дамовіліся, што яна будзе. У той час старшыня

мусіў даваць дабро на гэта, бо без дапамогі калгаса мы не маглі б рабіць. Калгас, вядома, не дапамагаў бы — старшыня вельмі варожа ставіўся да музея... Але старшыня райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко быў вельмі разумны чалавек, ён нам дапамагаў ва ўсім.

Памятаю, зрабілі мы чатыры пакоі, адчынілі: прыгожы такі музей! Прыехалі тут і пісьменнікі з Мінска, з Гродна, мастакі, кампазітары. Прыехаў Вашко на наступны дзень, зайшлі са старшынёю калгаса, а старшыня кажа:

— Больш у гэтым музеі нагі маёй не будзе. Не магу я бясконца тут дапамагаць, мы ж — калгас.

А сам грошай не меў куды падзець (тут яны крышку схімічылі: далучылі слабы калгас, узялі яго імя, калгас у нас стаў вельмі вялікі — дзесяць тысяч гектараў зямлі, а прадавалі ўсю прадукцыю ў два разы даражэй, чым іншыя калгасы, бо мы ж — адсталы калгас; дык вось з-за гэтага яны не мелі куды грошай падзець). Старшыня іх пазычаў направа і налева: райпрамкамбінату — пяцьсот тысяч. Кажа:

— Яны ніколі нам не вернуць, але мы ўсё роўна не маем куды падзець...

Я яму прапаную, што мне даюць у Бабруйску абсталяванне джэмавай фабрыкі, бо гэта вельмі прыбыткова, яны сталі іншую прадукцыю рабіць, а тое абсталяванне выкінулі. Кажу:

— Аддайце нам.

— Калі ласка. Прывязіце квітанцыю, што вы здалі тры тоны металалому, і забірайце.

Я старшыні кажу пра гэта. Ён гаворыць:

— Мы не маем куды грошай дзяваць. Нашто нам гэта? Не патрэбна.

І я напісаў: «Здавайце ў металалом». Нікому не патрэбна. Такая была палітыка...

І вось старшыня кажа, што больш яго нагі не будзе і нічога дапамагаць ён не будзе. Я прашу:

— Добра. Мы вось будзем рабіць залу Народнай Славы.

Не рабілі мы гэтай залы. Мы ўсе залы рабілі з тым, што гэта будзе зала Народнай Славы, а потым робім іншую залу... Вось гэта ўжо будзе зала Народнай Славы — тады робім залу народнай творчасці... Далей. Зала Народнай Славы. А самі

прадстаўляем мастакоў нашай Гарадзеншчыны і іх арыгінальныя працы, не копіі. Зноў кажам, што будзе зала Народнай Славы... І так бясконца.

І як мы яе будзем рабіць? Дапусцім, што нам трэба кавалак шкла (а трэба не кавалак, а многа кавалкаў шкла). Я паеду ў райана. Там гэтага шкла ніколі не бывае, але дапусцім, што яно ёсць. Рында яго не дасць (Мікалай Іванавіч Рында — загадчык райана, які ўвесь час зачыняў наш музей і стараўся мяне ўсяляк дапячы). Але, дапусцім, зрабіўся цуд і Рында даў шкло. Як мы яго даставім? Аўтобусам усё я не прывязу. Трэба будзе па машыну да вас ісці. У калгасе ёсць шкло, а райвыканкам вам заплаціць. Кажуць, вам пералічым грошай ад райвыканкама. Старшыня баяўся начальства. А тут Уладзімір Іванавіч Вашко кажа:

— Міхаіл Сцяпанавіч, трэба дапамагаць. Інакшага выхаду няма. Музей вельмі добры, трэба пашырыць яго. І вас вельмі прашу: дапамагайце далей.

Але старшыня, як мог, гамаваў гэтыя справы, шкодзіў... І ўсё ж музей рабіўся, памаленьку рос.

Скажам, для музея мы пажадалі выказванні пра мову. І ўсім пісьменнікам, каму пішам, просім: «А вы прышліце выказванне пра мову, як вы да мовы ставіцеся». Дарэчы, кожны адказаў, акрамя Быкава. Васіль Быкаў ніякіх патрыятычных спраў не хацеў рабіць чамусьці. І па гэтай прычыне мы з ім дрэнна жылі. Я часта яму мараль чытаў, кажу:

— Можа, вы не беларус? То мы не будзем пісаць вам. Нашто ж гэта?

— Не, я — беларус.

— Але паводзіце вы сябе не так, як беларус...

Вось такім чынам, крок за крокам, музей ствараўся. Праўда, як гэта бывала на самай справе. Гэта быў, можа, які 1979 год. Я тут дровы рубаю. Прыязджае на «Волзе» шафёр старшыні калгаса і кажа:

— Алесь Мікалаевіч, сядайце ў машыну, з вамі хоча Вашко пагутарыць.

— Добра, толькі я паеду на ровары. Мне ж дахаты яшчэ трэба будзе ехаць.

Заехаў. Там галоўны аграном, старшыня калгаса і старшыня Мастоўскага райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко. Старшыня райвыканкама кажа:

— Ведаеце, хлопцы, я хацеў бы пагутарыць з Алесем Мікалаевічам адзін на адзін

Пайшлі начальнікі. Ён гаворыць:

— Алесь Мікалаевіч, робіце вялікую справу, я хацеў бы дапамагчы вам. Можа, давайце будзем афармляць яшчэ адну залу.

Рында загадвае дырэктару школы:

— Сёння ж разбурыце музей, каб не было.

Прыязджае дырэктар (вельмі добры, разумны чалавек быў у той час дырэктарам) і кажа:

— Алесь Мікалаевіч, загад. Ідзем, будзем разбураць. Рында сказаў, што там антысаветчына.

Кажу:

— Ідзем у музей, паглядзім, можа, мы штосьці выкінем, а штосьці пакінем.

І калі мы зрабілі першыя чатыры залы, з пасады ўжо вызвалілі дырэктара школы. Пазней ён прыязджаў у музей з сынам. Паглядзелі яны гэты музей, і ён кажа сыну:

— Збегай, сынок, паглядзі школу — як там. Потым раскажаш мне.

А сам гаворыць:

— Алесь Мікалаевіч, мне так сорамна. Я ж спрабаваў зачыняць гэты музей. А такі добры музей атрымаўся.

— Ведаеце, што, — кажу я, — я дзень і ноч малюся за ваша здароўе, таму што іншы зачыніў бы. Вам жа загадвалі. Нашто вам непрыемнасці? А вы ж не зачынілі. А за гэта вас і звольнілі з працы. Так што — вялікі вам дзякуй.

— Камень з душы вы ў мяне знялі. Я начамі не сплю і ўсё думаю: «Што я ледзь не вытрымаў! Ну як так можна было?»

Ды вось, бывала, як нам патрэбна зрабіць было новы стэнд, а райана і новы дырэктар-стукач забараняюць рабіць, то выкладчык працы падрыхтоўвае гэты стэнд, а была вялікая шафа — на ўсю сцяну, і за гэтай шафай стаіць гэты стэнд. Калі толькі прыходзіць да яго дырэктар і кажа: «Я паеду ў Масты, вы зрабіце тое і тое», выкладчык працы прыбягае да мяне і кажа:

— Дырэктар ужо паехаў, забірайце гэты стэнд.

Я забіраю (а экспанаты ўсе падрыхтаваныя). На перапынку раскладваю экспанаты і вучням загадваю:

— Прыклейвайце.

Стэнд не было чым маляваць, малявалі цэментам. Але ж стэнды былі і музей быў.

Што ж сказаць, кожная зала паддавалася з вялікімі намаганнямі. Урэшце мы зрабілі і залу Народнай Славы. Толькі яна не называлася зала Народнай Славы, а зала гісторыі Гудзевічаў. Там і нашы сённяшнія людзі. Там і тыя, што раней жылі. І самыя багатыя людзі таксама паказаны: апранутыя яны вельмі няважна, бо яны збіралі грошы. Так што па-рознаму можна паглядзець на гэтую славу.

Паказалі мы Першую сусветную вайну, Другую. Шкадую, што не паказалі іншых войнаў. Трэба было паказаць, яшчэ, можа, сабраць матэрыял і паказаць хаця б тую Грунвальдскую бітву… Не зрабілі мы гэтага. І гэтая зала гісторыі Гудзевічаў. Не баявой, не народнай славы, а паказаны нашы людзі…

Вучні пісалі ў войска выпускнікам нашай школы. Тыя былі вельмі задаволеныя…

Дарэчы, перанеслі хатку з вёскі — дзесяць кіламетраў ад нас. Яна ў глушы, ніколі не гарэла, ні ў адну вайну. І там мы знайшлі тры хаты XVIII стагоддзя.

У трэцяй зале працуе мастак Міхась Вераціла, прапануе:

— Давайце зробім такія стэнды — метр на метр і два метры ў вышыню.

Я кажу:

— Дык што ж з гэтага атрымаецца — выходкі (туалеты)? Гэта ж ніякага віду. Я лічу, што сантыметраў сорак у глыбіню і дзесьці метр трыццаць у шырыню. Тады будзе відаць, што гэта стэнды.

Падтрымаў мяне Іваноўскі. І парабіў гэта. І парабіў так фундаментальна з дрэваплíты. Я кажу:

— Нашто вы так робіце? Яно ж будзе на месцы стаяць.

— Хто ж яго ведае, усяк можа здарыцца.

Як праводзілі ацяпленне, адсоўвалі ўсё. А каб ён зрабіў пліту да пліты, яны раз’ехаліся б.

З Гродна Алесь Ступень — мастак, музеі афармляе. Ён многа зрабіў для нашага музея. І такіх шмат. Так што сказаць, што рабіў музей Белакоз, — гэта не ўся праўда.

**Міхась Амялішка:** *Алесь Мікалаевіч, раскажыце нам, якія падзеі адбываліся ў 1960–1990-я гады.*

**Алесь Белакоз:** Ведаеце, былі моманты слабасці. Нават прыйшла такая дурная думка… спаліць сябе. Гэта калі пачалася «дэмакратыя», калі апошнія камуністы не давалі развіваць музей.

Але што гэта дало б?.. Дарэчы, я сам бы нізашто не рабіў бы раздзел народнай медыцыны ў музеі. Бо паняцця не меў пра медыцыну, каб брацца за яе. Але не мог не паслухацца Зоські Верас. Святая жанчына! Аб Зосьцы Верас выказаў такія словы Аляксандр Аляксандравіч Астроўскі — прафесар Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта: «Я вельмі шкадую, што так і не паехаў да яе, пакуль яна была жывая».

Я да яе ў Вільню чатыры разы ездзіў. І яна з унукам Слаўкам прыязджала да нас.

**Міхась Амялішка:** *Раскажыце, калі можна, Алесь Мікалаевіч, пра людзей, якія беларускую справу разам з вамі рабілі.*

**Алесь Белакоз:** Прыкладна 1986 год. Званок па тэлефоне ў школу — просяць паклікаць Алеся Мікалаевіча. Я падыходжу. Мне гавораць:

— Заўтра да вас прыедзе камісія ў складзе сакратара райкама партыі, прадстаўніка ад абкама партыі. Вас будуць лаяць, што ў музеі фатаграфія Сакрата Яновіча.

Я падумаў: за што мяне лаяць?

Назаўтра выходжу з будынка (школа была ў трох будынках. Мне пашанцавала, што я ўрок якраз там меў, дзе музей) — пад’ехала машына.

Высаджваецца сакратар райкама, адзін незнаёмы чалавек, Вольга Іпатава ад абкама камсамола. Відаць, яна мне тэлефанавала. Я вярнуўся (у гэтым жа будынку была музейная зала), зняў фатаграфію Сакрата Яновіча, паклаў яе ў кішэню, а Пысіна і Забэйду-Суміцкага рассунуў. Выходжу. А прыезджыя каля музея. Заходзяць:

— Почему у вас здесь так много немецких касок?

— Каскі ж гэтыя я павыкідаў, бо ў нас літаратурна-краязнаўчы музей, але гісторык прынёс гэтыя, дык я не выкідаю.

Напэўна, каб мелі на ўвазе, што немцаў таксама многа гінула, бо яны прабітыя кулямі. Як хочаце, дык мы пакладзём савецкія каскі часоў вайны.

— Нет, не надо.

А прадстаўнік абкама стаіць каля таго стэнда, дзе была фатаграфія Сакрата Яновіча (у абкамаўца дакладна было запісана), кажа:

— А что у вас здесь делает фотография Сократа Яновича?

Кажу:

— Ніякай фатаграфіі Сакрата Яновіча няма, — і працягваю размову з сакратаром райкама Вольгай Іпатавай.

— Как же нет? Вот он!

Падыходзім. Вольга Іпатава кажа:

— Гэта Аляксей Пысін.

— Не, — кажу, — гэта Забэйда-Суміцкі.

— А почему вы Забейду-Сумицкого поместили здесь?

— Ведаеце, ён піша, што ягоны бацька быў парабкам, яны часта пераязджалі з месца на месца, а дзяцей многа. Маці добра не памятае, дзе нарадзіўся, але, хутчэй за ўсё, у Ваўкавыскім раёне. Дык ён жа наш зямляк. Як жа не памясціць земляка з сусветнай славай?

Так адбіўся…

Пытаю:

— Чаму вы так узяліся за Сакрата Яновіча, чым вам ён не падабаецца?

Прадстаўнік абкама кажа:

— Его исключили из Польской объединённой рабочей партии.

Кажу:

— Як выключылі? Але тых, што яго выключалі, таксама павыключалі. Так што, можа, яго трэба вярнуць?

Нічога на гэта не адказалі. Але ж не было фатаграфіі Сакрата Яновіча — дык прычапіцца да Белакоза няма за што. Прадстаўнік абкама кажа:

— У вас здесь всё националистическое, вы сами националист…

— Чаму?

— Вы по-белорусски говорите.

— Дык я ж выкладчык беларускай мовы, я беларус.

Сакратар райкама кажа:

— Я белоруска.

Кажу:

— Каб вы былі беларуска, дык вы па-беларуску размаўлялі б.

— Нет, я белоруска!

— Дык вы не ўмееце па-беларуску?

— Умею.

— Каб умелі, то гаварылі б.

Прадстаўнік абкама таксама кажа, што беларус, умее.

Кажу:

— Не, каб вы ўмелі, то гаварылі б.

Яны... загаварылі па-беларуску.

Выходзім, а ідзе загадчык гаспадаркі. Кажу:

— Канстанцін Сяргеевіч, пабывалі дзесяць хвілін у музеі нашы госці і па-беларуску загаварылі!

Эх, як дзьмухнулі... паехалі!

Дык мне надта спадабалася, што нехта парупіўся папярэдзіць, што будзе такая праверка.

Калі вельмі прыціскалі наш музей, дык Вольга Іпатава змясціла добры артыкул у газеце «Літаратура і мастацтва» пад псеўданімам «Белазека». Там музей бараніла. Гэта яе артыкул, бо я пазнаў па тым, што мы гаварылі падчас яе наведвання ў музей. Напэўна. Гэта мяне вельмі на духу падняло, што я не адзін. Я меў магчымасць падрыхтавацца. Каб не гэта, дык прыехалі б, сказалі б, што трэба забараніць музей.

Аднойчы з'езд беларусаў свету. Карэспандэнты бяруць інтэрв'ю — наладзілася невялікая прэс-канферэнцыя. Усе месцы занятыя. Стаім на двары, чакаем. Радзім Гарэцкі з жонкай (тады віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук быў) падыходзяць да мяне.

— Мы маглі б вам ад Інстытута геалогіі АН БССР даць калекцыю карысных выкапняў Беларусі. Наша Беларусь вельмі багата карыснымі выкапнямі, гэта ў музеі варта паказаць.

— Дзякуй вам! А як гэта зрабіць?

— Прыедзьце калі-небудзь, толькі папярэдзьце мяне. Я падрыхтую экспанаты.

Я паехаў у Мінск. Вядома, папярэдзіў Гарэцкага. Мяне да нейкага чалавека прывялі, яму даручылі, каб той падрыхтаваў

калекцыю карысных выкапняў. Аказалася, я сам не ведаў, што Беларусь такая багатая на карысныя выкапні. Каб мы не будавалі лядовыя палацы, а распрацоўвалі нашы карысныя выкапні, дык мы былі бы найбагацейшай краінай свету. Тая самая драўніна — амаль гектар на душу насельніцтва! Цяжка знайсці ў свеце другую такую краіну! Дык мы прадаём бярвеннем, замест таго, каб зрабіць цэлулоідныя заводы, мэблевыя, папяровыя фабрыкі… Лядовыя палацы маглі б быць, але пасля. Напрыклад, марскія расолы — неабсяжныя запасы. Там уся табліца Мендзялеева. А толькі нядаўна пачалі здабываць бром. У нас ёсць руда алюмінію, а з яе выходзяць добрыя соды. У нас ёсць паліўныя сланцы — 11 мільярдаў тон. Эстонцы з іх робяць салярку, мазут, бензін, а мы — нічога. У нас велізарныя запасы торфу. Немцы купляюць у нас торф, здабываюць з яго бензін, салярку, воск, салідол, нават лекі. А мы на палі вывозім. А той самы крэмень! Калі завезці яго, напрыклад, у Кувейт, дзе прэсная вада даражэйшая за нафту, а прывазная вада псуецца. З крэменем вада не будзе псавацца, будзе лекавая. Завезці спачатку кантэйнер крэменю. Падарунак. Пасля яны захочуць купіць. Дык няхай плацяць, даюць нам нафту, а мы пакуль што гэты крэмень выкідаем, і так бясконца.

Дык я лічу, што Радзім Гарэцкі вельмі моцна дапамог нам у стварэнні гэтага аддзела.

Пімен Панчанка падтрымліваў нас на духу, як патрыёт. Спачатку мы з ім трошкі не сышліся. Ён перакладаў паэму «Цыганы» Пушкіна на мову — некалькі рускіх зваротаў пакінуў. Наша вучаніца напісала яму, што гэта не беларускія звароты, — пакрыўдзіўся. Але потым адышоў, паглядзеў, што зрабілі слушную справу, стаў нашым сябрам.

Яго лісты такія, што Валерый Задаля — былы рэдактар Гродзенскага абласнога тэлебачання — узяў у загаловак радок яго верша пра настаўніц:

Мае мілыя, вы мае родныя,
Многа было ў вас крыўды, слёз,
Вас пахваліў бы за мову народную
Мудры настаўнік Алесь Белакоз.

Для мяне гэта была вялікая радасць, што Панчанка так напісаў!

Янка Брыль таксама настолькі спачуваў мне ў гэтай працы, настолькі паважаў наш музей. Праўда, так ні разу не прыехаў, хаця збіраўся.

З Нілам Гілевічам у адзін час не знаходзілі паразумення: я за тое, каб увесці мяккі знак, а ён — каб не ўводзіць. Ён не настаўнік, не практык. Нашы настаўніцы не вучылі мякка казаць.

Напрыклад, настаўніца суседняй школы вучыла казаць цвёрда. Пытаю яе:

— Чаму вы так вучыце?

— Правіла такое, «што сам чорт нагу зломіць».

— Навошта, каб дзіця памылкі рабіла?

Загадваеш дзіцяці:

— Скажы «зіма».

Кажа:

— Зыма.

Адвучылі мяккія зычныя вымаўляць. А мяккасць нашай мовы — гэта яе прыгажосць.

Кажу вучню:

— Вывучы гэты верш на памяць. Калі на наступным уроку ты будзеш гэтак жа вымаўляць, я табе пяцёрку не пастаўлю, нават калі ты на памяць раскажаш. Дзеткі, пастаўце сабе алоўкам мяккі знак у словах «снег», «спевы», «смех»...

Выпісвалі мяккія знакі, праходзіла месяцы два — яны нармальна адказвалі.

Мне здаецца, што ў нашай школе не знайшлося б такога здрадніка, бо беларускія школы забараніў беларускі друк. Хоць былі стукачы і ў нашай школе. Белакоз працуе ў адным напрамку, а яны вялі ў супрацьлеглым. Але я задаволены, што ўсё ж я перамагаў.



# Рак — вылечная грыбковая інфекцыя

У жніўні я наведаў Алеся Белакоза. Ён мне паведаміў, што яму знаёмыя прыслалі артыкул аб італьянскім доктары Туліа Сіманчыні, які сцвяджае, што рак — вылечная грыбковая інфекцыя. Сіманчыні лечыць рак звычайнай пітной содай і паспяхова вылечвае любыя ракавыя пухліны нават на апошняй стадыі. Атрымаўшы такую інфармацыю, спадар Алесь Мікалаевіч вырашыў яе праверыць у сваім лячэнні — пачаў піць бікарбанат натрыю $NaHCO_3$ — пітную соду. І адразу адчуў сябе на першых парах лепш...

Аднак у артыкуле пра лячэнне ракавых пухлін содай у гэтым артыкуле недастаткова было інфармацыі аб індывідуальным лячэнні содай. Нічога не сказана, колькі соды прымаць, каб не нанесці шкоды арганізму, і ў прыватнасці печані.

Наша медыцына не звярнула ўвагі на лячэнне доктара Сіманчыні — заняла доўгачакальную пазіцыю і працягвае лячыць рак электрамагнітнымі хвалямі і хіміятэрапіяй. І на сцвярджэнне Сіманчыні, што гэтыя хвалі і хіміятэрапія забіваюць не толькі ракавыя інфекцыі, але і здаровыя клеткі чалавека, няма ніякіх афіцыйных тлумачэнняў.



# Змаганне за здаровы стан зроку без акулярaў

У Новасібірскім універсітэце каля дванаццаці гадоў праводзіцца навуковая праца Уладзімірам Георгіевічам Ждановым, прафесарам Новасібірскага гуманітарна-экалагічнага ўніверсітэта, па ўкараненні псіхолага-педагагічнага метаду, распрацаванага Генадзем Андрэевічам Шычко і амерыканскім вучоным Бейтсам па аздараўленні зроку чалавека і ўсяго арганізма. Гэты не медыцынскі, а псіхолага-педагагічны метад дазваляе чалавеку натрэніраваць зрокавыя мышцы і дабіцца таго, што блізарукія, дальназоркія, касавокія, астыгматыкі адмаўляюцца ад акулярaў пасля тыднёвай трэніроўкі зрокавых мышц на спецыяльных курсах па гэтай методыцы.



# Самарослыя рэцэпты ад Алеся Белакоза

**Алергія.** З дзяцінства праца з саломай ці сенам выклікала страшэнны сверб кісцяў рук, шыі, а калі працаваў аголены да пояса, то ўсяго торса. Крыху дапамагала шматразовае намыльванне хворых месцаў, аднак пазбавіцца ад захворвання ўдавалася толькі праз суткі. У 1988 годзе пасля сенавання і стараннага вымывання абліўся крамянёвай вадой, а пасля старанна памыў цела крамянёўкай і з радасцю адчуў, што скура не чэшацца, ніякага свербу няма. А цяпер пасля працы з саломай ці сенам мыюся крамянёўкай — і я здаровы.

Кажуць людзі, што алергію ад яды мыццё крамянёўкай не вылечвае. Спадарыня Зіна сцвярджае, што алергію ад ежы паспяхова лечыць, п'ючы толькі крамянёўку, выключыўшы з ужывання ўсе іншыя напоі.

**Ангіна** вельмі добра лечыцца, калі праз кожныя 5–20 хвілін піць хоць па глытку летняй цеплаватай крамянёўкі. Каб пазбавіцца ангіны зусім, трэба загартоўваць горла, калі яшчэ няма захворвання; піць па паўглыточка халаднаватай, а пазней і вельмі халоднай вады, есці пакрысе марожанае, не захапляцца нашэннем шаліка. Хвароба зусім знікае, калі ў час абвастрэння паміж шчокамі і зубамі пакласці па меднай пласцінцы 25 × 35 міліметраў можна пяцікапеечныя ці нават трохкапеечныя манеты любога года выпуску ці нават сучасныя рускія пяцірублёвыя манеты: яны такія ж, як і былыя пяцікапеечныя, на шыю надзяваць медны бранзалет, зроблены з меднай трубкі ці дроту, а ў ноздры пакласці спружынкі перпендыкулярна да падоўжаных сценак ноздраў. Спружынкі робяцца з тоненькага меднага дроціка даўжынёй у 29 ці 30 сантыметраў, які нак-

ручваецца на аловак ці шарыкавую асадку, каб атрымалася спружынка. У мяне ангіны ніколі не было, але дачка кажа, што ёй гэтыя захады дапамаглі.

**Апёкі** вельмі добра лечацца, калі апечанае месца патрымаць у крамянёўцы да таго часу, пакуль знікнуць болі. Крамянёўка будзе награвацца, то астудзіце яе ў халадзільніку, а на месца цёплай налівайце халодную. Пухіроў здымаць нельга, а праз суткі пад пухірамі з’явіцца новая скурка. У мяне пухіроў не бывала. Пра лячэнне апёкаў такой складанасці расказала мне спадарыня Кацярына.

Каб даследаваць лячэнне самых моцных апёкаў, я напаліў да чырвані шворан дзесяціміліметровай таўшчыні і прыклаў да мышцаў рукі паміж локцем і ключыцай. Утварылася рана каля трох міліметраў углыбіню. Адной крамянёўкай я гэтай раны вылечыць не здолеў. Давялося рану апрацоўваць алеем абляпіхі.

**Атыт** у мяне з’явіўся першы раз у 1959 годзе. Я вельмі мучыўся, але тады навуковая медыцына не магла прапанаваць дзейсных сродкаў. У тыя часы медыкі нават вялі размову пра магчымы лятальны зыход. Хвароба вярталася яшчэ некалькі разоў.

Толькі ў 1987 годзе мне прыйшла шчаслівая думка апрацаваць вуха крамянёвачкай. Я крыху падагрэў ваду да тэмпературы цела, намачыў у ёй невялічкі кавалачак ваткі, лёг на левы бок, а ў правае вуха паклаў мокрую ватку. Націснуў на ватку. Цёплая крамянёвачка прыемна пацякла ў вуха. Паляжаў хвілін з дзесяць. Устаў зусім здаровы. Аднойчы я для прафілактыкі так апрацаваў крамянёвачкай вуха, назаўтра працэдуру паўтарыў вынік выдатны: гадоў з чатырнаццаць няма прыступаў атыту.

**Гемарой** мучыў ад 1960-х гадоў. Лячэнне адно: свечы. Назбіралася іх з кошык, а паляпшэння ніякага. У 1986 годзе пачаў піць крамянёвую ваду. Гемарой знік, але калі я трапіў з анкалагічным захворваннем у шпіталь, то праз два тыдні без крамянёвачкі захворванне вярнулася. Паставіў на тумбачцы крамянёўку ды зноў пачаў піць — хвароба знікла. Тое ж і маіх суседзяў — пацыентаў. Віталь Клімуць з вёскі Гострава збіраўся паміраць, бо за дзень траціў па 300 і больш грамаў крыві. Зараз ужо шмат гадоў трымае па 4–6 свіней па 6–8 кароў,

вельмі цяжка працуе, аднак пры сваім 78-гадовым узросце адчувае сябе выдатна. А ягоная жонка, спадарыня Яніна, дзякуе: «У 1989 годзе ў мяне на целе з’явілася шмат прышчоў. Паклалі ў шпіталь, мазалі нейкімі мазямі, высыпка знікла, але як я вярнулася дахаты, то пачалося ўсё спачатку. Я памыла цела крамянёвачкай — высыпка зжахла, я яшчэ памылася крамянёўкай — высыпкі амаль не засталося. Я трэці раз усё цела змачыла крамянёвай вадой — хвароба зусім знікла, і назаўсёды. Божа! Якое шчасце ваша крамянёвачка!»

**Дысбактэрыёз.** У 1976 годзе мяне з траўмай нагі завезлі ў Мастоўскі шпіталь, дрэнная слава пра які была вядома далёка. Мне ў 23 гадзіны вечара загадчык хірургічнага аддзялення Сідарчук зрабіў перасадку скуры і загадаў пакласці ў гнойную палату. І гэта праз дзве гадзіны пасля траўмы, адразу ж пасля аперацыі. Мяне гэтыя дзівацтвы абурылі, але ж лекару відней. Назаўтра ў 9 гадзін Сідарчук аб’явіў маёй жонцы, што ў мяне гангрэна, але ж мы яшчэ пазмагаемся за маё жыццё. У гэтай жа гнойнай палаце сам Сідарчук праз нейкіх восем гадзін пасля аперацыі перавязаў мне нагу і заявіў, што маё жыццё ў небяспецы. Мяне гэта здзівіла, бо бачыў, што ніякай гангрэны ў мяне няма, на назе адрэзаны чатыры малыя пальцы — гэта даволі нязначная траўма. Мне пачалі днём і ноччу даваць антыбіётыкі, праз дзве гадзіны ўкол. Хірург Валковіч тады мне патаемна параіў: «Уцякайце вы, бо яны вас заб’юць, амаль ужо забілі: нельга так многа антыбіётыкаў даваць аднаму хвораму». Я пачаў прасіць, каб мяне выпусцілі. Мне катэгарычна адмовілі ў гэтым. Прыехаў па мяне сын на спадарожнай машыне з калгаса. Я папрасіў, каб мне аддалі адзенне, але мне не далі, і я ў бальнічным халаце ў вялікі мароз паехаў дахаты, бо зразумеў: галоўны ўрач шпіталя — муж сакратара райкама па ідэалогіі Кірдзюк-Абрамовіч Нэлы Мікалаеўны, майго заклятага ворага, бо яна імкнулася знішчыць створаны мною Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей, а я бараніўся. Яны рашылі знішчыць мяне фізічна.

Завёз сын мяне ў Гродна. Хірург Клячкоўскі без ніякіх антыбіётыкаў за некалькі дзён ачысціў маю рану, зрабіў перасадку скуры і сказаў, каб я тры дні нікому не дазваляў рабіць

перавязку — трэба, каб скура прыжылася. Праз некалькі дзён мяне выпісалі.

У мяне пачалося цяжкае захворванне. Я два разы быў у Есентуках, у Трускаўцы, у Друскінінкаі. Усюды казалі адно, што дысбатэрыёз яны лячыць не ўмеюць. Прыпісвалі нейкія лекі, але яны мне не дапамагалі. Ад болю ў жываце я не мог спаць. Калі засну, то праз 15 хвілін прачнуся ад вялікага болю ў жываце. Я ўжо ад ветру хістаўся. У 1986 годзе зноў лёг у абласны шпіталь. Але я пачаў прымаць крамянёвую ваду. Праз некалькі тыдняў быў зусім здаровы. Якое гэта шчасце!

**Ларынгіт.** У Веры Ігнатаўны Белакоз, мае жонкі, якая 56 гадоў прапрацавала то настаўніцай, то экскурсаводам у музеі, вельмі балела горла. Першая і другая пасада патрабавала шмат гаварыць. У 1983 годзе яна звярнулася да мастоўскага ларынголага. Пачалося лячэнне. Працягвалася яно доўга, але беспаспяхова. У 1985 годзе Вера Ігнатаўна звярнулася да мяне з такім пытаннем:

— Ці не рак горла ў мяне? Колькі мяне лечаць, а горла баліць яшчэ горш.

— Не, Верачка, ніякага раку ў цябе няма.

— То чаму яны мяне не могуць вылечыць? — здзівілася яна.

Наступіў шчаслівы 1986 год. Мы пачалі піць крамянёўку — і о цуд! І мой хранічны фарынгіт, і Верын ларынгіт адступілі — мы вылечыліся. Пілі цеплаватую крамянёвачку па глытку, па дваццаць разоў за суткі. Калі горла перастала балець, то пілі крамянёўку пакаёвай тэмпературы, пілі малако з халадзільніка, пачалі есці марожанае. Цяпер ні ў яе, ні ў мяне горла ніколі не баліць. А крамянёўку я п'ю 22 гады.

**Карыес.** Зубы мне пачалі балець ад пяцігадовага ўзросту. Тады лячэння ніякага не было. Першы раз я папаў да стаматолага ў 1953 годзе. Ён мне сказаў, што зубы трэба чысціць два разы на дзень. Назваў пасту. Я гэтай пастай чысціў зубы па тры, а то і чатыры разы.

— Да саракагадовага ўзросту ў вас не застанецца ніводнага зуба, — пацешыў ён мяне.

Гэта значыць, што ў 1968 годзе я павінен быць зусім бяззубы. На шчасце, прароцтва стаматолага не збылося. Праўда,

па два разы кожны год з зубоў здымалі мне камень механічна, гэта значыць саскрабалі яго.

У 1986 годзе я заўважыў, што мае зубы белыя, а каменю няма. У 1987 годзе зайшоў у стаматалагічны аддзел абласной бальніцы. Пытаюся ў медсястры:

— Хто са стаматолагаў у вас самы дапытлівы, старанны?

— Загадчык нашага аддзела самы разумны: ён кандыдат навук.

— Ці можна да яго зайсці? — прашуся я.

— Калі ласка, — дазволіла яна.

Заходжу ў кабінет і пытаюся:

— Ці ўмееце вы здымаць камень з зубоў не механічным спосабам?

— Не, не ўмеем.

— У мяне камень сам зваліўся з зубоў, — хвалюся я.

— Это интересно, — кажа ён, — покажите зубы. Да, зубы изъедены камнем, а камня нет. Как вам это удалось?

— Я п’ю крамянёвую ваду — і камні з зубоў зніклі.

— Интересно! Очень интересно, — захапіўся зубнік, — а что это за кремневая вода?

— Гэта вада, настоеная на крэмені.

Я прынёс яму крэмень, але доктар мне не спадабаўся сваёю ганарлівасцю. Вось я і кажу:

— Вы прыйдзіце да мяне ў палату, то дам вам крэменю і раскажу, як рабіць крамянёвачку. То да пабачэння.

— До свидания, — адказаў ён.

Дайшоўшы да дзвярэй кабінета, кажу яму:

— То вы запішыце маё прозвішча.

Ён пачаў запісваць на нейкай газеце.

— Вы запішыце на заўтрашняй старонцы настольнага календара.

— Ах, да. Конечно.

Пачакаўшы крыху, кажу:

— Мне анколагі ў мінулым годзе радыяцыяй выпальвалі анкалагічны гуз на падэшве правай нагі, але папалілі здаровае месца, на якім у мяне страшная рана, якая не гоіцца, а гуза не апраменьвалі, то я прыехаў, каб лячылі рану. Запішыце, што я ў анкалогіі.

— Да, да! Я запішу…

Лічу, што такіх бракаробаў трэба выганяць у санітары або дворнікі. Аднак такія і там нашкодзяць. Вось якую медыцыну мы маем. З таго часу я дабравольна не звяртаюся да гэтых хабарнікаў ды бракаробаў.

Хворы ў анкалогіі просіць у хірурга:

— Доктар, можа, мне не трэба рабіць аперацыі: мне ваша лячэнне не дапамагае, аперацыя — гэта лішнія расходы, а ў мяне жонка, дзеці…

— Не, абавязкова вас трэба аперыраваць, — кажа хірург.

— Але ж чаму? — настойвае хворы.

— У мяне таксама жонка і дзеці, — адказаў лекар.

Ёсць нямала сумленных медыкаў. Адзін лекар настаўніцы, якая паклала яму ў кішэнь пяцьдзясят долараў, вярнуў ёй хабар і сказаў:

— З вучылак я не бяру.

Дарэчы, хірург Клячкоўскі, які ў 1977 годзе выратаваў мне жыццё, маёй шчырай падзякі не ўзяў. Яшчэ трапіліся мне ў жыцці чатыры лекары, якія таксама не ўзялі мае падзякі.

Памятаю, завёз я матулю да лекара ад Бога Мікалая Міхайлавіча Марцінчыка. Гэта быў 1975 год. Ён вызначыў, што ў матулі рак страўніка. Патэлефанаваў куды трэба, параіў, да каго звярнуцца, каб пакласці ў шпіталь. Я яму падзяку — незаўважна паклаў пад настольны будзільнік. Ён абурыўся і грошы мне вярнуў. Добрых слоў заслугоўваюць лекары Нічыпарук, Ламака. Няхай даруюць мне, але некаторыя прозвішчы лекараў ад Бога забыўся, бо маю 79,5 года.

Дык як жа я лячыў зубы? Калі ўбачыў, што ад крамянёвай вады камень з зубоў абвальваецца, то падумаў: «А можа, якаясьці зубная паста, якія часта мяняю, паўплывала на лячэнне зубоў?» Каб быць упэўненым, што крамянёвачка дапамагае, я перастаў чысціць зубы пастай, а ваду піць працягваю. Пакуль карыстаюся сваімі зубамі і ніякага дыскамфорту не адчуваю. Праўда, паміж зубамі часам сустракаецца крыху каменю. Хачу пачаць чысціць зубы крамянёўкаю. Думаю, што эфект будзе выключны.

Калі бывае, што часам забаліць зуб, то трымаю ў роце крамянёвачку. Дапамагае. Яшчэ лепш дапамагае, калі паміж

зубамі і шчакой пакласці медную пласцінку 25 × 35 міліметраў. Вынікі выдатныя. Цяпер зубоў засталося мала, то я шкадую іх вырываць. Таму бывае, што медную пласцінку трымаю ў роце па некалькі тыдняў. Зуб вылечваецца, а гэта нямала.

Можа, варта на хворыя зубы ставіць пазалочаныя медныя каронкі. Магчыма, такі зуб ніколі не балеў бы і захоўваўся б да двухсотгадовага ўзросту. Варта паспрабаваць.

**Катаракта.** Недзе ў 1998 годзе мне акуліст паведаміў, што ў левым воку маю катаракту. Я рашыў, што, маючы 70 гадоў ды пры анкалагічным захворванні, няма патрэбы лячыць катаракту: на тым свеце прымуць і сляпога, але ў хуткім часе я адчуў, што вока чэшацца, адчуваецца зацярушанасць вока. Узяў я пластыкавую бутэльку ад піва, напаліў графку на агні газавай пліты да чырвані і прапаліў у корку маленькую адтуліну. Укінуў у бутэльку тры маленькія краменьчыкі, наліў гатовай крамянёвачкі і над ракавінай націснуў на бакавыя сценкі бутэлькі. Крамянёвачка маленькім струменьчыкам абмыла вока. Другой фалангай вялікага пальца (яна самая чыстая) працёр вока, зноў пырснуў. Вока перастала часацца, прайшла запарушанасць. З часам хвароба прывыкае да леку, то цяпер бывае, што за дзень вочы прамыю разоў з 10–15. Цеплаватай вадзічкай прамываць вочы прыемней, то бутэльку стаўлю ля задняй сценкі газавай пліты: там найчасцей гарыць газ — там найцяплей. Сачу, каб вада не перагрэлася, каб была толькі цёплая, а не гарачая. Дзясяты год так лячуся. Мушу прызнацца, што хвароба прагрэсіруе, але ж у сябра, які лечыцца ў вядомых акулістаў і на лячэнне траціць многа сродкаў, хвароба прагрэсіруе яшчэ хутчэй. Пакуль чытаю, гляджу тэлевізар, але зрок пагаршаецца.

**Кроў з носа** ў мяне часта ішла ад дзяцінства аж да 1986 года. 22 апошнія гады ніколі больш кроў з носа не паказалася нават. Вось яна, сіла крамянёўкі. Кроў у тых, хто п’е крамянёўку, вельмі якасная, а здаровая кроў — гэта паратунак для ўсяго арганізму.

**Маршчыны.** У мяне часта пытаюцца:

— Вы маеце восемдзесят гадоў, а маршчынаў на твары няма. Чаму?

— Маршчынаў на твары няма таму, што я ўжо 22 гады п’ю крамянёвую ваду, склад якой вельмі блізкі да складу крыві.

У тых, хто сістэматычна п’е крамянёўку, кроў вельмі якасная. Такія людзі не хварэюць на лейкоз, на рак. Крамянёвая вада папярэджвае многія захворванні. Магчыма, і яна разам з меддзю і свіной жоўцю ратуе мяне ўжо 22 гады ад раку.

**Насмарк** мяне мучыў з дзяцінства. Матуля купіла 80 насовачак. Я, ідучы на працу, браў у кішэні па тры насовачкі. Цяпер у нас шэсць малюсенькіх насовачак, адну з якіх нашу тыдняў тры, пакуль яна ад часу не стане нясвежаю. Насмарк у мяне знік таму, што я п’ю крамянёвую ваду. Магчыма, уплывае і тое, што ад раку ратуюся меднымі пласцінкамі, якіх на ноч прыкладаю да цела каля 30 штук.

**Печань.** Калісьці знаёмы папрасіў, каб я яму параіў якісьці сродак ад боляў печані.

— Паспрабуйце нашча піць па шклянцы халоднай (хатняй тэмпературы) крамянёвай вады, — параіў я.

Сустракае мяне дзядзька Мікалай і дзякуе:

— Дапамагае крамянёвачка, але як нап’юся гарэлкі, то баліць, халера на яе.

— То вы не піце гарэлкі, — параіў я.

— Давядзецца кідаць.

На 22-м годзе анкалагічнага захворвання метастазы ў мяне дайшлі да печані. Я пачаў піць нашча па шклянцы халаднаватай крамянёўкі. Печань перастала балець. Пачаў забывацца рана пра шклянку вады, болі пачалі з’яўляцца. Я кладу на печань медную пласцінку 20 × 20 см. Болі сціхаюць. Паспрабуйце так ратавацца, напішыце мне пра вынікі. Будуць і іншыя парады.

**Прастуда.** Летам 1986 года я ляжаў у анкалагічным шпіталі. Пра крамянёўку яшчэ не ведаў. Былі пахмурныя дажджлівыя дні. У палаце халаднавата. У мяне з’явіўся насмарк. Я ўжо ведаў пра лекавыя ўласцівасці медзі. На ноч у кожную ноздру паклаў па адной двухкапеечнай меднай манеце. Рана прачнуўся, насмарк прайшоў, але адной двухкапеечной манеты няма. Абшукаў усюды, вынік адзін — няма. «Каб яна хоць не папала ў лёгкія», — спужаўся я. А тут сястра выклікае:

— Белокоз! На рентген грудной клетки!

Дакторка зрабіла рэнтген ды кажа:

— У вас у правым лёгкім кавалак металу з двухкапеечную манету, відаць, ад вайны.

Засумаваў, але адвярнуўся спіной да дакторкі ды адзяваюся.

Як закрычыць жанчына:

— Вы что, издеваетесь? Я вас из больницы выгоню!

— У чым справа? — пытаюся я.

— Вы зачем на спину приклеили двухкопеечную монету?

Я аж засмяяўся ад радасці: «Дык вось дзе мае дзве капейкі!»

Расказаў усё рэнтгенолагу ды пайшоў у палату.

Пасля гэтага выпадку я пачаў рабіць спружынкі з тоненькага меднага дроту. Спачатку драцінку на 30 см высмаргаю наждачнай паперай, каб яна блішчала, як залатая, пасля яе накручваю на аловак ці шарыкавую асадку. Атрымліваецца спружынка, якую ўстаўляю ў адну ноздру перпендыкулярна да прадоўжаных сценак ноздры, у другую ноздру ўстаўляю такую ж спружынку. Калі такія спружынкі ўставіць, як яшчэ няма насмарку, а толькі пачынаецца чханне, то захворванне зусім не будзе, калі ж спружынкі ўставіце пазней, то захворванне будзе вельмі лёгкае і хутка пройдзе, як увесь час будзеце ўстаўляць спружынкі. Іх (спружынак) зусім у носе не відаць — яны не перашкаджаюць.

Грыпу такія спружынкі не вылечваюць, але калі іх перад захворваннем і ў час захворвання ўстаўляць, то грып будзе праходзіць так лёгка, што вы не будзеце пэўныя, ці хварэеце.

Выкарыстаныя гадзін 8 спружынкі трэба раскруціць, дроцік зноў пачысціць наждачнай паперай; накруціць на аловак і закладваць у ноздры, аднак лячэбны эфект дзеяння ўжытых некалькі разоў спружынак зніжаецца. Найлепш кожны раз закладваць спружынкі са свежага дроціку.

Каб не прастуджвацца, трэба загартоўвацца. Каля хаты трэба адзявацца так, каб заўсёды было крыху халаднавата. Калі ж вы спацелі, то адзеньцеся цёпла нават у хаце, каб вам не стала холадна. Варта ў кватэры круглы год хадзіць у шкарпэтках, а яшчэ лепш босым, не злоўжываць шалікам.

Мой знаёмы вельмі бярогся. Дайшло да таго, што як ён адчыніць халадзільнік, то абавязкова захварэе на запаленне лёгкіх. Калі памерла ягоная жонка, то ён яе не забіраў з бальніцы,

а як хавалі яе, то нават не выйшаў з хаты. Гэта ж калецтва. Памёр ад запалення лёгкіх.

Яшчэ восенню 1969 года я па радыё пачуў польскага прафесара медыцыны, які тлумачыў: «Мужчына — да сарака, а пасля разваліна. Саракагадовым трэба берагчыся: у зімовы холад без цёплага паліто, без шаліка ды цёплага абутку нават не выходзіць з хаты». Я паслухаў прафесара: купіў сабе цёплае зімовае паліто, дарагі шалік, чэшскія чаравікі на футры. Нават па ваду да студні без фуфайкі не выходзіў. І, о жахі, я пачаў бясконца прастуджвацца. Да мяне дайшло, што нельга так берагчыся. Трэба, каб часта было халаднавата: выкінуў шалік, чэшскія чаравікі і цяпер стаяць новыя, а сам стараюся, каб як найчасцей крыху змерзнуць. Таму нават у свае 80 амаль не ведаю прастудных захворванняў. Памыляўся прафесар.

**Стрэмка.** У 1987 годзе пілаваў з сынам дровы ды ў далонь забіў стрэмку, якая была паралельна да скуры на міліметраў 8. Падумаў, што вельмі зручна будзе паназіраць, як стрэмка будзе паводзіць сябе. Назаўтра далонь пачырванела, а вакол стрэмкі сабраўся жоўты гной. Бінт згарнуў у шэсць столак ды лейкапластырам прыклеіў на далонь, а тады паліў крамянёвай вадой. Да вечара разоў шэсць паліваў далонь крамянёўкай, хоць рука ўжо не балела. Калі назаўтра адкінуў бінт, убачыў, што рука зусім здаровая, а стрэмка спакойна спачывае пад скурай. Восем дзён я назіраў за стрэмкай, а на дзявятым дні скура над стрэмкай пакрышылася, а стрэмка згубілася. Бывалі выпадкі, што стрэмка забівалася ўглыб. Адразу ж прыклейваў бінтава-ватны тампон, паліваў вадой. Хворае месца нават не чырванела, куды дзявалася стрэмка, не ведаю. Відаць, з крывёй выдалялася з цела. Жонка забіла вялікую стрэмку пад ногаць. «Ну, — кажа, — цяпер пацацкаюся. Такое было ў мяне ў дзяцінстве. Лекар рэзаў ногаць. Два месяцы руку насіла на павязцы».

— А ты абкруці палец ваткаю, забінтуй ды пакупай у крамянёўцы.

Праз гадзіну пытаюся, ці баліць.

— Як прыслухаюся, то, здаецца, крыху пабольвае.

— То яшчэ пакупай палец у крамянёвачцы.

Вечарам пытаюся:

— Ці баліць?

— Не, — кажа, — але як націсну, то пабольвае.

— Пакупай пальчык ды кладзіся адпачываць.

Назаўтра Вера Ігнатаўна кажа:

— Нават як націсну, то і тады не чую ніякага болю.

Так ратаваліся ад стрэмак пад ногцем і супрацоўнікі музея.

**Нетрыманне мачы ноччу (энурэз).** Звярнуўся сусед з такою бядою:

— Сынок ужо ў шостым класе, а ноччу мочыцца ў пасцельку. Былі ў лекараў. Не дапамагае.

— Перад сном у тазік наліце халоднай вады. Няхай ён патрымае ногі хвіліны дзве. Першы раз можна даць ваду пакаёвай тэмпературы, але не цёплую, бо ад цёплай хвароба ўзмоцніцца. І такое кожны вечар, аж пакуль не знікне захворванне.

Себасцьян Кнайп сцвярджае, што такое лячэнне дапамагае 75 % дзяцей. На шчасце, гэтаму хлопчыку дапамагло. Але быў выпадак, што халодная вада не дапамагла. Параіў на ніз жывата на ноч класці медную пласцінку на гумцы памерамі прыкладна 20 сантыметраў на 15 ці хоць на 10. Кажуць, дапамагло.

**Фарынгіт.** У 1968 годзе ў мяне працяглы час балела горла. Я пайшоў да лекара. Ён сказаў, што ў мяне фарынгіт, які не вылечваецца. Я лекару не паверыў і паехаў у Масты. Там мне сказалі, што трэба таблеткі стрэптацыду таўчы на парашок, а парашок есці, не запіваючы. Я раструшчыў дзве таблеткі, з’еў. Горла не балела гадзіны тры, а пасля зноў стала балець.

Я зноў паехаў у Масты:

— Колькі таблетак вы з’елі? — пытаецца лекар.

— Дзве, — адказаў я.

— Трэба стрэптацыд есці жменямі, — загадаў лекар.

Мне якраз тады доктар Мартынчык казаў, каб асцерагаўся стрэптацыду, бо ад яго рак. Так я мучыўся з фарынгітам.

У 1986 годзе я пачаў піць крамянёвую ваду. Праз нейкі месяц ці можа два горла перастала балець, і назаўсёды.

**Кошасць (перхаць).** Пасля мыцця галавы памачыць валасы крамянёвай вадой. Спачатку можна нават кожны дзень, пазней дастаткова раз на тыдзень. Кошасць знікне, а валасы будуць прыгожыя.

*Нетрыманне мачы днём.* Бабулька паскардзілася, што пасля інсульту з'явілася нетрыманне мачы днём.

— Тае мачы, можа, з лыжку, а не дабягу да туалета.

Я ёй параіў дыхаць у апарат «Самздраў» (Бутэйкі). Дапамагло.

*Тоўстая скура на пятках*, немагчыма ступаць на пяткі. Патрушчыць на парашок адну таблетку анальгіну і адну таблетку аспірыну. Узяць квадратны дэцыметр (прыкладна) тоненькай поліэтыленавай плёнкі, выразаць амаль такую палатняную латку (меншую), пакласці латку на плёнку, высыпаць на латку патоўчаныя таблеткі і паліць іх добра ёдам. Прыкласці латку з плёнкай да пяткі, замацаваць усё гэта бінтам ці доўгім кавалкам плёнкі або тканіны, надзець на ступню поліэтыленавы пакецік, каб не папэцкаць шкарпэтак, адзець шкарпэткі і так хадзіць. Працэдуру выконваць два разы за суткі на працягу 12 дзён, а часам і больш. Пасля наліць у тазік крыху гарачай вады і адмочваць нагу з гадзіну, увесь час даліваючы вару. Пасля гэтага тоўстая скура (да 5 мм) адстане. Праз два тыдні вы будзеце зусім здаровыя.

Кажуць, што добрыя вынікі дае і такі спосаб: патрэбна звярнуцца да чалавека, які мае авечак. Папрасіць у яго, як будзе стрыгчы авечку, то абножак (воўна з гноем, збітая на жываце ў бубешкі) не выкідваць, а аддаць вам. Гэтай нямытай воўны пакласці ў шкарпэткі і так хадзіць, пакуль не адстане тоўстая скура з пяткі. Гады праз тры лячэнне трэба паўтарыць.

*Наросты-косткі*, якія вырастаюць у некаторых жанчын на ступнях збоку, каля вялікага пальца. Пакуль медыцына не ўмее ваяваць з імі. Крыху дапамагае, калі да гэтых костачак збоку прыклеіць лейкапластырам кавалачак меднай фольгі ці тоненькай меднай бляхі. Пажадана лячыць костачкі ў пачатку захворвання: медзь перашкаджае росту бакавой косткі. Варта такія медныя накладкі насіць і днём і ноччу. Эфект будзе. Практыка паказвае: дапамагаюць кампрэсы са свіной жоўці.

*Болі ў суставах ног і рук*. Забалела калена. Думаю: «Не буду прыкладаць медзі: можа, самі болі пройдуць».

Назаўтра калена балела мацней, а паслязаўтра я вымушаны быў прыкладаць медзь. Дапамагла толькі на шосты дзень. Зразумеў, што прыкладаць трэба адразу. Забалела ў жонкі

нага ў бядры, каля костачкі, у крыжах, калена. Пачала класці медзь — не дапамагае. Давай я рабіць масаж кожную раніцу і вечарам таксама. Праз некалькі дзён вылечылася.

**Камяні ў нырках**. Ці не ў 1978 годзе я зайшоў да хірурга ад Бога Валяр'яна Іванавіча Нічыпарука і кажу:

— Мы ў музеі ствараем аддзел народнай медыцыны. Улады лаюць нас за гэта, а як вы думаеце?

— Народная медыцына — гэта невычэрпная крыніца для навуковай медыцыны. Толькі вы нідзе не прагаварыцеся, што я так казаў.

— А чаго вам баяцца? Вы ж на пенсіі.

— Вы не ведаеце гэтых свалачэй. Яны знойдуць, да чаго прычапіцца.

— А чаму вы так верыце ў народную медыцыну?

— Калісьці да мяне на лячэнне папаў дзядок з камянямі ў нырках. Я абследаваў яго ды кажу, што сэрца вельмі слабое, не вытрымае аперацыі, а камяні вялікія.

— То буду паміраць без аперацыі, — кажа дзед.

— Паміраць няма патрэбы. Я вам скажу, як вылечыцца, але вы дайце слова, што нікому не раскажаце, як я вас вылечыў, і што як выздаравееце, то прыедзеце ў бальніцу на абследаванне.

Дзядуля паабяцаў выканаць патрабаванні хірурга. Тады лекар расказаў дзеду такое:

— Мне бабуля, народная лекарка, варажбітка, паведаміла такое: пры камянях у нырках бабуля раіць хвораму піць адвар бульбяных лупінаў. Вы бульбяных лупінак не выкідайце, а нават папрасіце ў нявестак, каб яны бульбяных лупінаў не парылі свінням, а вам аддавалі. Вы іх перамыйце, у чыгунку ці каструлі спарце, адцадзіце і гэты адвар піце ў любы час замест вады. І так цэлы год. Камяні растворацца.

Праз год дзед прыехаў з гарэлкай першаку, з кумпяком ды паляндвіцай, з літровым слоікам ліпавага мёду. Мы добра з ім замачылі ягонае выздараўленне. Пераначаваў ён у мяне, а заўтра я паклаў яго ў бальніцу на абследаванне. Камянёў не засталося і следу.

Я падумаў, што камяні растваpаюцца ў нырках, то лупінны адвар можа растварыць камень — навар у чайніку.

Насыпаў поўны чайнік бульбяных лупінаў ды зварыў іх у чайніку, пастаяў адвар суткі, я паспрабаваў чысціць камень. Са сценак камень счысціўся добра, а з дна не адставаў. Я яшчэ раз адварыў лупіны. Цяпер з дна навар аблез, але ў кутках паміж дном і сценкамі яшчэ трымаўся. Я трэці раз зварыў бульбяныя лупіны. У чайніку навару не засталося. Вось яна, сіла народнай медыцыны.

**Сутарга.** Калі ў мяне з'яўляецца сутарга, то я на лыткі ног кладу па некалькі медных пласцінак. Хвароба вылечваецца. Дапамагаюць ад сутаргі таксама асінавыя трэскі (дошчачкі), якія трэба прыкладаць да хворага месца. Любую сваю хваробу старайцеся вылечыць меддзю, жоўцю, крамянёвачкай.

**Лячэнне трэмару (дрыжання галавы).** У майго бацькі пасля 60–70 гадоў ад роду назіралася захворванне — так званы трэмар. Такая ж хвароба спасцігла мяне ў 90-я гады. Бацька і я да лячэння гэтай хваробы да лекараў не звярталіся. Лічылі, што тамашнія лекары гэтую хваробу тады не ўмелі лячыць.

У 1990-я гады стаў выдавацца ў г. Магілёве часопіс «Дамашні доктар». Гэтае выданне адразу заваявала папулярнасць не толькі ў Беларусі, але і ва ўсіх рэспубліках былога Саюза. Таму рэдакцыя ў Магілёве вырашыла змяніць назву часопіса, назваць яго «Народный доктор» і выдаваць яго на рускай мове з тым разлікам, каб зацікаўленыя асобы ўсіх былых рэспублік мелі магчымасць удзельнічаць, стаць падпісчыкам гэтага выдання, атрымалі магчымасць абменьвацца цікавымі рэцэптамі ў вылечванні тых захворванняў, якія не ўмела ў той час лячыць афіцыйная медыцына.

Я падпісаўся на гэты часопіс. У той час актыўна ў гэтым часопісе ўдзельнічаў з Сахаліна нейкі навуковец, які друкаваў розныя рэцэпты, у якіх расказваў аб карысці лячэння бульбяным ядам саланінам. Як прафесійны выкладчык фізікі, я лячыў гэтым ядам захворванне горла. І праз некалькі год я заўважыў, што адным выстралам забіў двух зайцоў — вылечыў горла, і знік мой трэмар. Не менш як 18 год мяне не турбуе ні фарынгіт, ні ларынгіт, і трэмар таксама. А лячэнне гэтых хвароб праводзіў так: падбіраў пазелянелыя на сонцы бульбяныя клубні. Мыў іх. Пазелянелую вонкавую частку бульбіны рэзаў нажом на лупі-

ны, а з гэтай зелені здабываў бульбяны сок сокавыціскалкай. Атрымліваўся бульбяны сок, у якім утрымліваўся яд саланін. Для кансервацыі сок разбаўляў на 50% гарэлкай і захоўваў у шкляной закаркаванай бутэльцы. Лячэнне горла рабіў так: па чайнай лыжцы 3 разы ў дзень за паўгадзіны да яды выпіваў. Курс лячэння канчаўся, як вылечвалася горла.

*(Лячэнне саланінам выконваў аўтар Міхась Амялішка.)*

## Спіс выкарыстанай літаратуры:

1) Інтэрв'ю Алеся Белакоза ў этнаграфічным музеі вёскі Гудзевічы. Красавік 2004 г.

2) Інтэрв'ю Алеся Белакоза ў этнаграфічным музеі вёскі Гудзевічы. Жнівень 2007 г.

3) Вялікія і жывыя. Інтэрв'ю з Алесем Белакозам. 2011. 30 крас.

4) Інтэрв'ю Алеся Белакоза ў этнаграфічным музеі вёскі Гудзевічы. Жнівень 2011 г.

5) Інтэрв'ю Алеся Белакоза ў этнаграфічным музеі вёскі Гудзевічы. Жнівень 2012 г.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Амялішка** Міхась Васільевіч

**Як жыць, дык жыць для Беларусі**

*Гутаркі з Алесем Белакозам*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 15.11.2012. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$. Друк на рызографе.
Папера афсетная. Ул.-выд. 5,32 арк. Ум. друк. 6,98 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 845.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.